

**Аўген КАЛУБОВІЧ - КАХАНОУСКІ**
Навуковец, прасьветнік, палітык
і заслужаны грамадзкі дзеяч.


# БЕЛАРУСКІ СЬВЕТ
## BYELORUSSIAN WORLD

**№ 20 (49) — 1988**

# РУЧНІКІ

*Сл. В. ВЯРБЫ* *Муз. М. ПЯТРЭНКІ*

Allegretto

У су_ бо_ ту Ян_ ка е_хаў ля ра_ кі, пад вярбой А_ лё_ на

мы_ла руч_ ні_ кі. — Па_ка_ жы, А_ лё_ на, бро_ды зем_ ля_ ку,

1. 2. 3. 4.

дзе тут пе_ ра_ е_ хаць на ка_ ні ра_ ку? /_лі...

У суботу Янка ехаў ля ракі,
Пад вярбой Алёна мыла ручнікі.
— Пакажы, Алёна, броды земляку,
Дзе тут пераехаць на кані раку?

— Адчапіся, хлопец, едзь абы-куды,
Не муці мне толькі чыстае вады.
У маркоце Янка галавой панік,
Упусціла дзеўка беленькі ручнік.

— Янка, мой саколік, памажы хутчэй,
Ой, плыве, знікае ручнічок з вачэй.
— Любая Алёна, я вады баюсь.
Пацалуй спачатку, што як утаплюсь?

Супыніўся гнеды пад вярбой густой,
Цалаваў Алёну Янка над вадой,
Стала ціха, ціха на ўсёй зямлі,
Па рацэ далёка ручнікі плылі...






*Да 150-годдзя з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага*

Іна КАХАНОЎСКАЯ (ЗША)

# СЫН ВЕРНЫ МАЦІ - БЕЛАРУСІ

Беларусь! Беларусь! .. Тваё месца ў маім сэрцы нікім не занятае. Із вольнага сьвету я яшчэ лепей бачу, што Табе не стае ўсё тых-жа трох рэчаў: свабоды, свабоды й яшчэ раз свабоды!

А. Каханоўскі, запіс у дзёньніку, 25-га сакавіка, 1973 году.

Мой муж — Аўген Каханоўскі пайшоў на пэнсію ў ліпені 1972 году. Нялёгкія гады фізычнае працы на фабрыцы скончыліся. На разьвітаньне сябры-рабочыя справілі яму «farewell party»: сфатаграфаваліся зь ім, падаравалі прыгожы гадзіньнік, зрабілі для ўсіх пачастунак і, галоўнае, кожны пажадаў яму шмат шчасьця й здароўя. Увага сяброў на працы глыбока кранула Аўгена. Дамоў ён прыехаў шчасьліва ўзрушаны.

Мы тады жылі ў Westlake, блізка возера Erie. Мелі ўтульны дом, каля дому дзялянку зямлі зь зялёнымі траўнікамі, кветкамі, маладымі фруктовымі дрэўцамі. Жылі ў гэтым месцы ўжо некалькі год, але ў той ліпнёвы дзень усё навокала здавалася нам па-новаму прывабным. Вырашылі зрабіць сабе сьвята. Паехалі на возера, плавалі, загаралі на гарачай ад сонца пяшчанай пляжы. Знайшлі рэстаран у парку ля возера, там паабедалі. Дамоў не сьпяшаліся. З узьнятым настроем абмяркоўвалі пляны будачага. Аўген моцна цешыўся, што цяпер ён зможа прысьвяціць увесь свой час любімай літаратурнай і навуковай працы. Я цалкам падзяляла ягоную радасьць.

Вяртаючыся дахаты, не прамінулі зазірнуць у кнігарню. Пакуль я разглядала кніжныя навінкі ды выбрала для куплі пару часапісаў, Аўген пасьпеў купіць вялікі сшытак (300 бачынак) у цьвёрдай вокладцы, упрыгожанай пазалотай. Я зьдзівілася:

— Навошта табе такі сшытак?

— Дзяржаўная таямніца, — адказаў ён сьмяючыся.

Але дома адразу сеў за пісьмовы стол у нашай бібліятэцы й зрабіў першы запіс у сшытку: «8. 7. 1972 — Сёньня купіў гэты сшытак, каб весьці дзёньнік. Што буду тут запісваць, яшчэ ня ведаю, але час-ад-часу штось занатую. Учора закончыў сваю рабочую кар'еру ў ЗША: 22 гады без двух месяцаў, у 2-ух маленькіх фабрыках у Нью-Ёрку (верасень 1950 — кастрычнік 1951) і ад лістапада 1951 у Клыўлэндзе — New-Tronik, Inc. Ад сёньня я ўжо на пэнсіі (Social Security). Мушу закончыць мае працы зь літаратураведы, над якімі працаваў у гадзіны адпачынку ад фабрычнае працы, і выдаць іх. Гэта будзе найбольшая мэта рэшты жыцьця».

Аўген — сын Тодара й Марыі Калубовічаў нарадзіўся 5. 3. 1910 г. у мястэчку Ціхінічы, Рагачоўскага раёну, Гомельскай вобласьці. Ягоны бацька быў службоўцам. Сваё маленства Аўген заўсёды ўспамінаў зь пяшчотай і замілаваньнем. Гадаваўся ён у вялікай сям'і — меў брата й тры сястры. Бацькі любілі дзяцей, даглядалі добра. Насупраць м. Ціхінічаў, праз раку

Дабрыцу, мясьцілася вёска Слапішча, дзе жылі дзед і баба Калубовічы. У іхным садзе расьлі салодкія сапяжанкі, духмяныя антонаўкі, а на пасецы стаялі вульлі з пчоламі. У дзедавай хаце для ўнука пастаянна меліся ласункі.

Аўген скончыў пачатковую школу ў сваім мястэчку, сямігодку ў Рэчыцы, а ў 1930 годзе Пэдагагічны тэхнікум у Бабчыне. 30-га траўня таго-ж году быў арыштаваны за прыналежнасьць да беларускай нацыяналістычнай арганізацыі Альтруістаў і прыгавораны на тры гады зьняволеньня. Пакараньне адбыў у канцэнтрацыйных лягерох на Далёкім Усходзе СССР.

Вясною 1933 г. вярнуўся на бацькаўшчыну. Адразу яму нават пашанцавала ўладзіцца настаўнікам пачатковае школы. На жаль, шанц трываў коратка: у красавіку 1934 году звольнілі з пасады. Некалькі месяцаў стараўся, каб аднавілі на працы. Нічога не дапамагала. Хойніцкі Раённы Аддзел Народнае Асьветы прапанаваў яму непасрэдна зьвярнуцца ў Наркамат Асьветы БССР. Трэба было ехаць у Менск. Ехаць у Менск? Калі сядзіш бяз працы, калі ня маеш грошай? Што рабіць?

Зь бяды выручыў бацька, які ў той час працаваў у саўгасе на бровары бухгальтарам і быў у добрых адносінах з дырэктарам саўгаса Юрачкам. Бацька расказаў Юрачку пра клопаты свайго сына. Дырэктар ня толькі паспачуваў, але ўзяўся дапамагчы.

Быў той Юрачка старым камуністым, сябрам Таварыства паліткатаржанаў. Ён напісаў ліст да старшыні ЦВК БССР — Аляксандра Чарвякова, якога добра ведаў з маладых год. У лісьце прасіў пасадзейнічаць юнаку. Даручыў Аўгену адвезьці ліст у Менск самому, а не слаць па пошце.

Паездка зь лістом да А. Чарвякова завяршылася поўнай удачай: Наркамат Асьветы аднавіў яго на пасадзе настаўніка, а Гарадзкі Аддзел Народнай Асьветы прызначыў за настаўніка ў самым месьце.

Ад 1934-35 навучальнага году, ён працаваў у Менску выкладчыкам беларускае мовы й літаратуры, а таксама вучыўся ў Менскім Пэдагагічным Інстытуце. Па сканчэньні Інстытута ў 1939 годзе займаў пасаду кансультанта — мэтадыста ў Наркамасьвеце.

Адно-ж, праз усе гады жыцьця ў Менску ягоная праца, вучоба, свабода заўжды ліпелі на валаску. Ён ніколі ня быў пэўным, што прынясе яму наступны дзень. Некалькі разоў на год адбіралі ў яго на праверку пашпарт, а Атэстацыйная Камісія, якая ў 1936-38 гадох праводзіла атэстацыю настаўнікаў, давала аб ім адмоўную характарыстыку.

У час Другой Сусьветнай вайны Аўген улучыўся ў рады змагароў беларускага нацыянальнага актыву, якія ў вельмі небясьпечных умовах мужна баранілі свой народ, сваю маці - Беларусь. Ён быў сябрам Беларускае Рады Даверу (1943), сябрам Беларускай Цэнтральнай Рады, старшынёй Беларускага Культурнага Згуртаваньня, кіраўніком Аддзелу Культуры.

На Другім Усебеларускім Кангрэе (1944 г.) зрабіў рэфэрат на тэму «Аб канчальным разрыве Беларусі з Масквою й аб уневажненьні маскоўскага голасу ў беларускіх справах». У рэфэраце, з уласьцівай для яго дакладнасьцю, абаснаваў правы беларускага народу на вольную, незалежную Бацькаўшчыну.

Ад сярэдзіны 1944 году, Аўген жыў у Нямеччыне. І там, да самага канца вайны й пасьля яе, ён не спыняў сваёй культурнай і палітычнай дзейнасьці.

На бяду, згодна пагадненьням, прынятым на Крымскай Канфэрэнцыі (Ялта — 1945 г.), склалася благая сытуацыя для ўцекачоў з Усходняй Эўропы. У найгоршым становішчы апыніліся былыя грамадзяне СССР: над імі пагрозьліва схіліўся цень прымусовай рэпатрыяцыі «на родину». Зразумела, занепакоеныя людзі мусілі шукаць ратунку. На тэрыторыі Аўстрыі, Заходняй Нямеччыны пачалі ўтварацца нацыянальныя камітэты, якія давалі людзям параду, дапамогу, а калі было неабходна ратаваць свабоду чалавека, выраблялі яму патрэбныя дакуманты. У месьце Рэгенсбургу паўстаў Беларускі Нацыянальны Камітэт. У арганізацыі й працы гэтага Камітэту чынны ўдзел прыймаў Аўген.

Непакора бежанцаў выклікала абурэньне Сталінскага рэжыму. Ягоны прадстаўнік — А. Я. Вышынскі, выступаючы 6-га лістапада 1946 году на паседжаньні 3-га камітэту Гэнеральнай Асамблеі Аб'яднаных Нацыяў, прапаноўваў: «...ликвидировать эти вредные организации (нацыянальныя камітэты — ІК), а их вожаков посадить в тюрьму для первого раза, для того, чтобы повесить их — для второго раза». Не забыўся ён у сваёй прамове й на беларусаў: «...укажу на «белорусский комитет» в Регенсбурге, занимающийся пропагандой за отторжение Белоруссии от СССР и тоже изготовляющий фальшивые, фашистские документы».

Па гарадох і вёсках, дзе канцэнтраваліся ДП лягеры, шнырылі савецкія Рэпатрыяцыйныя Місіі, шукалі сваіх непаслухмяных грамадзянаў. Ня трэба дзівіцца, што шмат хто, каб выратавацца ад рэпатрыяцыі, набываў сабе новае прозьвішча. Вось тады А. Калубовіч стаў А. Каханоўскім.

Як Каханоўскі працягваў Аўген сваё жыцьцё й дзейнасьць у Нямеччыне. У 1950 годзе пад гэтым прозьвішчам эміграваў у Злучаныя Штаты Амэрыкі. Пад гэтым прозьвішчам шчасьліва тут жыў, працаваў і памёр 25-га траўня 1987 году.

---

## БІБЛІЯГРАФІЯ
## ПУБЛІКАЦЫЯЎ АЎГЕНА КАЛУБОВІЧА

КНІЖКІ:

1. **Паэтычная стылістыка (Лексыка. Сэмантыка. Сынтакс.).** Выдавецтва «Крыніца», Нямеччына, 1947, падпісана псэўданімам А. Верасень

2. **Пясьняр свабоды й красы (у 30-ыя ўгодкі сьмерці М. Багдановіча).** Выданьне Беларускай Гімназіі, Баварыя, Нямеччына, 1947, падпісана псэўданімам А. Верасень

3. **Мова ў гісторыі беларускага пісьменства, кн. 1: Лёс помнікаў старога беларускага пісьменства (рукапіснага й друкаванага),** Мюнхэн - Лёндан, 1974 - 1975

4. **Мова ў гісторыі беларускага пісьменства, кн. 2: Дасюлешні стан вывучэньня помнікаў беларускага пісьменства X - XVIII ст. ст. (Гістарыяграфічны агляд),** Клыўлэнд, ЗША, 1978

5. **Янка Купала і Якуб Колас. 1882 - 1982.** Вянок успамінаў пра іх, ЗША. (укладальнік, рэдактар і адзін із аўтараў)

6. **«Айцы» БССР і іхны лёс»,** Клыўлэнд, 1982. Выданьне 2-ое (із дадаткам Іменнага паказальніка й Рэзюмэ ў ангельскай мове), Клыўлэнд, 1985

7. **На Крыжовай Дарозе** (Успаміны), Клыўлэнд, 1986

ПРАЦЫ ЗЬ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ:

8. **Як бальшавікі нішчылі нашыя кнігі.** «Беларускі Работнік», Бэрлін, № 29 за 16. 7. 1944 (передрук з менскае «Беларускае газэты») падпісаны псэўданімам А. Ясенскі

9. **Альгэрд Абуховіч** — час. «Беларуская Думка», Нью Ёрк - Саўт Рывэр, № 14, 1971 - 1972, бб. 13-14

10. **Мова ў гісторыі беларускага пісьменства, 1, Уводзіны: Лёс помнікаў старога беларускага пісьменства (рукапіснага й друкаванага)** — час. «Божым Шляхам», Лёндан, 1974, №№ 1(139) - 4(142)

11. **Невядомыя нпавяданьні XIV і XV ст. ст.** — час. «Божым Шляхам», Лёндан, 1975, № 3-4 (145-146), бб. 11-15

12. **Дзіўная рэцэнзыя** — час. «Божым Шляхам», Лёндан, 1976, № 1-2 (147-148), бб. 26-29

13. **Пясьняр свабоды й красы (М. Багдановіч)** час. «Беларускі Сьвет», № 6 35), 1979, бб. 4-11

14. **Arnold B. McMillin, Die Literatur der Weissrussen. A History of Byelorussian Literature. From its Origins to the Present Day.** 447 pp. 1977, W. Schmitz Verlag in Giessen (рэцэнзія) — час. «Божым Шляхам», 1979, № 150, бб. 49-51

ПРАЦЫ ЗЬ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ:

15. **Праф. М. Доўнар-Запольскі й Акт 25-га Сакавіка** — час. «Беларуская Думка», Нью Ёрк - Саўт Рывэр, 1964, № 6, бб. 3-7

16. **Рэха 1-га Усебеларускага Кангрэсу на Захадзе** — час. «Беларуская Думка», 1967 - 1968, № 10-11, бб. 7-11

17. **Магілёў у Паўночную вайну (паводле летапісу Магілёва)** — час. «Божым Шляхам», Лёндан, 1973, № 2 (136), бб. 13-18

18. **Архіяпіскап Варлаам (Шышацкі) (1749-1823)** — час. «Беларуская Думка», 1973 - 1974, № 16-17, бб. 5-8, 27

19. **Нашы Папярэднікі** — час. «Беларуская Думка» 1974-1975, № 18-19, бб. 7-16

20. **«Айцы» БССР і іхны лёс (1975)** — газэта "The Byelorussian Times" (Час), 1978, № 13, бб. 6-7; № 16-17, бб. 10-12

21. **25 год парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Клыўлэндзе** — час. «Голас Царквы», Бруклін (Нью Ёрк), 1976, № 46, бб. 5-11

22. **Праф. Вацлаў Іваноўскі й Беларуская Рада Даверу (40 год таму назад)** — час. «Беларуская Думка», 1983, № 27-28, бб. 11-16

23. **Мікола Шчаглоў (Куліковіч)** — час. «Беларускі Сьвет», 1984, № 15 (44) бб. 4-14

24. **Акт 25-га Сакавіка й адраджэньне нацыянальнай беларускай культуры** — газ. "The Byelorussian Times" Час), 1986, № 53, бб. 4-6; № 54, бб. 3-4; № 56, бб. 3-4, б. 6

УСПАМІНЫ:

25. **Якуб Колас і Янка Купала** — «Беларуская Думка», 1973, № 15, бб 7-12

26. **На Крыжовай Дарозе** — час. «Беларуская Думка», № 20, 1976, бб. 2-7;

№ 21-22, 1977-1978, бб. 1-8; № 23, 1979, бб. 6-12 і 25; No 24, 1980, бб. 4-16 і 22; № 25-26, 1981-1982, бб. 16-28; № 29, 1984, бб 10-25; No 30, 1985, бб. 4-21. Часапіс «Божым Шляхам», № 150, 1979, бб. 33-36. Газэта "The Byelorussian Times" (Час), № 41, 1983, бб. 7-8; № 42, 1983, бб. 6-8; № 43-44, 1983, бб. 8-11; № 45, 1984, бб. 7-8

---

**Аўген Калубовіч**

# НАШЫ ПАПЯРЭДНІКІ*)

Дзьвіна! Рака мае айчыны!.. Суседка блакітнага Нёману... узгадаваная ў аднэй калысцы з Дняпром! Вось я — сын твой, ахрышчаны тваёй вадою, ад пялёнак да юнацтва выпешчаны тваім дыханьнем, навучаны тваёй мове, вірам зайздраснага лёсу аддалены ад цябе — з далячынь чужога сьвету шлю табе вітаньне... Прымі яго, маці.

А. Рыпінскі, Лёндан, 1850-ыя гг.

Мінае 40 год ад часу, калі нашая хваля эміграцыі пакінула Беларусь. Дата гэтая выклікае шмат розных пачуцьцяў, думак, разваг. А ў тым і пытаньні: хто былі нашы папярэднікі? Што змусіла іх эміграваць? І які іхны лёс?

Паспрабуем з даступных нам крыніцаў пашукаць адказу на пастаўленыя пытаньні, маючы на ўвазе эміграцыю ад самых ейных пачаткаў і да сёньняшняга дня. Гэта ня будзе яшчэ гісторыя эміграцыі (як часткі агульнай гісторыі беларускага народу), а ўсяго некаторыя схэматызаваныя да яе фрагмэнты. І нат ня столькі пра саму эміграцыю, ейныя арганізацыі й дзейнасьць (хоць тое-сёе скажам і пра гэта), колькі пра дарогі, што вялі на эміграцыю зь Беларусі й пра саміх эмігрантаў — нашых папярэднікаў.

У часапісе «Беларуская Думка» за 1974-75 гг. [1]) ёсьць наш артыкул на гэту тэму. Яго мы й кладзем тут у аснову новае публікацыі, дзе што скараціўшы ў ім, а галоўна — дадаўшы новыя матэрыялы.

Да канца XVIII ст. беларускія эмігранты — рэдкія, паадзіночныя асобы. Вялікае княства Літоўскае належала да праўных дзяржаваў, і ейным грамадзянам была адкрытая дарога замежы. Права гэтае, упяршыню зарэгістраванае прывілеем в. кн. Казімера 1457 году, упісанае ў Статут 1529 году. Яно давала гварантыю, «абы княжата и панове хоруговные, шляхта и бояре преречоные (и кождый человѣкъ рыцерскій и всякого стану [2]) мели вольную моц выйти с тех земль наших Великого князьства... для набытья лепшого щастья своего и навченя... до всяких земль чужих, кром неприятелей наших» [3]). І гэта ня была пустая дэкрарацыя. Мы ведаем, што сотні беларусаў, асабліва студэнцкай моладзі, хадзілі й езьдзілі ў краі Нямеччыны, Італіі, у Швайцарыю, Францыю, Галяндыю, Чэхі... і вольна вярталіся назад.

Праўда, былі й эмігранты, і некаторых зь іх мы можам назваць:

Івана Ліцьвіна, заснавальніка друкарства ў Лёндане, які друкарству навучыўся ў Рыме ад Ёгана Бульле з Брэмэну. У 1480 годзе ў ангельскай сталіцы ён выдаў

---

*) Артыкул напісаны ў 1984 годзе.

індульгэнцыі папы Сыкста IV супраць туркаў, кніжку Антона Андрэ "Quaestiones super XII libros metaphysicae Aristotelis", у 1481 годзе — камэнтар да псальмаў Тамаша Уалензіса. Каля 1482 году, ужо разам з другім друкаром, Вільямам з Мэчліну, яшчэ пяць кніжак (Thomas Littleton. Tenores Novelli, і інш.), а ў 1483 годзе кудысь выехаў. [4]) Ня выключана, што ў Кракаў, дзе ў тым-жа годзе паўстала друкарня Швайпольта Фэоля ў супалцы зь якімсь Іванам, якога С. Старавольскі ў бібліяграфічнай працы «Гэкатонтас» у 1625 годзе называе Іванам Галерам, дбаўшым «клясычныя навукі, у розных мовах і рознымі літарамі друкаваныя, шырыць на пажытак паўночных народаў» [5]), польскі дасьледчык Я. Птасьнік [6]) — называе Іванам Яклем, а ўкраінскі З. Кузеля [7]) — Янам Турсонам. Хоць мы й ня ведаем з пэўнасьцю, ці Іван Ліцьвін і супольнік Ш. Фэоля — адна й тая-ж асоба; як і ня ведаем дакладна, хто-ж ён, гэты лёнданскі першадрукар — ці адзін з былых паслоў праваслаўнага мітрапаліта Вялікага княства Літоўскага Місаіла да папы Сыкста IV у 1476 годзе Іван, малодшы брат Аляксандра Солтана (які мог застацца ў Рыме навучыцца там друкарству й выехаць у Лёндан), ці Іван Багдановіч або Іван з Полацку (абодва ў 2-ой палове XV ст. скончылі філязофскі факультэт Праскай акадэміі [8]), ці ізноў яшчэ хтось, — ягонае паходжаньне з Вялікага княства Літоўскага даводзяць ангельскія гісторыкі. [9])

Слаўнага Францішка Скарыну з Полацка, які столькі прыслужыўся свайму народу й так любіў свой край, а ў 1534 годзе зь нявыясьненых дагэтуль прычынаў пакінуў Беларусь і зь сям'ёю пайшоў на эміграцыю, у Чэхі, дзе служыў за садоўніка ў караля Фэрдынанда Габсбурга, заснаваў ля Прагі на Градчанах каралеўскі парк і ў 1540 годзе пмёр.

Навукоўца, пісьменьніка й друкара Ільлю Капіевіча, «недасека» з Мсьціслава, які скончыў Слуцкую кальвінскую калегію, невядома калі й чаму выехаў у Галяндыю (Амстэрдам) і быў там за пратэстанцкага пастыра. Ад 1699 году ў друкарні Яна Тэсінга, а ад 1701 году ў заснаванай ім уласнай выдаў болей за 20 кніг, зрэфармаваў кірылічны шрыфт у гражданку. У часе Паўночнай вайны вярнуўся ў Віцебск, скуль Пятром I быў зманены ў Маскву з сваёй друкарняй, дзе друкаваць яму не дазволілі, а друкарню адабралі; пасьля чаго, расчараваны, не зважаючы на глыбокую старасьць (каля 80 год), разам з дачкою, выехаў назад у Амстэрдам і там у 1714 годзе памёр.

Філёзафа Сьцяпана Аскерку, сына Навагрудзкага каштэляна, які пасьля Слуцкай кальвінскай калегіі прадаўжаў навуку ў Каралеўцы й Бэрліне. У 1733 годзе, будучы паслом на сойм ад Мазырскага павету, выехаў у Варшаву на каранацыю новага караля, Аўгуста III. У дарозе аднак зьмяніў плян, перасек нямецкую мяжу, выдаўшы сябе за студэнта, што едзе ў Франкфурт. Так эміграваў у Прусію, быццамбы ад прасьледу язуітаў, як сам пра гэта напісаў у Бэрліне ў 1734 годзе ў кніжцы сваіх мэмуараў. Там з часам трапіў на службу да караля Фрыдрыха II, быў ягоным юрыдычным дараднікам, за што на прадмесьці Бэрліну атрымаў двор Ліхтэнбэрг. У 1762 годзе ў Бэрнбэрзе выдаў панямецку сваю філязофска-эканамічную працу «Няпрыкладны плян», [10]) у якой выказаў ідэі, якія пазьней разьвівалі Анры Сэн-Сімон, Шарль Фур'е, Робэрт Оўэн.

Былі й іншыя паадзіночныя эмігранты, ды пра іх мы мала ведаем.

Масавыя хвалі палітычнай беларускай эміграцыі пачаліся ад часу заваяваньня й далучэньня Беларусі да Расейскай імпэрыі ў канцы XVIII ст. Прычыны, якія іх

выклікалі — нацыянальна-вызвольнае паўстаньне 1794 году, напалеонаўская вайна 1812 г., антырасейскія паўстаньні 1831 і 1863-64 гг., расейская рэвалюцыя 1817 году й упадак БНР, нацыянальны, палітычны й рэлігійны прасьлед. Каляніяльна-эканамічная эксплуатацыя Беларусі выклікала й эканамічную эміграцыю, выгнаўшы дадаткова многіх на пошукі працы й лепшых умоваў жыцьця. У выніку — сотні тысяч беларусаў, калі ня болей, змушаныя былі пакідаць Беларусь і йсьці ў далёкія чужыя краі.

Гістарычныя дакуманты сьведчаць, што масавыя ўцёкі беларусаў з-пад Расеі, але яшчэ ў Беларусь, на неадарваныя землі, пачаліся ад канца XVII ст. Ужо па Андрусовым міры 1667 году, калі ад Вялікага княства Літоўскага была адарваная Смаленшчына, паводле паведамленьня Смаленскага ваяводы кн. І. Рэпіна ў Маскву — «крестьяня и бобыли многие из Бельского уезду бегут в Литовскую сторону... Апреля ж де против 19-го числа (таго-ж 1668 году — АК) в ночи витебской мещанин Куземка Коровай, собрався со многими Бельского и Ржевского уездов с беглыми крестьяны с пищальми и з бердыши (розбили ... заставу) и провезли на плотах со всеми крестьянскими животы в Литовскую сторону, а было де больши 20 плотов. И по них де, стрельцах (пасланых кн. Рэпніным — АК) ис пищалей стреляли... И в прошлом де во (1667) году... многие де крестьяня и бобыли из Бельского уезду нынешней зимою выбежали в Литовскую сторону».[11]) Ноўгарадзкі губэрнатар Я. Северс (пазьнейшы пасол Кацярыны ІІ у Варшаве) пісаў да царыцы, што расейскія абшарнікі, «кіруючыся неўмеркаванай хцівасьцю, абкладаюць сваіх падданых такімі цяжкімі чыншамі, што дзеля таго тысячы ўцекачоў з Расейскай імпэрыі запаўняюць Літву й Польшчу».[12]) У 1763 годзе ў адным Мсьціслаўскім ваяводзтве (зь іншых ваяводзтваў мы ня маем дадзеных) іх было з адарванай Смаленшыны каля 50.000.[13]) У працягу 20 год па 1772 годзе з Мсьціслаўскага, Віцебскага й Полацкага ваяводзтваў расейска-беларускую мяжу перайшло болей за 30.000 сялян.[14]) 9-га сакавіка 1793 году міністэрства замежных спраў Расеі ў ноце да Аўстрыі й Прусіі скардзілася, што ў Рэчы Паспалітай «расейскія падданыя, жыхары пагранічча ... прыймаюцца па сваіх уцёках. Колькасьць іхная ацэньваецца на 300.000 галоў, ня лічачы нашчадкаў ад так даўна, як мае месца гэтая неразумная эміграцыя. Трэба яшчэ ўзяць на ўвагу, што вялікая частка з тых уцекачоў ня была абнятая ўлікам».[15])

Паўстаньне 1794 году пад кіраўніцтвам гэн. Т. Касьцюшкі ў Польшчы пачалося 24-га сакавіка. Вялікае княства Літоўскае далучылася да яго месяцам пазьней.

Для кіраўніцтва паўстаньнем у Вільні быў створаны паўстанчы цэнтар ВКЛ — Найвышэйшая Рада. У ейны склад увайшлі палк. Якуб Ясінскі — вайсковы кіраўнік паўстаньня, ваявода Навагрудзкі Язэп Несялоўскі, каштэлян Менскі Міхал Абуховіч, падкаморы Рэчыцкі Станіслаў Валовіч, маршалак Аршанскі Мікола Храпавіцкі, стражнік ВКЛ гэн. Ігнат Гелгуд і іншыя. Найвышэйшая Рада ВКЛ фармальна падпарадкавалася Т. Касьцюшку, але не Варшаўскай Радзе. Фактычна-ж яна дзеіла зусім самастойна. "Wilno zachowało się.. jak jedna z dwóch stolic państwa związkowego... Porwały się do walki... Korona i Litwa. Musiały i chciały iść razem, lecz każda pod własnym imieniem i z własną twarzą".[16])

Рэгулярныя войскі ВКЛ і створаныя паўсюдна паўстанчыя аддзелы ўдарылі на расейскія акупацыйныя гарнізоны. Сьпярша яны мелі ўдачы. Уначы на 23-га красавіка гарнізон расейскіх войск у Вільні быў разгромлены. Паўстанцы захапілі

арсэнал, начальніка гарнізону гэн. М. Арсеньнева й каля 1.000 расейскіх жаўнераў узялі ў палон. Рэшта гарнізону пад камандаю маёра М. Тучкова ратавалася ўцёкамі.[17]) У канцы красавіка — травені былі вызвалены Браслаў, Ашмяны, Ліда, Наваградак, Горадня, Слонім, Ваўкавыск, Берасьце, Кобрын...[18]) і Пінск, які паводле 2-га разьдзелу Рэчы Паспалітае ў 1793 годзе ўжо быў далучаны да Расеі. Адначасна гэн. Язэп «Беляк, кн. Сапега и Заиончек через Слоним пришли с войсками в Столовичи и... сорвали... (расейскі — АК) пост... на границе при Ляховичах».[19]) А аддзелы гэн. гвардыі ВКЛ С. Грабоўскага дайшлі аж да Бабруйска.[20])

Унівэрсалам Найвышэйшай Рады ВКЛ ад 24-га красавіка, як і Т. Касьцюшкі ад 7-га травеня, сялянам ВКЛ і Польшчы была абвешчана асабістая вольнасьць. У краі ўзьняўся патрыятычны рух. Для фінансавай падтрымкі паўстанчага цэнтру ў Вільні пачаліся дабраахвотныя ахвяраваньні, у выніку якіх за кароткі час у касу цэнтру паступіла 461.750 злотых, вялікая колькасьць розных каштоўнасьцяў, золата, серабра.

Аднак ад паразы паўстанцаў пад Соламі Ашмянскага павету (25-га чэрвеня) і паўторнага захопу расейскім войскам Вільні (12-га жніўня) паўстанцы пачалі здаваць свае пазыцыі й з баямі адыходзіць на захад. У Польшчы расейскае войска з дапамогаю прускага здушыла паўстаньне 16-га лістапада.

Пасьля здушэньня яго й наступіўшага па ім у 1795 годзе 3-га разьдзелу Рэчы Паспалітае ўся тэрыторыя Беларусі была гвалтам далучаная да Расейскае імпэрыі (толькі Беластоцкая акруга з заходняй Горадзеашчынай у працэсе дзяльбы занятых земляў была аддадзеная Прусіі). Гэта выклікала ў 1794-95 гг. 1-ую хвалю масавае эміграцыі зь Беларусі, Летувы й Польшчы на Захад — у Францыю, Саксонію, Вэнэцыю, Гановэр, а стуль некаторых — у ЗША. У бальшыні гэта былі ня трапіўшыя праз палон у расейскія турмы й ссылкі (куды пагнана на пакараньне 12.000 паўстанцаў[21]) дзяржаўна-палітычныя дзеячы, кіраўнікі й актыўныя ўдзельнікі паўстаньня, афіцэры й жаўнеры (20.000 іх інтэрнавана ў Аўстрыі, 3.000 — у Прусіі[22]), цывільная інтэлігэнцыя.

Сярод эміграваўшых знайшліся:

Адзін з «чаловых літоўскіх сэпаратыстых» кн. Міхась Клеафас Агінскі, пасол Чатырохгадовага (1788-92 гг.) і Горадзенскага (1793 г.) соймаў, падскарбі ВКЛ у 1793-94 гг. (ведамы й як кампазытар — аўтар опэры й шматлікіх твораў меншых музычных жанраў, а ў тым Маршу паўстанцаў 1794 году). У часе паўстаньня ён уваходзіў у паўстанчы цэнтар ВКЛ, на свой кошт сфармаваў і ўзброіў батальлён уланаў, якім сам камандаваў у баёх супраць расейскага войска. Па ўпадку паўстаньня вымушаны быў эміграваць (сьпярша — у Вену, скуль пераехаў у Вэнэцыю й Парыж)[23].

Абозны ВКЛ, маршалак Трыбуналу ў 1787 годзе, таксама сябра Найвышэйшай Рады ў Вільні Кароль Прозар з Рэчыцкага павету.

Палк. войск ВКЛ Язэп Кацёл, пасол Чатырохгадовага сойму ад Ашмянскага павету, сябра Найвышэйшай Рады и Вільні, лучнік ейны з гэн. Т. Касьцюшкам і Радай Найвышэйшай у Варшаве. Эміграваў у Вэнэцыю, а тады — у Парыж.

Кн. Казімер Нестар Сапега, гэн. артылерыі ВКЛ ад 1773 году, берасьцейскі пасол на соймы 1778-88 гг., маршалак гэнэральнай канфэдэрацыі ВКЛ ад 1788 году. Памёр эмігрантам у Вене ў 1798 годзе.

Пасьля гэтае масавае хвалі на эміграцыю йшлі й індывідуальна:

У 1796 годзе па вызваленьні з Петрапаўлаўскай крэпасьці ў Пецярбургу — паўторна ў ЗША галоўны кіраўнік паўстаньня 1794 году ў Рэчы Паспалітай Тадэвуш Касьцюшка (беларус з двара Мерачоўшчына каля Косава), былы (ў 1776-83 гг.) удзельнік вайны за незалежнасьць ЗША, каго амэрыканскі Кангрэс 13-га кастрычніка 1783 году менаваў гэнэралам брыгады. У 1797 годзе ў Філядэльфіі Т. Касьцюшка зблізіўся з Т. Джэфэрсонам, будучым (у 1801-1809 гг.) прэзыдэнтам ЗША. У наступным годзе ён вярнуўся ў заходнюю Эўропу й у 1817 годзе памёр у Швайцарыі [24]).

Бжастоўскі Павал, пісар ВКЛ ад 1762 году, рэфэрэндар у 1774-87 гг. У сваім маёнтку Паўлава (на рэчцы Мерачанцы каля Вільні) ў 1769 годзе дараваў сялянам асабістую свабоду, звольніў ад прыгону, замяніўшы яго на чынш. Маёнтак, да якога належала мястэчка Паўлава й 14 вёсак, ператварыў у аўтаномную сялянскую рэспубліку — г. зв. Паўлаўскую Рэч Паспалітую. Уладу ў ёй пад сваім кантролем перадаў сялянскаму сойму й ураду з самастойным судом, грашыма й банкам, заснаваў школу, шпіталь, аптэку, з жыхароў мястэчка — гвардыю бясьпекі. У паўстаньні 1794 году сяляне Паўлаўскай Рэчы Паспалітай выслалі ад сябе 150 паўстанцаў ў паўстанчыя аддзелы ВКЛ і ўласным коштам уфундавалі для іх дзьве гарматы. А самі выкапалі акопы й, узброіўшыся, тройчы адбілі ад свае рэспублікі аддзелы расейскага войска [25]). З прыходам урэшце рэшт расейскае ўлады Паўлаўская Рэч Паспалітая была зруйнаваная, у сялянаў была адабраная вольнасьць, іх назад вярнулі ў стан прыгонных, як у цэлай Расейскай імпэрыі. Рашчараваны П. Бжастоўскі ў 1798 годзе прадаў маёнтак і выехаў на эміграцыю (ў Дрэздэн потым у Рым). [26]

24-га чэрвеня 1812 году вялікая армія Напалеона Банапарта перасекла мяжу Расейскай імпэрыі й колькімі шляхамі рушыла на ўсход за пасьпешна адступаўшым расейскім войскам. Палову вялікай арміі (на Расею Напалеон кінуў 420.000 зь яе) складалі самі французы, другую палову (болей за 200.000) — партугальцы, італьянцы, немцы, аўстрыйцы, швайцарцы, харваты, палякі й іншыя народы эўрапэйскай кааліцыі француcкага імпэратара.

28-га чэрвеня Напалеон ужо быў у Вільні, а на 3-ці дзень, 1-га ліпеня, зь ягонае згоды было адноўлена Вялікае княства Літоўскае, незалежнае ад Гэрцагства Варшаўскага (паўсталага ў 1807 годзе). Толькі 17 год перад тым зьліквідаванае й далучанае да Расеі, Вялікае княства Літоўскае адразу прыстала да кааліцыі Напалеона. Быў створаны часовы ўрад на чале з графам С. Солтанам (у склад ураду ўвайшлі й эмігранты 1794-95 гг. — граф Кароль Прозар і Франьцішак Ельскі). Ува ўмовах вайны пачалася адбудова дзяржавы. Арганізацыя адміністрацыі. Фармаваньне войска: корпусу ВКЛ [27]) — 4-ох палкоў кавалерыі [28]), 5-ёх палкоў пяхоты [29]), 3-га гвардзейскага ўланскага палка [30]), 6-ёх батальлёнаў егераў (па 6 ротаў у кожным батальлёне) [31], конна-егерскага палка дабраахвотнікаў [32]), дадаткова — Магілёўскага й Віцебскага палкоў, а таксама Нацыянальнай Гвардыі ўва ўсіх губэрнскіх і паветавых цэнтрах [33]).

Адноўленае Вялікае княства Літоўскае праіснавала ўсяго паўгоду. Адыход арміі Напалеона з Расеі, новая акупацыя й ліквідацыя Вялікага княства Літоўскага расейскім войскам у сьнежні месяцы, распачатыя арышты й ссылкі патрыётаў — староньнікаў кааліцыі Напалеона — спарадзілі 2-ую хвалю масавай беларускай эміграцыі на Захад. Разам з французамі, у Дрэздэн, [4]), а з Дрэздэна

ў Ляйпцыг [35]) выехаў часовы ўрад ВКЛ, дзе працягваў сваю працу да 24-га ліпеня 1813 году. [36]) Спаміж выехаўшых былі: старшыня ўраду граф Станіслаў Солтан (гэнэрал войск ВКЛ ад 1782 году, маршалак надворны ў 1791-93 гг.), кіраўнік аддзелу юстыцыі Франьцішак Ельскі зь Пінскага павету (былы маршалак Трыбуналу ў 1783-85 гг., сябра Віленскага паўстанчага цэнтру ў 1794 годзе), гэнэральны сакратар ураду Язэп Ігнат Касакоўскі (сын Наваградзкага падстоляга, былы падчашы ВКЛ) і іншыя.

Адыходзілі на Захад і вайсковыя фармацыі ВКЛ, здэкамплектаваныя ў баёх супраць расейскага войска. У Заходняй Эўропе на баку Напалеона яны яшчэ бралі ўдзел у вайсковых акцыях 1813 году, а ў тым і ў славутай «бітве народаў» пад Ляйпцыгам 16-19-га кастрычніка, пасьля прайграньня якое перайшлі раку Рэйн і засталіся на эміграцыі ў Францыі. Разам зь імі былі высокія афіцэры ВКЛ:

Кіраўнік вайсковага аддзелу часовага ўраду гэн. Сьцяпан Грабоўскі з Наваградзкага павету (заступіўшы памерлага ў Дзярэчыне 8-га верасьня 1812 году кн. Аляксандра Сапегу). У паўстаньні 1794 году на чале палка 23-га красавіка ён удзельнічаў у вызваленьні Вільні. Змагаўся пад Немянчынам, Палянамі, Соламі. 15-га жнівеня з злучэньнем у 1.800 асобаў і з 5 гарматамі рушыў на падрасейскую Меншчыну, але ў адваротнай дарозе з Бабруйска на Слуцак 4-га верасьня пад Любаньню капітуляваў, узяты ў палон і сасланы ў Унжэнскую акругу. З сылкі быў вызвалены паводле амнэстыі цара Паула І.

Гэн. Ксавэры Несялоўскі зь Ляхавічаў, сын Наваградзкага ваяводы Язэпа. Як камандзер палка змагаўся ў паўстаньні 1794 году, пасьля чаго эміграваў у Дрэздэн. У 1812 годзе — інспэктар пяхоты ў корпусе ВКЛ, з аддзеламі якога ў 1813 годзе крочыў на Захад.

Стрыечныя браты Касакоўскія — Язэп Дамінік і Язэп Антон. Абодва паходзілі з патрыятычных сем'яў, якія "starali się... rozluźnić związki (WKL) z Polską" [37]). Калі выпрацоўвалася й прымалася Канстытуцыя 3-га мая 1791 году, якая ўневажняла канфэдэрацыю Рэчы Паспалітай, ператвараючы яе ў адзін край з адным народам і тым самым ліквідоўвала дзяжаўнасьць канфэдэрацыйнага Вялікага княства Літоўскага, нізводзячы яго да аднэй з правінцыяў Польшчы, — бацька Язэпа Дамініка, Міхась, ваявода Браслаўскі (перад тым — Віцебскі) Konstytucję 3-go maja przyjął... wrogo" [38]). А браты бацькавыя, дзядзькі стрыечных братоў, таксама ворагі Канстытуцыі — біскуп Язэп Казімер за "swe separatystyczne wobec Polski dążenia" [39]) і гэтман таргавіцкі Вялікага княства Літоўскага, "jeden z głównych zdrajców" [40]) Польшчы, Сымон Касакоўскія ў 1794 годзе былі нат пакараныя сьмерцю. Таму палкоўнік і лоўчы Вялікага Княства Язэп Дамінік, "uważany za przeciwnika Konstytucyji 3 maja, nie był... obecny przy jej uchwalaniu". [41]) Ад 1793 году ён — камандзер 2-га пяхотнага палка. У 1812 годзе з даручэньня часовага ўраду зарганізаваў у Цімкавічах Менскі полк, зь якім выступаў супраць расейскага войска ў Менску (12-га кастрычніка), пад Койданавам, Барысавам (21-га лістапада), Студзянкаю й Стахавам (28-га лістапада). 4-га сьнежаня з 341 жаўнерам, што засталіся ў палку, дайшоў да Вільні, а 6-га сьнежаня вырушыў на захад. [42]) Гэнэрал Язэп Антон — камандзер 3-яй кавалерыйскай брыгады Вялікага княства Літоўскага ў паўстаньні 1794 году. Пасьля здушэньня паўстаньня эміграваў у Парыж, дзе пазнаёміўся з Напалеонам. У 1812 годзе былы эмігрант пакліканы ў вайсковы корпус Вялікага княства Літоўскага, скуль Напалеон забраў яго да сябе ў Ганаровую Гвардыю й ад'ютантам у свой штаб. Ад 3-га жнівеня ён камандуе Полацкім [43])

пяхотным палком, зь якім ідзе на Смаленск, Мажайск, у Маскву. Тут Напалеон 29-га верасьня прызначае яго на губэрнатара Масквы (ў ролі якога быў тры дні). Пры адыходзе з Масквы на Захад ён змагаўся над Бярозаю (28-га лістапада), пад Смалявічамі, Барысавам, Стахавам, Вільняю (10-га сьнежаня). У 1813 годзе ізноў пакліканы на ад'ютанта францускага імпэратара. Быў у бітвах пад Лютцэнам, Шпандаў, Баўтцэнам, Дрэздэнам, Ляйпцыгам і Ганаў. У наступным годзе Напалеон уганараваў яго графскім тытулам, а 4(16)-га красавіка выдаў яму ўласнаручны ліст-дэмісію. Праз чатыры дні ў Фантэйнблю гэн. Касакоўскі прысутнічаў на цырымоніі адрачэньня Напалеона ад імпэратарскага пасаду.[44])

Зь іншых выдатных асобаў на эміграцыю пайшлі:

Ян Гараін, сын Берасьцейскага ваяводы, ад 1782 году пасол у сойм. У 1794 годзе ён быў адным з галоўных кіраўнікоў паўстаньня на Берасьцейшчыне. У 1812 годзе, па аднаўленьні Вялікага княства Літоўскага — бурмістр Вільні, скуль у канцы таго-ж году эміграваў у Парыж.

Кн. Міхась Клеафанс Агінскі, які ў 1802 годзе па царскай амнэстыі вярнуўся ў Беларусь і жыў у адным з сваіх двароў — Залесьсе каля Смаргоняў. Ён спрабаваў аднавіць хаця-б аўтаномнае Вялікае княства Літоўскае пад расейскім пратэктаратам. У 1811 годзе, пасьля колькігадовых асабістых перамоваў з Аляксандрам І, ім быў уложаны для гэтага адпаведны праект, у якім прадбачалася таксама ў працягу 10 год (1812-21) даць сялянам вольнасьць. Здавалася, што ў абліччы загрозы напалеонаўскай вайны цар схіляўся да праекту князя. 22-га кастрычніка 1811году ўжо быў падрыхтаваны тэкст царскага ўказу. Але цар марудзіў, падпісаньне яго адкладаў. Вайна 1812 году праект перакрэсьліла. Агінскі, згубіўшы ўсялякую надзею на зрэалізаваньне свае ідэі, ізноў падаўся на Захад, на гэты раз у Флярэнцыю, дзе жыў 18 год і ў 1833 годзе памёр. Незадоўга перад сьмерцю (ў 1826-27 гг.) у Парыжы ён выдаў у 4-ох тамох напісаныя ім пафранцуску ўспаміны з 1788-1815 гадоў.

Калі па здушчньні ўсіх першых спробаў вызваліць бацькаўшчыну з-пад расейскае акупацыі, на Беларусі часова запанаваў стан духовай безнадзейнасьці, некаторыя беларусы з пачуцьця апазыцыі да кожнага чужацкага панаваньня й салідарнасьці да кожнага паняволенага народу пакідалі свой край, каб ісьці змагацца супроць хоць-якога панявольніка, дзе толькі агонь гэтага змаганьня займаўся.

У 1821 годзе ўзьняўся збройны рух за вызваленьне Грэцыі ад туркаў. Падобна ангельскаму паэту-эмігранту Джорджу Байрану й многім іншым, актыўны ўдзел у ім бралі беларускі эмігрант з Горадні кап. Янкоўскі й палк. Вячаслаў Гарноўскі з Краслаўкі Дзьвінскага павету. Пра Янкоўскага, які Беларусь пакінуў у 1820 годзе, мы ня маем большых вестак. В. Гарноўскі, пазнаёміўшыся з агэнтамі грэцкай нацыянальна-вызвольнай арганізацыі гэтэрыстых, на пачатку 1821 году тайна пакінуў Магілёў, дзе ён жыў, перабраўся ў Валахію, сфармаваў там уланскі полк і 3 месяцы ў войску гэн А. Інсіланція змагаўся на чале палка супроць туркаў. Разьбіты 19-га чэрвеня 1821 году пад Драгашанамі, перайшоў аўстрыйскую мяжу й па інтэрнаваньні 5 год сядзеў у вязьніцы. На патрабаваньне цара Аляксандра І, у 1826 годзе выдадзены ў Расею. Там ізноў арыштаваны й аддадзены пад строгі нагляд паліцыі. У 1837 годзе ўрад вольнай Грэцыі завочна ўзнагародзіў яго найвышэйшым ордэнам Збавіцеля.

Паўстаньне 1831 году ў жнівені месяцы было здушана ўжо ўва ўсіх паветах

Беларусі. Ад канца чэрвеня яно працягвалася толькі на паўдні (Пінск, Мазыр, Рэчыца) і ўсходзе (Магілёўская й Віцебская губэрні), у ліпені далучыліся Наваградак і Слонім. Галоўныя ягоныя сілы (з Горадзеншчыны, Віленшчыны й Меншчыны — 20.000 паўстанцаў з усіх 35-40.000) былі разьбітыя расейскім войскам у баі пад Вільняю 19-га чэрвеня.

Яшчэ ў верасьні па лясох хавалася шмат лякальных паўстанцкіх арганізатараў і кіраўнікоў, якія прабіраліся да заходняй мяжы Расейскае імпэрыі, але ў сярэдзіне ліпеня болей за 10.000 паўстанцаў адступаўшых з-пад Вільні перайшлі каля Клайпэды прускую мяжу й былі прускім урадам раззброеныя. Іх разьмясьцілі ў лягеры места Фрыдлянда й па навакольных мястэчках і сёлах. Нязначная частка зь іх засталася ў Прусіі, асноўная-ж маса ад лістапада «калёнамі» па болей-меней 150 асобаў кожная з Фрыдлянда рушыла ў Францыю. Ехалі 2 месяцы на вазох праз усю Нямеччыну да места Бэсансон пры швайцарскай мяжы (дзе ў сям'і напалеонаўскага маёра нарадзіўся вялікі францускі пісьменьнік Віктар Гюго, які пазьней, у 1851-70 гг., сам пайшоў на эміграцыю й, маючы добрыя інфармацыі ад польскіх і беларускіх эмігрантаў, у часе паўстаньня 1863-64 гг. публічна выступаў у абарону нацыянальна-вызвольнага змаганьня ў Польшчы й Беларусі).

Францускі ўрад для апекі над эмігрантамі стварыў пад кіраўніцтвам гэн. Лафаета адмысловы Дапамаговы Камітэт і асыгнаваў на пэнсіі для эмігрантаў 3 мільёны франкаў у год.

Із Бэсансона, на вуліцах якога тады было чуваць больш мовы эмігрантаў, чымся францускую, за год расьсяліліся яны па Францыі (Парыж і іншыя 24 эміграцкія асяродкі), а пазьней некаторыя выехалі ў Швайцарыю (Жэнева, Цурых), Бэльгію (Бруссэль), Ангельшчыну (Лёндан), Італію, ЗША.

Сёньня нам яшчэ не стае многіх дэталяў (для выяўленьня іх патрэбныя спэцыяльныя студыі тагачасных рознамоўных публікацыяў і архіваў), але ведама, што трапіўшы ў сфэру рэвалюцыйна-вызвольных рухаў Заходняй Эўропы (галоўныя цэнтры якіх былі ў Парыжы й Лёндане), беларускія эмігранты 3-яй масавай хвалі, разам з эмігрантамі польскімі, вугорскімі, італьянскімі й іншымі, далучыліся да розных агульнаэўрапэйскіх арганізацыяў, а найперш да «Маладой Эўропы» (заснаванай у 1834 годзе) і «Інтэрнацыянальнага саюзу народаў» (заснаванага ў 1846 годзе), узначальваных Джузэпэ Мадзіні, Лаяшам Кошутам і іншымі; бралі ўдзел у руху карбанараў, вугорскай рэвалюцыі 1848 году й іншых войнах і рэвалюцыях, што ставілі сабе за мэту нацыянальнае вызваленьне народаў і сацыяльнае разьняволеньне сялян. Яны трымалі сталую лучнасьць зь Беларусьсю, дапамагаючы ў плянаваньні й падрыхтове ў ёй новых вызвольных выступаў ці служылі ёй на ніве інфармацыі й разьвіцьця нацыянальнага мастацтва й навукі.

Спасярод іх было нямала выдатных асабістасьцяў:

Наваградзкі маршалак Язэп Кашыц, кіраўнік паўстаньня ў Наваградзкім і Слонімскім паветах.

Настаўнік Віленскай гімназіі беларускі гісторык Гіпаліт Клімашэўскі, хто адшукаў г. зв. Летапіс Быхаўца й у 1830 годзе ўпяршыню апублікаваў зь яго ўрывак.

Маляр-пэйзажысты Вінцусь Дмахоўскі з Ашмянскага павету, творца рамантычных краявідаў «Бацькаўшчына» («Двор у Нагародавічах»), «Возера Сьвіцязь», «Веркі», «Каля пераправы», «Пажар у лесе» й г. д. (Ён быў якраз сярод тых нешматлікіх, што засталіся ўва Усходняй Прусіі, і ў 1833 годзе вярнуўся дадому).

Графік і кампазытар Напалеон Арда зь Пінскага павету, аўтар славутых малюнкаў і акварэляў «Наваградак», «Крэўскі замак», «Горадня», «Сьвіслач», «Менск», «Асьвея»... а таксама — імшы й некаторых меншых музычных твораў. Эміграваўшы сьпярша ў Аўстрыю, Швайцарыю, Італію, у канцы 1830-ых гадоў ён у Парыжы ўдасканальваў свой малярскі талент у студыі П. Жырара, а музычны — у Ф. Шапэна.

Паручнік паўстанцкага аддзелу на Віцебшчыне паэта Аляксандар Рыпінскі, які 21-га лістапада 1839 году ў Парыжы на запросіны Польскага літіратурнага таварыства чытаў для ягоных сяброў рэфэрат пра Беларусь, ейную мову, літаратуру й фальклёр. Выдаўшы яго (ў пашыранай рэдакцыі з дадаткамі) у наступным годзе асобнаю кніжкаю [45]) (цэнзурна забароненай у Расеі), ён тым самым адзін з першых пашырыў у Францыі й наагул на захадзе Эўропы інфармацыю й веду пра свой паняволены край. «Любасьць да Беларусі спрычынілася да таго, што выклікала (ў Парыжы — АК.) зьбліжэньне й трывалае сяброўства А. Рыпінскага з Адамам Міцкевічам» [46]). Пераехаўшы ў Лёндан [47]), ён (настаўнік францускай мовы й маляваньня ў Eagle House School) дзесь каля 1852 году, разам з сябрам з Наваградчыны, Ігнатам Яцкоўскім (хто ў кнізе сваіх успамінаў [48]) захаваў для гісторыі беларускай літаратуры весткі пра паэту Паўлюка Багрыма й апублікаваў адзін, ведамы нам дагэтуль ягоны верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы...»), залажыў ува ўласным доме на Grove Place, 5 (дом гэты стаіць яшчэ й цяпер) невялікую ўласную друкарню. У ёй у 1853 годзе асобнымі кніжачкамі трыма выданьнямі ён выдаў напісаную ім у Лёндане баляду «Нячысьцік». У музэі на Bruce Castle захоўваюцца дзьве гравюры зь ягоных малюнкаў Eagle House School, падпісаных ім і датаваных 1854 годам.

Міхась Валовіч з двара Парэчча Слонімскага павету, які на пачатку 1833 году тайна з Францыі быў высланы ў Беларусь рыхтаваць новае паўстаньне. Створанае ім зь сялянаў партызанскае злучэньне было разьбітае расейскім войскам, а сам ён, схоплены, 21-га ліпеня 1833 году загінуў на шыбеніцы ў Горадні.

Магістар права Гэнрык Дмахоўскі з двара Забалацьце Дзісенскага павету. Ён таксама ў 1833 годзе ішоў з Парыжа на рэвалюцыйную працу ў Беларусь, але па дарозе, у Аўстрыі, быў затрыманы й увязьнены (1834-41 гг.). Па звальненьні зь вязьніцы вярнуўся назад у Парыж, там скончыў школу скульптуры, а ў 1851 годзе выехаў у ЗША, дзе для Кангрэсу ў Вашынгтоне зрабіў бюсты Т. Касьцюшкі й Т. Джэфэрсона.

Найбольшую палітычную актыўнасьць эміграцыя разгарнула напярэдадні й у часе паўстаньня 1863-64 гадоў. І з голасам яе ў краі мусілі паважна лічыцца. Ёсьць дадзеныя, што, калі выпрацоўваліся галоўныя мэты паўстаньня й вакол гэтага разгарнуліся гарачыя спрэчкі, у Лёндане й Парыжы мелі пра гэта дакладныя інфармацыі. Хтось бараніў там нацыянальныя пазыцыі Беларусі, што найлепей адбілася ў адозве «Да расейскага, польскага й усіх славянскіх народаў» М. Бакуніна, блізкага да польскіх і беларускіх эмігрантаў у Лёндане. Адозву гэтую, апублікаваную ў герцаўскім «Колоколе», расейскія гісторыкі (хто так любяць спасылацца на гэты часапіс і цытаваць яго) звычайна ня згадваюць. А Бакунін пісаў: «Палякі мо будуць вымагаць зашмат... не абмежацца на Царстве Польскім, а выкажуць гістарычныя прэтэнсіі на Літву, Беларусь... і ўсю Украіну... У такім выпадку яны дапусьцяцца вялікай памылкі. Я думаю, што ... Украіна... і Беларусь будуць самастойнымі сябрамі агульна-славянскага саюзу. Я вымагаю

толькі аднаго, каб кожнаму народу, кожнаму малому й вялікаму племю, былі дадзеныя мажлівасьці й права самім вырашаць свой лёс: хоча ён зьліцца з Расеяй ці Польшчаю — хай зьліваецца; хоча быць самастойным — хай будзе такім. Урэшце, хоча ён зусім аддзяліцца ад усіх і жыць зусім асобнай дзяржавай... хай аддзяляецца. Бог зь ёю, зь веліччу пятроўскай, кацярынінскай, мікалаеўскай, змусіўшай расейскі народ выконваць ганебную ролю ката... Мы шукалі сілы й славы, а знайшлі няславу, заслужылі ненавісьць і пракляцьце ў прыдушаных намі народаў. Дзякуй Богу, наша двухвяковая турма — пятроўская дзяржава — урэшце, валіцца. Мы-ж самі падапхнем яе ў бездань. І воля нам; воля гэраічнай Польшчы, воля Беларусі, Літве, Украіне!..»[49]) Цэнтральны паўстанчы камітэт у Варшаве палічыў за канечнае злажыць на апрабату ЦК «Маладой Эўропы» ў Лёндане сваю дэклярацыю, у якой запэўняў, што па вызваленьні з-пад Расеі кожнаму народу будзе загварантаваная роўнасьць «без аніякай гэгэмоніі каторагась зь іх»[50])

Эміграцыя актывізавалася ў пашырэньні ў заходня-эўрапэйскай прэсе інфармацыяў пра ход паўстаньня (йшлі яны на Захад з цэнтралі паўстаньня ў Вільні праз ягонага замежнага агэнта ў Кэнігсбэргу А. Банальдзі[51]) й, паводле паказаньняў К. Каліноўскага, у адрыс містэра Альбэрта ў Парыж (Hôtel St. Germain, w 88[52]); у траспартацыі для паўстанцаў зброі (на ангельскім параплаве Ward Jackson у сакавіку 1863 году[53]); у вэрбаваньні з эмігрантаў дабраахвотнікаў (г. зв. лёнданская марская экспэдыцыя 1863 году[54])) спробе арганізацыі паўстанцаў на пачатку 1864 году ў Прусіі[55]) й што асабліва важна — у падрыхтове палітычных і вайсковых кіраўнікоў.

Апошняе рабілася пераважна з дапамогаю цэнтру «Маладой Эўропы» й саабіста Джузэпэ Гарыбальдзі, які ў 1861-63 гадох прымаў беларускіх кандыдатаў у свае вайсковыя школы ў Гэнуа й Кунэо на італьлянскім П'емонце. Тут вучыліся (да прыкладу):

(далей будзе)

Зацемкі

1) № 18-19, Нью-Ёрк — Саут Рывэр, бб. 7-16.

2) Гэта дадатак у Статут БКЛ 1566 г.

3) Разьдзел III, п. 8.

4) Prof. R. Ostrowski. Fragments from the history of Byelorussia (to 1700), London, 1961, pp. 83-84; Г. Піхура. Ян з Літвы — час. «Божым Шляхам», Лёндан, 1965, № 3, бб. 4-6.

5) Цытуем паводле В. С. Сопиковъ. Опытъ россійской библіографіи, ч. I, СПБ, 1904 г., стр. 80.

6) J. Ptaśnik. Monumenta Poloniae typographica XV et XVI seaculorum, vol. I: Crakovia impressorum XV et XVI ss., p. ID.

7) Д-р Любомир Винар. Історія українського раннього друкарства, Чікаго-Денвер, 1963, стор. 12.

8) Др. І. Дварчанін. Беларусы на Праскім унівэрсытэце — Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, Нью-Ёрк, 1953 г., № 2/4, бб. 68-69.

9) British Museum Cataloque of Printed Books in the XV Century, Part IV, London, 1916, p. XIV; A Book about Books by Frederick Harrison Canon, Chancellor and Librarian of York Minster, London, 1943, p. 116.

10) Unmassgeblicher Plan... M. S., von Oskierka, Bernberg, 1762.

[11]) Дакумант № 19, пісаны каля 6-га чэрвеня 1668 г. — Русско-белорусские связи во второй половине XVII в. (1667-1686 гг.), Сборник документов, Минск, 1972, стр. 48-49.

[12]) Władysław Wielhorski. Polska a Litwa, London, 1947, s. 181.

[13]) Там-жа.

[14]) Там-жа.

[15]) Там-жа.

[16]) Paweł Jasienica. Rzeczpospolita obojga narodów. Część trzecia, Warszawa, 1982, s. 532. На гэты сэпаратызм паўстаньня 1794 г. у ВКЛ зварочвае ўвагу й В. И. Пичета. К истории восстания Костюшко 1794 г. — Ученые Записки Института Славяноведения АН СССР, Москва, т. 7, 1953 г., стр. 198.

[17]) P. Jasienica, cz. 3, ss. 531-532.

[18]) Беларуская Савецкая Энцыклапедыя (ў далейшым — БелСЭ), т. 3, 1975 г., б. 349.

[19]) Белоруссия в эпоху феодализма, АН БССР, т. 3, Минск, 1961 г., стр. 70-71.

[20]) БелСЭ, т. 8, б. 349.

[21]) Encyklopedja Powszechna, Ultima Thule, Warszawa (ў далейшым Ultima Thule), t. VI, s. 55.

[22]) Там-жа, t. 3. s. 392.

[23]) Усе біяграфічныя даведкі ўзятыя з Polski Słownik Biograficzny. Polska Akademia Nauk. Wrocław — Kraków — Warszawa (ў далейшым — PSB); кнігі «Восстание в Литве и Белоруссии, 1863-1864 гг.» (зборнік дакумантаў) АН СССР, Издательство «Наука», Москва, 1965; БелСЭ й іншых крыніцаў.

[24]) Ultima Thule, t. VI, s. 55. Імем Касьцюшкі ў ЗША названыя места ў штаце Мicicini (Kosciusko) і павет у штаце Індыяна.

[25]) Там-жа, t. II, s. 256.

[26]) PSB, t. III, 1937, ss. 55-56.

[27]) Там-жа, t. IV, 1969, s. 277.

[28]) Палкі №№ 17, 18, 19 і 20 — Сборникъ Императорскаго русскаго историческаго общества, т. 128, СПБ, 1909 г., документ № 74, стр. 207.

[29]) Палкі №№ 18, 19, 20, 21, 22 — Там-жа, стр. 209.

[30]) Там-жа, документ № 80, стр. 222-223.

[31]) Там-жа, документ № 81, стр. 223-224.

[32]) Там-жа, документ № 84, стр. 227-228.

[33]) Там-жа, документ № 86, стр. 229-231, 270.

[34]) PSB, t. XI, 1964, s. 152.

[35]) Там-жа, t. IV, s. 273.

[36]) Lietuviu Enciklopedija. Dvidešimt Aštuntas Tomas, 1963, South Boston, p. 294.

[37]) PSB, t. IV, 1969, s. 270.

[38]) Там-жа, s. 280.

[39]) Там-жа, s. 270.

[40]) Jasienica, t. 3, s. 532.

[41]) PSB, t. IV, s. 275.

[42]) Там-жа, ss. 274-276.

[43]) Часткава сфармаваны ў Полаччыне.

[44]) PSB, t. IV, ss. 276-277.

[45]) A. Rypinski. Białoruś, Paryż, 1840.

[46]) F. German. Aleksander Rypiński — Etnografia Polska, VI, s. 272.

[47]) Пра лёнданскі пэрыяд ягонага жыцьця гл. дасьледаваньне Г. Піхуры. Аляксандар Рыпінскі ў Лёндане (1849-1859) — «Божым Шляхам», Лёндан, 1964, № 86, бб. 8-11.

[48]) Powieść z czasu mojego, czyli Przygody litewskie, Londyn, 1854.

[49]) Час. «Беларускі Сьцяг», Коўня, 1922 г., № 4, бб. 12-13.

[50]) Wielhorski, ss. 193, 198.

[51]) «Восстание...», дакумант № 9 (п. 6 і зацемка).

[52]) Там-жа, документ № 30.

[53]) Там-жа, док. док. №№ 93, 99.

[54]) Там-жа, документ № 13 (п. 7 і зацемка 7), документ № 93 (зацемка).

[55]) Там-жа, документ № 28.

---

## ЗОРАЧКІ

Дні праходзяць, дні надходзяць, дні лятуць,
Быццам рэк бурлівых хвалі ў даль плывуць.
Колькі год, як на выгнаньні ў чужыне,
Трэба мучыцца душою й сэрцам мне.

Навакол нідзе ня ўбачыш родных хат,
Ня прыгорне ў адзіноцтве родны брат,
Не падзеліш нават думак зь ні кім тут,
Ня прыгорне ў адзіноцтве родны кут.

У ночы зорачкі прыветліва мігцяць,
Быццам зь неба на мяне яны глядзяць.
Што чуваць скажыце, зорачкі, вы мне
У той далёкай, ў той радзімай старане.

Ці татуля і матуля ужо сьпяць?
Ці на іх таксама зорачкі глядзяць?
Занясіце ім пакуль заблысьне сьвет,
Зоркі мілыя, бацьком маім прывет.

І скажыце, каб ні плакаў ні адзін,
Што ў выгнаньні мусіць мучыцца іх сын.
Бог магутны, Бог пашле нам ясны май,
Прыляту тады, як птушка, у родны край.

З новай сілай, з новым шчасьцем зажывём,
І ў бацькоўскім, родным краю запяём.
Загаром мы і засеем ды сажнём,
Гэты родны беларускі свой загон.

Калі-ж толькі яны родныя ня сьпяць,
І на іх таксама зорачкі глядзяць.
Занясіце ім пакуль заблысьне сьвет,
Зоркі мілыя бацьком маім прывет.

**словы: С. Новік**

Язэп БАРЭЙКА (Эўропа)

# ДА 400-годзьдзя III СТАТУТУ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

Прававая думка Беларусі, як вядома, адлюстраваная ў Статутах Вялікага Княства Літоўскага трох рэдакцыяў: 1529-га, 1566-га й 1588 гадоў. Да выданьня гэтых Статутаў у Беларусі ня было сыстэматызаванага й адзінага для ўсёй дзяржавы пісанага права, а ў кожнай зямлі дзейнічала мясцовае звычаёвае права, якое часткова дапаўнялася асобнымі агульнадзяржаўнымі законамі-прывілеямі.

Першыя спробы кадыфікацыі права ў Вялікім Княстве Літоўскім былі зробленыя ў сярэдзіне XV-га стагодзьдзя, калі быў выдадзены Судзебнік 1468 году. Судзебнік або Статут Казімера Ягайлавіча IV-га, напісаны на беларускай мове суцэльным тэкстам, вызначаў адзіныя для ўсяго Вялікага Княства Літоўскага віды пакараньня за злачынствы супраць уласнасьці, зьмяняў парадак судаводзтва ў гэтых справах, абмяжоўваў адказнасьць жонкі й дзяцей за злачынства мужа, павышаў адказнасьць за прытулак бадзягам. Зьмест Судзебніка 1468 году абмяжоўваўся 25 артыкуламі, а ўсе астатнія прааадносіны паранейшаму рэгуляваліся ў кожнай зямлі парознаму, у залежнасьці ад мясцовага звычаёвага права. Ён дзейнічаў да выданьня Статуту Вялікага Княства Літоўскага 1529 году.

Захаваныя крыніцы не дазваляюць дакладна ўстанавіць, калі ўпяршыню ўзьнікла думка аб выданьні агульнага кодэкса для ўсёй дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага. Мяркуецца, што больш грунтоўную работу сыстэматызацыі й кадыфікацыі права пачалі весьці ў 1522 годзе, калі на сойме ў Горадні Жыгімонт Стары даў загад прыступіць да складаньня Статуту. Праект Статуту быў падрыхтаваны ў вельмі кароткі тэрмін і яшчэ ў тым-жа годзе прадстаўлены сойму на зацьвярджэньне. Але ён ня быў зацьверджаны. Праца над Статутам працягвалася яшчэ сем гадоў, і дзеючым законам ён стаў толькі 29-га верасьня 1529 году.

На думку беларускага навукоўца Язэпа Юхо, у падрыхтоўцы праекту Першага Статуту Вялікага Княства Літоўскага верыгодна ўдзельнічаў і доктар Францішак Скарына, які, апрача ступені доктара мэдыцыны меў і ступень доктара свабодных навукаў, у тым ліку й доктара права. Гэтае мяркаваньне пацьвярджаецца, акрамя іншага, тым, што ўрад меў выдаць Статут друкарскім спосабам, а Скарына стварыў першую ў той час ўва ўсёй Усходняй Эўропе друкарню й пачаў выдаваць кнігі на беларускай мове.

Статут 1529 году складаўся з 13 разьдзелаў, падзеляных на артыкулы, у якіх выкладаліся агульныя палажэньні й некаторыя нормы дзяжаўнага права Вялікага Княства Літоўскага. Ён меў важнае значэньне ў жыцьці тагачаснага грамадзтва Беларусі: у краіне вызначалася адзінае права, абавязковае для ўсіх станаў. Статут сьведчыў аб высокім узроўні юрыдычнай думкі ў Вялікім Княстве Літоўскім, адукаванасьці ягоных стваральнікаў. Ён мае важнае значэньне й як помнік культуры й мовы беларускага народу. Напісаны на беларускай мове, ён дае магчымасьць паўней вывучыць літаратурны стыль, лексыку й лад дзяржаўна-прававой тэрміналёгіі й мовы таго часу. Разам з тым,

гэты Статут быў трывалай асновай для далейшага разьвіцьця заканадаўства, ён быў галоўнай крыніцай, асновай пры падрыхтоўцы Статуту 1566 году.

Падрыхтоўка II Статуту Вялікага Княства Літоўскага пачалася ў 1551 годзе. Створаная тады Статутная камісія, праз дзесяць год прадставіла праект новага Статуту, які й быў зацьверджаны 11-га сакавіка 1566 году прывілеем караля Жыгімонта II Аўгуста. Ён дзейнічаў у Вялікім Княстве Літоўскім да 1589 году. Ён быў большы за Статут 1529 году аб'ёмам, лепшы сыстэматызацыяй матэрыялу і ўзроўнем кадыфікацыйнай тэхнікі. Статут 1566 году складаўся з 14 разьдзелаў і меў 367 артыкулаў. Ён адлюстроўваў тыя грамадзка-палітычныя зьмены, што адбыліся ў Вялікім Княстве Літоўскім у 50-60-х гадох XVI стагодзьдзя.

Статут 1566 году адыграў вялікую ролю ў захаваньні самастойнасьці й незалежнасьці нашае дзяржавы. Некаторыя яго артыкулы накіраваныя спэцыяльна супраць пранікненьня ў Вялікае Княства Літоўскае польскіх магнатаў і шляхты. Статут гэты напісаны таксама на беларускай мове. А напісаны ён па-беларуску, бо дамінуючае становішча ў Вялікім Княстве Літоўскім займалі цэнтральныя, беларускія землі. Як слушна адзначае Язэп Юхо ў сваім артыкуле «Статуты Вялікага Княства Літоўскага» надрукаваным у 11-ым № часапісу «Полымя» за 1966 год: «На іх была найбольшая колькасьць вялікакняскіх маёнткаў, найбольш тут былі й маёнткі буйных, уплывовых феадалаў: Радзівілаў, Гальшанскіх, Слуцкіх, Друцкіх, Глебавічаў, Глінскіх, Кішак і іншых. Гэтая тэрыторыя была параўнаўча густа заселеная, адсюль зьбіралася асноўная частка арміі, з насельніцтва гэтых земляў браліся й галоўныя сродкі ў дзяржаўную казну. Феадалы гэтых земляў займалі пануючае становішча ў дзяржаве, у іхных руках былі найбольш важныя органы дзяржаўнага кіраўніцтва й дзяржаўнай улады».

Прыняцьцем II Статуту кадыфікацыйныя працы таксама не спыніліся, бо канчатковая яго рэдакцыя падрыхтоўвалася вельмі пасьпяхова. У выніку была створаная спэцыяльная камісія з мэтаю далейшага выпраўленьня Статуту. У склад гэтае камісіі ўваходзілі найбольш адукаваныя юрысты нашае краіны й некаторыя службовыя асобы Вялікага Княства Літоўскага, сярод якіх быў і славуты, у той час, падканцлер Леў Сапега. Новы, Трэці Статут быў зацьверджаны, як мы ўжо адзначылі ў пачатку, прывілеем караля Жыгімонта III, 28-га студзеня 1588 году.

Статут 1588 году заканадаўча аформіў захаваньне Вялікага Княства Літоўскага як сувэрэннай дзяржавы насуперак акту Люблінскае Вуніі 1569 году. У Вялікім Княстве былі захаваныя асобны ўрад, асобная армія й асобнае заканадаўства. У гэтым галоўнае значэньне дзяржаўна-прававых нормаў Статуту 1588 году. Складальнікі Статуту ня ўнесьлі ў яго ніводнай нормы, якая магла-б быць скарыстаная на шкоду дзяржаўнай самастойнасьці.

У Статуце 1588 году была пацьверджаная недатыкальнасьць граніцаў Вялікага Княства Літоўскага, на караля й вялікага князя ўскладаўся абавязак вярнуць у склад Княства ўсе раней адлучаныя землі, было забаронена назначаць на дзяржаўныя пасады й надзяляць зямлёй «чужаземцаў і загранічнікаў», у тым ліку й падданых Польшчы, гарантавалася захаваньне правоў і вольнасьцяў усіх грамадзянаў Вялікага Княства, і свабода ўсіх хрысьціянскіх веравызнаньняў. Статут 1588 году захаваў таксама адасобленасьць

дзяржаўных установаў, арміі, заканадаўства, эканомікі й фінансаў. Гарантаваў захаваньне ў Вялікім Княстве Літоўскім асобнага дзяржаўнага й адміністрацыйнага апарату.

Выданьне III-га Статуту мела выключна важнае значэньне ўва ўсёй гісторыі Беларусі, званай у той час Вялікім Княствам Літоўскім. Ён быў вялікім крокам у разьвіцьці прававой думкі й адлюстроўваў зьмены, што адбываліся ў эканамічным разьвіцьці краіны. Надрукаваны ён быў у **беларускай мове** ў віленскай друкарні Мамонічаў пад наглядам Льва Сапегі, што рабіла яго зразумелым для ўсяго насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага.

У прадмове да Статуту й спасылаючыся на Арыстотэля, Леў Сапега выказвае думку аб натуральным паходжаньні права, якое павінна грунтавацца на разумнай прыродзе самога чалавека. Дзяржава й грамадзтва, на думку Сапегі, могуць існаваць толькі на аснове трывала ўсталяванага правапарадку. Беззаконьне — найбольшае зло для грамадзтва.

Асаблівую ўвагу ў сваёй прадмове да Статуту 1588 году Леў Сапега зьвяртаў на родную мову. Ён пісаў: «А если которому народу встыд прав своих не умети, поготовю нам которые не абчым яким языком, але своим власным права списаные маем и кождого часу чого нам потреба ку отпору всякое кривды, ведати можем».

Пачуцьцё гордасьці, што ягоная дзяржава, ягоны народ маюць кнігу законаў «сваёю ўласнаю моваю» напісаную, узмацняла ў Сапегі сьвядомасьць таго, што Статут — плод ягонае рэдакцыйна-кадыфікацыйнае працы й ягоных захадаў і ў справе пацьверджаньня Статуту, як дзяржаўнага кодэксу, і яго надрукаваньня.

Сёньня, з пэрспэктывы чатырох стагодзьдзяў, ведаем добра, што прычынаў для гэтага, каб Статутам ганарыцца, было шмат. Створаны быў найвыдатнейшы юрыдычны помнік Эўропы тае пары ды кодэкс такое дасканаласьці, што ў практычным ужытку ён заставаўся больш як 250 гадоў, да 1840 году. Статут 1588 году дзейнічаў праз усю гісторыю Вялікага Княства Літоўскага й нават пасьля яго заняпаду. Ён зрабіў вялікі ўплыў на заканадаўства суседніх дзяржаваў. Ужо ў канцы XVI стагодзьдзя ён быў выкарыстаны пры кадыфікацыі прускага права й складаньня кодэкса «Пруская Карэктура» 1598 г. Выпіскі з Статуту абарачаліся ў маскоўскіх прыказах і прымяняліся ў судах. Шматлікія артыкулы III Статуту перайшлі ў Саборнае Улажэньне 1649 году. Статут быў неабходным дапаможнікам і для юрыстаў Польшчы ў 16-18 стагодзьдзях. У 17-ым стагодзьдзі ён быў перакладзены на нямецкую мову й меў прымяненьне ў судох Латвіі й Эстоніі, становячыся асноўнай крыніцай права на Украіне.

Выдатны помнік юрыдычнай й правасьвядомасьці беларускага народу III Статут Вялікага Княства Літоўскага сёньня — першараднае навуковае вагі крыніца для вывучэньня эканамічнага, сацыяльнага й дзяржаўна-палітычнага ладу Вялікага Княства XVI стагодзьдзя й ўрадавае мовы гэтае дзяржавы — беларускае мовы.

Рыгор ШЫРМА

# ЧАМУ МЫ ДАМАГАЕМСЯ РОДНАЕ ШКОЛЫ?

**Ад рэдакцыі:** Вось што пісаў Рыгор Шырма ў «Летапісе ТБШ» № 4(8) за 1936 год, бал. 53-55, Вільня.

Пэдагогіка даўно сказала сваё аўтарытэтнае слова аб значэньні роднай мовы ў школе.

«Мова — лепшая кветка ўсяго духоўнага жыцьця народу, якое пачынаецца далёка за граніцамі гісторыі. Гэтая кветка ніколі ня вяне, але вечна распускаецца.

У мове адухаўляецца ўвесь народ і ўся яго краіна; у мове творчаю сілаю народнага духу ператвараецца ў думку й вобраз неба Бацькаўшчыны, яе паветра, яе фізычныя зьявы, яе клімат, яе поле, горы й даліны, яе лясы й рэкі, яе буры й навальніцы — увесь той глыбокі, поўны думкі й пачуцьця голас роднай прыроды, які гаворыць так гучна аб любові чалавека да яго Бацькаўшчыны, які выказваецца так ясна ў родных песьнях, у словах народных паэтаў. Але ў сьветлых, празрыстых глыбінях народнай мовы адбіваецца не адна прырода роднай краіны, але і ўся гісторыя духоўнага жыцьця народу. Пакаленьні народу праходзяць адно за другім, але вынікі кожнага пакаленьня застаюцца ў мове народу як спадчына для нашчадкаў. У скарбніцу роднай мовы складаюць адно пакаленьне за другім плады глыбокіх парываў сардэчных, плады гістарычных падзеяў, пагляды, сьляды пражытага гора й пражытай радасьці, — словам, увесь сьлед свайго духоўнага жыцьця народ ашчадна захоўвае ў народным слове. Мова ёсьць самая жывая, самая моцная сувязь, якая ўсе пакаленьні, якія аджылі, жывуць і некалі будуць, злучае ў адно гістарычнае жывое цэлае. Мова ня толькі выражае сабою жыцьцёвасьць народу, але ёсьць іменна самое гэта жыцьцё. Калі зьнікне народная мова — народу болей няма. Пакуль жыве ў вуснах народу мова народная, датуль будзе жывым і народ. Вывучаючы родную мову, дзіця вывучае ня толькі словы, але здабывае многа паняцьцяў, пoглядаў на прадметы, многа мысьляў, мастацкіх вобразаў, лёгіку й філясофію мовы і ўспрыймае гэта лёгка й хутка, за два-тры гады столькі, што й паловы таго ня можа ўспрыняць за дваццаць год пільнага й мэтадычнага вучэньня. Такі гэты вялікі народны пэдагог — роднае слова!»

Так пісаў яшчэ ў мінулым стагодзьдзі пэдагог К. Ушынскі.

Ва ўсім цывілізаваным сьвеце родная мова ёсьць асноваю, якая лучыць усе прадметы школьнага курсу, якая праходзіць праз усе яго часткі.

Трэба ведаць, як любоўна народы распрацавалі праграмы мовы ў сваіх школах! Французы, немцы, ангельцы, расейцы будуюць усё ўзгадаваньне на скарбах роднай мовы, якая знаходзіць самае прыгожае выяўленьне ў роднай літаратуры. Зь якім захапленьннем і паэтызмам пішуць палякі ў школьных чытанках аб сваёй польскай мове! І як яны гневаюцца на чэхаў і летувісаў, што тыя, калі верыць польскай прэсе, ціснуць у сябе польскую меншасьць, не даюць, каб цьвіла прыгожая кветка польскай мовы! Але затое колькі няпраўды й злосьці вылівае тая-ж польская прэса на беларусаў за нашы слушныя, законныя дамаганьні правоў для беларускай мовы, для беларускага народу. Або ў лепшым выпадку стараецца замаўчаць усё, што датычыць беларускай справы.

Пэдагогіка кажа, што народ перастае жыць, памірае, калі адабраць у яго родную мову.

Дзяржаўныя законы, прызнаючы за народамі права на свабоднае разьвіцьцё іх мовы, санкцыянуюць гэтае права й за намі, беларусамі.

Але жорсткая сапраўднасьць не дае магчымасьці праводзіць іх у жыцьцё.

Што-ж тады рабіць?

Застаецца два шляхі: або павольнае нацыянальнае кананьне, або ўпартае змаганьне за сваю мову. І вось беларусы, маючы за сабою маральнае й юрыдычнае права, выбіраюць гэты апошні шлях.

Нічога не значыць, што камусьці не падабаецца, што мы хочам жыць і не адставаць ад іншых.

У нас ёсьць сільная зброя для перамогі — наша вялікая адраджэнцкая ідэя. Яшчэ няма на сьвеце такой сілы, якая магла-б перамагчы народную праўду. Гэта нічога, што шляхі, па якіх ходзіць яна, цярністыя.

Новае жыцьцё родзіцца ў цяжкіх цярпеньнях.

Мы гэтага не павінны баяцца, памятаючы тое, што праўда на працягу гісторыі чалавецтва ўзыходзіла ня раз на Гальгофу й адтуль сьвятлом сваім асыпала крыжовыя шляхі народаў, выводзіла змучанага чалавека зь няволі.

Гэтая праўда й нас, беларусаў, пабуджае шукаць свайго належнага месца пад сонцам.

Мы хочам шчасьлівага, людзкога жыцьця для свайго народу, мы хочам нароўні з другімі народамі збудаваць свой Дом Культуры, мы хочам для сваіх дзяцей, для маладых пакаленьняў перадаць каштоўныя скарбы, якія выдабылі зь нетраў народных нашы лепшыя прадстаўнікі — песьняры-паэты, мастакі, вучоныя, — таму мы й дамагаемся роднай школы, роднай мовы.

**P. S.** Ці-ж гэта не нагадвае нам сёньняшняе сытуацыі ў Беларусі?!

---

Пятрусь МАКАЛЬ

І ў раньні час, і ў час вячэрні
Мужы і жонкі дзень пры дні
Выстойваюць цярпліва чэргі
Кілямэтровай даўжыні.

Схаваць не ў сіле выгляд посны,
Яны пазыцый не здаюць.
І я пытаю, хто апошні,
Хаця ня знаю, што даюць.

Жаданьня ўласнага ахвяры,
Мы тоўпімся ў жывой вадзе,
За крок ад запаветнай мары
Мы топімся ў сваёй бядзе.

І хоць у чэргаў хвост павіны,
А ногі ў нас цяжэй сьвінца,
Мы ўсё-ткі выстаяць павінны,
Што-б там ні стала — да канца!

І я з упартасьцю жалезнай
(Па праўду, а не па шмацьцё!)
У чарадзе жыцьця даўжэзнай
Гатоў стаяць усё жыцьцё.

А. ЦЯЎЛОЎСКІ (Аргэнтына)

# КУДЫ ВАЙНА ЗАГНАЛА

(ДВА АПАВЯДАНЬНІ)

Калі настаў 1939 год, у Заходняй Беларусі пачалася валынка. Ужо ад сакавіка месяца "пахла" вайною. Не зважаючы на нязвыклую атмасфэру, Міхась Запруцкі аддана клапаціўся пра сваю гаспадарку, на якой жыў з братам і сёстрамі. У вёсцы Яноўцы, што каля Баранавіч, была іх сельская гаспадарка. Жылі яны спакойна, не багата, але хлеба заўсёды хапала. Трэба было толькі сумленна працаваць, даглядаць жывёлу ды іншыя гаспадарскія справы, а палітыку заставіць іншым. А тымчасам вайна ня мінула нікога.

Міхася змабілізавалі ў польскую армію, і тут не агледзіўся, як не на жарты пачалася вайна зь немцамі, але ў палон трапіў да саветаў. Тут ён дастаў 8 гадоў завочнага прыгавору. Гэтага палітычнага ашуканства, Міхась ня мог ніяк сьцяміць — змабілізаваны супраць немцаў, а трапіў у бальшавіцкі палон!

За некалькі месяцаў даведаўся ад новых лагернікаў, што яго брата Стася й сёстраў Яніну ды Вэраніку вывезьлі як кулакоў і нават нямаведама куды, у Казахстан ці на "север". А ў газэтах і па радыё прапагуюць весткі, што вось "асвабадзілі братні народ".

Міхась, як і ўсе яго знаёмыя жаўнеры, вандраваў па розных лягерах змушаны цяжка працаваць на гарбушку хлеба ды крыху баланды. Што дзеялася на сьвеце ніхто зь іх ня ведаў. Страшна мучыла безнадзейнасьць.

Аднойчы вясною ваеннапалонных не павялі на развод да працы. Начальства было ашаломлена весткай, што Гітлер напаў на Савецкі Саюз, не датрымаўшы ўмовы са Сталінам. Тады палонныя пачалі зьбірацца групкамі ды пыталі адзін другога: "А што будзе з намі? . ."

Ужо па нейкім часе сказалі палонным, што будзе амнэстыя для польскіх грамадзян. Тады беларусы змогуць ісьці ў беларускую савецкую армію, таксама й украінцы, а палякі ў сваю — каб разам бараніць радзіму ад фашыстоўскіх захопнікаў. Выглядала, што выбар быў просты: ісьці ў беларускую армію, гэта значыць адразу трапіць на фронт, а ў польскую, то нейкі час працягнецца, і можа ў канцы трэсьне сталінская сіла. Вось так між сабою дагаварваліся, што калі ісьці ў армію — то толькі ў польскую. Гэта не з патрыятызму, але проста каб адарвацца ад сталінскага бальшавізму, тым больш, што ваеннапалонныя мелі на гэта права выбару. Чамусьці толькі жыдыкамуністы крывіліся, нешта ім не падабалася.

Пакуль дабраліся з Комі АССР да зборных пунктаў польскага штабу каля Саратава, яшчэ доўга цярпелі холад і голад. Асаблівая бяда была з транспартам. Пакуль утварылі адну польскую дывізыю, дык немцы былі ўжо пад Сталінградам. Цяпер было добра відаць, якія страшэнныя недахопы былі ў савецкай арміі.

Міхась, як чалавек гаспадарскі, шукаў такой часьці дзе мог-бы

падвучыцца нейкай мэханікі. Такім чынам трапіў у сапёры. Дзеля недахопу аружжа, умундзіраваньня й выжыўленьня, Сталін дазволіў польскай арміі выехаць “із прэдзелаў СССР” у Пэрсію. Тут англічане мелі поўныя склады трапікальнага ўмундзіраваньня й правіянтаў.

Ваенная вучоба адкладалася на пазьнейшы час, бо найважнейшай справай было аджывіць людзей, каб з “дахадзягаў” магло быць калісь войска. Так у незаметку перакінулі ў Афрыку, у Італію . . . Тут немцы ня былі ўжо сільнымі. Яшчэ пад Монтэ Касіно спрабавалі “стануць козырам”, але ў іх ужо ня было самалётаў, не хапала тэхнікі, таму павольна слабелі й хутка паддаліся.

Вайна закончылася . . . На дэмабілізацыю паехалі ў Англію. Англія паказалася Міхасю вельмі дзіўнаю, — асабліва мокры клімат не спадабаўся. Розныя думкі не давалі спакою . . . Пры кожнай нагодзе распытваў пра брата, пра сёстраў, пра родную вёску. Калі нарэшце прыйла вестка, была яна жудаснаю: брат і сёстры загінулі, гаспадарку зьнішчылі калгасы . . . значыць трэба недзе эміграваць.

За выслугу ў войску, Міхась атрымаў крыху грошай, адзежу ды бязплатны транспарт. Выбраў Аргэнтыну, каб нарэшце адарвацца як найдалей ад сталінскае камуны. Калі прыплыў у Буэнос Айрэс трапіў у самае лета й сьпякоту, гэтага не спадзяваўся. Пачаў пытацца ў “старых эмігрантаў”, ці тут няма іншага кутка, дзе-б клімат быў падобны да беларускага, баранавіцкага. “Ёсьць, — кажуць — на паўдзённым канцы Аргэнтыны”. Гэта Тыерра дэль Фуэго, Горн, блізка Антарктыды . . .

Сабралася некалькі сьмельчакоў проста, каб пабачыць гэты дзіўны закутак Аргэнтыны, пакуль ёсьць грошы ў кішэні. А праца ня заяц, у лес не ўцячэ. Неўзабаве даляцелі да мястэчка-порту Ушуая. Міхасю спадабаліся тут і кімат і навакольная прырода. Горы ў белых сьнежных каптурох, а ніжэй лясы, мора . . . Цішыня й любата! З працай таксама ня было клопату. У войску пазнаўся на маторах, на мэханіцы, а тут якраз была база ваеннага флоту, дзе мэханьнікі заўсёды патрэбныя. Вось і застаўся на кантракт. Міхась палюбіў прыроду, лагодны клімат, бо блізкі акіян не дапускае вялікага марозу, а лес, як у казцы. Тут-жа поўна дзікай зьвярыны, нават бабёр робіць палаткі, як на Палесьсі. З рыбаў, вельмі ўдала гадуюцца фарэлі.

Рэдка, раз на колькі гадоў, Міхась прылятае ў Буэнос Айрэс за справункамі, але хутка вяртаецца, бо ня прывычны да вялікага места.

Некалі Ўшуая была адрэзана ад сьвету, ня было ані дарогі, ані паветраннага палучэньня. Толькі часамі даплывалі параплавы зь нявольнікамі ў тутэйшую вязьніцу, скуль ніхто ня мог уцячы. У 1947 годзе прэзыдэнт Пэрон загадаў ліквідаваць астрог, каб ажывіць турыстыку. Ушуаю зрабілі вольным портам. Цяпер шмат ахвотнікаў прылятае сюды на паляваньне, ня менш аматараў на рыбы. Дзеля гэтага, невялікі 11-тысячны гарадок зрабіўся прыгожым, мае гатэлі, рэстараны, кафэйкі й розныя крамы.

Тут і Міхась мае свой прытульны домік на вуліцы Сан Марціна. Ажаніўся з чылійкай, якой на імя Ляўра, падгадаваў ужо трох сы-

ноў і тры дачкі. Хоць Міхась лічыцца пэнсіянэрам, але бяз працы ня сядзіць, гэта ня зь яго натурай.

Часамі навуковыя экспэдыцыі едучы на Антарктыду затрымоўваюцца ў порце ці на лётнішчы, каб купіць нешта небходнае. Пры такой нагодзе адведваюць Міхася, прывозяць сякія-такія кнігі ды весткі з далёкага сьвету. Як пасяліўся тут Міхась у 1947 годзе над каналам Бігэль, найдалейшым мястэчку на нашай плянэце, дык і жыве там па сёньняшні дзень . . .

## ТОДАР ПУКАЛА

Тодара Пукалу пазнаў я ў 1939 годзе, неяк перад пачаткам вайны. Быў ён здольным шофэрам і мэханікам да розных машын ужываных у 83 фартыфікацыйнай групе каля Бэлхатава. Да мабілізацыі Тодар жыў у Слоніме, меў сям'ю, працаваў у электроўні. Будучы ў сіле веку (каля 40 гадоў) ён немаверна любіў машыны й мэханізмы, як дзіця любіць цацкі. Тэхніка ў яго была на першым месцы. Аб тэхніцы ён любіў гаварыць і слухаць.

Ад яго я даведаўся, што ён атрымаў першую прэмію на Пазнанскай выстаўцы ў 1929 годзе за канструкцыю спэцыяльнага паравозу. Была нават нагода прадаць патэнт на эксплятацыю ў Паўдзённую Афрыку, але польскія ўлады не дазволілі. Меў ён таксама іншыя меншыя вынаходкі, але без патэнтаў, бо гэта ў тыя часы было не па ягонай кішэні.

Аднойчы пераглядаючы Пукалаў патэнт, я заўважыў яшчэ адно прозьвішча на дыплёме. Аказалася, што Пукала, як самавук, ня меў ні тэхнічнае, ні агульнае асьветы, — скончыў толькі расейскую народна-прыхадскую школку. У бюро патэнтаў трэба-ж было падаць тэхнічна-матэматычную характарыстыку з адпаведным плянам-рысункам. Вось тут і прыйшлося падзяліцца з дыплямаваным тэхнікам, які даў патрэбны подпіс.

Так здарылася, што ў ваеннай завірусе каля Тарнопаля перасеклі нам дарогу ў Румунію савецкія танкі. Ад гэтага часу пачалася валынка па Савецкім Саюзе. Спачатку мы апынуліся на рудніках у Крывым Розе на Ўкраіне. Тут Пукала працаваў па сваёй спэцыяльнасьці, як мэханік, аднак патэнт ад яго забралі. Пасьля паўгода шахцёрскай працы, нас пасадзілі ў таварныя вагоны пад замок і на "север"! За котласам 130 км. праплылі ў баржах і выселі ў тайзе ля рэчкі Няндай у 55 Лагпункце ў Камі АССР. Тут пачыналася будова чыгункі, а для нас (былых тэхнічных войск) будова мастоў.

Тодара Пукалу прыдзялілі да абслугі шпаларэзкі, дзе тайна рабіў з абломкаў пілы магнітныя йголкі да прымітыўных компасаў. Аднойчы ён папрасіў мяне напісаць прашэньне да наркома транспарту Лазара Кагановіча, каб яго перавялі на працу, дзе будзе будавацца яго замыслу паравоз, нібы каб лепш пакіраваць працаю. Папраўдзе, Тукала хацеў нейкім чынам вырвацца зь бязьлюднай, марознай тайгі да людзей. Уцячы адсюль па сьнезе, без яды было немагчыма.

Даволі хутка, як на лягерныя парадкі, прыслалі адказ ад Кагановіча. Адказ быў даволі мелкім і нават сьмешным. Патэнту аднак Тукалу не зьвярнулі. Застаўся ён далей пры шпаларэзцы аж да амнэстыі польскіх грамадзян.

Пазьней спаткаў я Тодара ўжо ў Італіі пры ваенных варштатах. Былі тут розныя машыны, як пры звычайным зматарызаваным войску. Адначасна быў ён выкладчыкам на афіцэрскіх тэхнічных курсах. Тут зь ім усе лічыліся, бо быў спэцыялістам высокае клясы. Неяк пры нагодзе, я пайшоў паслухаць яго выклады. Зьдзівіла мяне, што Тукала выпісваў на табліцы фізыка-матэматычныя формулы з памяці й да гэтага "плаўна" выясьняў іх папольску зь беларускім акцэнтам, як нейкі інжынер ці прафэсар. Хто мог падумаць, што гэта слонімскі самавук! Вось такіх людзей гадавала нашая Старонка.

Наблізіўся 1946 год — час дэмабілізацыі. Кожны разглядаўся куды выехаць. Цяжка ўздыхнуў Пукала кажучы: "Ну, вось мяне вызвалілі з тайгі, ад патэнту, ад сям'і, ад Бацькаўшчыны. А куды цяпер падзецца?" Вайна кончылася, людзі сваё зрабілі, а цяпер нікому не патрэбныя. Варочацца няма куды . . . і Тодар Пукала дзесьці зацярушыўся ў натоўпе шукаючых прытулку . . .

◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆

Алесь БАРСКІ

**Зрабі, Айчына добрая,**
**Апошнюю паслугу:**
**З найбольшай глыбы**
**Тут даступнага граніту —**
**Са слова роднага**
**структуры —**
**Мне помнік высешы**
**Сялянскімі рукамі.**
**І хай цалуюць яго**
**промні**
**І вецер гладзіць**
**Чулымі рукамі.**
**— З чаго узьніклі мы?**
**— Дакладна невядома.**
**— Чым станемся па сьмерці?**
**— Загадкова.**
**Прыход на сьвет**
**І адыход з жыцьця**
**Ёсьць клямрай**
**запаветнай,**
**Якую толькі лёс**
**Умее зашпіліць**
**І расшпіліць беспамылкова.**

Уладзімер Глыбінны (ЗША)

# ВЯЛІКІЯ ДАРОГІ

(раман)

працяг

Пад вечар, нeяк перад самым захадам сонца, раптам адчыніўся ваўчок у дзьвярох, цікавае вока канваера агледзіла праз яго прыціхлых нявольнікаў. Затым упэўніўшыся, што ўсё ў парадку, канваер адамкнуў дзьверы й апавесьціў усім зьбірацца з рэчамі. За якіх пяць хвілінаў дзьверы ізноў расчыніліся, і ўсім было загадана выходзіць у калідор. Цьмяна мітусіліся сьцені, калыханыя агеньчыкамі некалькіх сьвечак на прыстасаваных да сьценаў умацаваньнях. Бледныя водбліскі ляглі на твары зганяных туды, няголеных, з клумачкамі або й бяз іх, розна апраненых людзей. Ад руху людзкога натоўпу калыхалася паветра, як п'янае ківалася полымя агаркаў. У шэрай цемені людзі выглядалі дзіўнымі зданямі з катакомбнага сьвету. Адылі доўга затрымвацца не далі. Было загадана паціху сходзіць па сходах уніз і шарэнгамі выходзіць на панадворак. Там усіх ставілі на правым баку турэмнага двара й вымагалі поўнае цішыні.

Перад зрокам Кастуся толькі тады паўстаў сапраўдны малюнак таго, што адбылося ў часе бамбардыроўкі. Абедзве цяжкія жалезныя брамы гэтак званага Каманданцкага будынку, праз які праходзіў шлях у вязьніцу зь места, былі пакашмачаныя й разламаныя. Сам будынак, дзе адбываліся допыты арыштаваных, рэгістрацыя й прыймо дакумантаў ад іх, зразаньне гузікаў з вопраткі й адбіраньне недазволеных рэчаў, дзе хавалася ўся турэмная дакумэнтацыя й знаходзілася турэмнае начальства, выглядаў пабітым і зруйнаваным. Рэшткі пабітай мэблі, ножкі сталоў і крэслаў, зьмяшаныя з абрыўкамі канцылярскіх папераў, валяліся тут-жа на двары зь левага боку, каля тае-ж каманданцкае будыніны. Там-жа ўзвышалася гара рознага іншага сьмецьця пасьля разьбітае дашчэнту турэмнае канцылярыі. На доле ляжалі пашпарты й вокладкі спраў зьняволеных.

"Вось-жа й ўгадзіў! Мусіць, добры цалок быў ды й, відаць, ведаў куды цаляць, калі лучыў якраз у самае зборышча турэмных катаў. Нябось, ня патрапіў-жа ён на вязьняў скідаць бомбы, а вось у самае гняздо нягоднікаў нацэліўся. А мажа ён наўмысьле, каб даць нам змогу праз разьбітую браму на волю выйсьці, лучыў туды? Выпадкова гэта ці не, аднак ёсьць, відаць, вышэйшая Боская сіла, якая кіравала рукою гэтага лятуна, наўсуперак ягоным асабістым, праўдападобна, далёкім ад ідэялаў, жаўнерскім меркаваньням", — абагульніў для сябе бачанае Кастусь.

Гэтая думка надала ягонаму настрою крыху прасьвятленьня й падтрымала веру ў нейкі сэнс гэтых падзеяў. Яшчэ большае значаньне для Кастусёвага ўздыму мелі параскіданыя пашпарты, згор-

нутыя ў кучы падраныя папкі асабістых справаў вязьняў.

“Калі так, значыць — мажліва будзе ўцякаць. Бомба панішчыла дакуманты. Ніякіх сьпісаў арыштаваных цяпер няма. Палітычных ад звычайных крыміналістых цяпер ніхто не адрозьніць. Трэба будзе шукаць нагоды ўцячы яшчэ па дарозе”, — наважана зацеміў сабе ў думках Кастусь. — “Нельга-ж быць паслухмянаю жывёлаю ды ісьці, куды вядуць, каб недзе ў лесе па дарозе куля прыкончыла. А цяпер усё можа быць — час благі для іх і для нас. Хіба яны цяпер будуць разьбірацца ў тым, хто вінаваты, а хто — не? Можа за першым лесам дзе-небудзь у рове кулямётам скосяць усе нашы галовы. Тым больш, што да гэтага іх змушае маскоўскі загад ізаляваць усіх “сацыяльна-небясьпечных” і “ненадзейных”. У гэтай сьпешцы ўсяго трэба чакаць. У іх заўсёды было правілам — лепш перавыканаць, чымся не давыканаць. Лепш расстраляць лішнюю сотню нявінаватых, чыся заставіць хоць аднаго жывым вінаватага або падазронага ў ненадзейнасьці. Даўно мінулі часы, калі дзеля апраўданьня хоць аднаго нявінаватага выпускалі сотні вінаватых. Сучасная ўлада рабіла заўсёды наадварот, а цяпер у вайну й падаўна. Уцякаць, толькі ўцякаць як мага хутчэй, хоць-бы дзеля маіх самотных старых”.

У гэтай наважанасьці Кастусь яшчэ больш пераканаўся, калі пабачыў, што з галоўнага вязьнічнага будынку вывялі немаладую ўжо жанчыну, з зьвязанымі ззаду рукамі, правялі праз увесь турэмны двор і на вачох усіх скіравалі ў чырвоную камяніцу майстроўняў на ўзбоччы. Яна горка акінула ўсіх паглядам і з прызьнятай галавой зьнікла за дзьвярыма. За часінку вушы ўсіх прысутных людзей улавілі прыглушаны стрэл. Па часе адтуль выйшлі два канваеры, што былі зь ёю. Яны спакойна, як быццам пасьля звычайнае справы, ўзяліся за свае абавязкі па наглядзе за ўсімі іншымі. Натоўп зьняволеных стаяў у атупленьні. Кожны маўчаў і толькі яшчэ больш туліўся адзін да аднаго.

Усё новыя й новыя групы выводжаных з камэраў людзей далучаліся да вязьняў у двары. Сярод іх Кастусь пазнаваў дзе-каго. Былі там знаёмыя яму інспэктары з Народнага Камісарыяту Асьветы, выкладчыкі менскіх школаў, прафэсары з Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту, навуковыя работнікі з Акадэміі Навук. Кідаліся ў вочы інтэлігэнтныя твары, што неяк вылучаліся сярод агромністае грамады сялянскіх і работніцкіх абліччаў. Былі сярод іх і асобы ў вайсковых шынялёх. Зрэдку блішчэлі змарнелымі вачыма твары фаховых жулікаў. Бальшыню іх яшчэ ўдзень выпусьцілі на волю. І ўсім разам прышлося цяпер колькі гадзінаў таптацца на мейсцы, пераступаць з нагі на нагу, нечага невядомага й няпэўнага доўга чакаць пад адкрытым небам. Ужо даўно было зьвечарэла . . .

Змрок ужо накладаў свае сьцені нявыразнасьці на ўсё наваколье. Натоўп людзей ужо пашарэў і набываў аднаколернай аднастайнасьці. Ён усё больш і больш губляў тую пярэстасьць, якою вызначаўся пры дзённым сьвятле. Здалёк ён мог выдацца пабочнаму чалавеку

якойсьці нярухомаю глыбаю, што невядома чаму прыстала да ўзбочыны турэмнага панадворку і творыць там якуюсь вялікую пляму на рудым пясочным доле. Паўночная палова неба адбівала ў сабе вялізарнае зарыва пажараў, якое стаяла над местам ўва ўсю шырыню небасхілу. Ружовыя пасмы клаліся на край сьветлых хмарынак і налівалі іх зыркай чырваньню. Сіняе яшчэ неба на поўдні з мільгаючымі зоркамі паступова зацянялася водблескамі агнёвых языкоў унізе й мяшалася з нявыразнасьцяй колераў неба над зруйнаваным будынкам. Але яшчэ ніхто ў натоўпе не ўяўляў сабе тога вогненнага пекла, якое тварылася ў месьце каля Траецкае Гары. Толькі калі людзей вывялі з турэмнага панадворку на вуліцу, па другі бок сьценаў, сталася відавочнаю вялікая трагэдыя нашага Менску.

Як толькі магло сягнуць вока ў далягляд, вялікія чырвоныя вогнішчы бушавалі над зямлёю й выкідалі ў неба з дымам і агнём людзкія набыткі. Чуўся моцны трэск, калі агню ўдавалася авалодаць новую будыніну. З боку агнявога мора несла гарам. Вуліцаю недзе ў няведам'е цягнуліся натоўпы спалоханых людзей.

Кастусь з трывожнымі думкамі ўглядаўся ў тое мора агню й думаў аб сваіх родных. "Што зь імі, слабымі й бездапаможнымі, у гэтым пякельным віры? Ці знайшлі яны ў сабе сілы й змогі выбрацца з гэтага д'ябальскага насланьня на грэшную зямлю? Каб хоць Бог даў ім нагоду выйсьці жывымі й непашкоджанымі з гэтае катастрофы".

Пачуўся загад ставаць па восем чалавек у шарэнгу. Абвясьцілі, што крок управа або ўлева будзе лічыцца спробаю ўцечкі. Вінаваты будзе расстраляны без папярэджаньня. Уперадзе рушылася аўтамашына з канваерамі й колькімі сабакамі. Па бакох былі таксама канваеры. Увесь этап крануўся зь мейсца й падаўся ўздоўж вуліцы Валадарскага ў кірунку на ўсход да нязнанага ніводнаму вязьню мейсца прызначаньня.

## 8. УЦЁКІ АД СЬМЕРЦІ

Над местам стаяла глыбокая ноч, калі калёна вязьняў мінула апошнія завулкі ўздоўж даўгога бітага шляху на ўсходняй акраіне Менску. Відаць было нібы ўдзень. Ці то ад бясконцага сьцягу зорак і месяца, якія, як і ў мірныя дні цяпер сьвяцілі быццам яшчэ з большым імпэтам, ці, магчыма, і ад зарава пажараў, якое ня выпускала з сваіх абдымкаў палову неба, неяк нязвычна вуліцы вышчарыліся й сталіся відочнымі кожнаму пешаходу сваім разварушэньнем. Дзенідзе збоку дарогу перагараджалі зваленыя на ходнікі тэлефонныя слупы. Каля вырванае бомбаю ямы ляжала забітая жанчына. На сьвежай жаўтавата-рудай гліне відаць былі згусткі крыві. Адкінутыя ўбок валасы былі ўтаптаныя ў глебу, а расплюшчаныя вочы з дакорам глядзелі ў дымнае неба, нібы ўпікаючы яму за вялікае няшчасьце.

Зьняволеным часта прыходзілася адыходзіць на край дарогі, каб даць магчымасьць праехаць грузавікам, поўным хатняга дабра вы-

сокіх савецкіх урадоўцаў, якія ратавалі свае сем'і. На кожным запынку шафёры лаяліся, выбягалі з кузаваў, крычэлі на пешаходаў. А народ тысячамі займаў усе дарогі, кіруючыся на ўсход. Жанчыны й мужчыны несьлі дзяцей на руках. Некаторыя яшчэ валаклі поўныя чамаданы. Шмат людзей сядзела на ўзбочынах дарогі і ў кустох уздоўж шляху каля сваіх большых клумкаў і, не знаходзячы ў сабе змогі адцурацца ўзятага з сабою дабра, з жалем паглядалі на сваю паклажу, што ўжо пасьпела адцягнуць ім рукі ды пазбавіць сілы.

Праз усю ноч ня было ніводнага бамбардаваньня, але ў ваччу кожнага стаяў неадступна страх і жаданьне як мага далей адыйсьці ад зазнанага ўдзень пякельнага выпрабаваньня. Былі моманты, калі на дарозе людзей назьбіралася гэтак шмат, што ўжо зьнікала выразная мяжа паміж вольнымі й этапам пад канвоем. Часам вольныя людзі на дарозе дакраналіся пляча таго ці іншага зьняволенага. І ўсе разам глыталі густы й ўедлівы дарожны пыл.

Тысячы ног гэтак узьбілі й перамалолі верхні пласт дарожнага глею, што ад хмары шэрае парахні ня відно было бітага шляху. Гаркавы пыл поўніў нос і рот, перасушваў горлы падарожным. Чыхаўка мучыла старых і малых, няспынна кашлялі й плакалі дзеці.

За ноч гэтак падбіліся ногі, што зусім ня слухаліся загадаў галавы. Часамі ў падарожных падкошваліся ногі. Родныя дапамагалі яму сыйсьці з дарогі на перапынак. Ня мелі такое выгоды толькі вязьні. Канваеры бясконца падганялі іх, загадвалі стала рухацца ўперад.

Кастусь ішоў спачатку у сярэдзіне калёны. Але навага зьнікнуць з этапных шэрагаў ды згубіцца ў натоўпе вольных людзей змушала яго трымацца бліжэй да краю. Паступова ён апынуўся побач з чалавекам, за якім, здавалася, канчаўся шэраг. Гэта быў прысадзісты, на выгляд моцнага складу, стары. Але ад пылу й бегатні па дарозе ён пачаў здавацца й штораз цяжэй дыхаў. Гады бралі сваё. Пасьля турэмных выпрабаваньняў гэтая апошняя этапная дарога выйшла для яго найцяжэйшай. Ён часта запыняўся й хапаўся за левы бок, нібы дотыкам рукі стараўся дапамагчы збалеламу сэрцу. А тое пачало ўжо часьцей рабіць перабоі. Тады канваеры брыдкімі словамі, а пасьля й прыкладамі стрэльбаў падштурхоўвалі яго да паскарэньня хады. На гэты раз ён запыніўся неяк даўжэй звычайнага й запыніў на момант рух тых, што йшлі за ім. Канваер падбег падштурхоўваць. І на гэты раз не абыйшлося без адборыстага прыгадваньня маці. Стары, нібы ўпёршыся, стаяў і калупаў пальцам у носе. Гэта абурыла няўклюжага, з расьсечанай губою, канваера.

— Што, сьвярбіць? — зароў ён немым голасам на старога. — Ну, дык я табе зараз пачашу!

Ён вокамгненна выхапіў з кабуры наган і прыставіў халоднае, бліскучае дула да самага носу старога. Пачуўся стрэл, і на вачох этапнікаў, побач Кастуся, той павольна асунуўся на зямлю. Па твары й шыі пабег чырвоны цурок. Сьмерць прыйшла раптоўна.

Не пасьпеў Кастусь выказаць слоў абурэньня: — Зьвяры, што вы робіце? — як канваер апярэдзіў яго крыкам на ўсіх не запыняцца.

— Уперад марш, бяз спынку, бо кожнаму будзе гэтак! — заскуголіў ён ні сваім, дрыжачым дыскантам на спужаных людзей. Калёна паслухмяна падалася ўперад. У кожнага з тых, хто гэта бачыў, усю дарогу стаяў у ваччу твар з цурком крыві. Жахлівы абраз бачанага прыгінаў галовы вязьняў дадолу, рабіў іх паніклымі й бездапаможнымі. Кожны мог чакаць сабе такога-ж канца. Куды вядзе іх доля й дзе іх чакае наканаваны канец? Зусім магчыма, што якраз недзе на ўзбочыне дарогі ляжа й іхнае прабітае куляю цела. Ад гэтых ашалелых няўдачаю гадаў нічога добрага чакаць нельга. Але й выратавацца наразе з гэтага становішча няма як. Усе пакорліва й бяздумна сунуліся ўперад, ледзьве перастаўляючы ногі. Слабейшыя цягнуліся ззаду. Тых, каго пакідалі сілы, чуваць было, як аднаго па адным расстрэльвалі тут-жа пры канцы калёны, вычакаўшы, калі этап адыйдзе крыху ўперад.

Кастусь пасьля бачанага выпадку ня сунуўся да краю. Наадварот, ён стараўся ізноў быць у сярэдзіне калёны. Ён бачыў, як былога аднакамэрніка, старога краўца, іншыя падтрымваюць пад рукі. Часамі ён зусім ня ішоў, а валачыўся, падвешаны на чужых руках пад пахі. Адмаўляліся слухацца старыя, ужо зусім аслабелыя ногі. Сябры як маглі, ратавалі яго ад немінучай загубы. Варта было пакінуць на волю лёсу, як ён адразу ляжаў-бы на дарозе з прастрэленай галавой. “Сьвет ні бяз добрых людзей”, — падумаў Кастусь і сам наблізіўся, каб пры нагодзе зьмяніць тых добрых людзей, што ў гэткі цяжкі час ня страцілі спачуваньня да няшчасьця другога і, выбіваючыся з сілаў самі, ратуюць ад сьмерці іншага. Якраз у гэты момант былы Кастусёў сукамэрнік, аграном у белым летнім гарнітуры, які падтрымваў чалавека зьлева, сам нешта пачаў угінацца й нібыта цяжка валачыць ногі. Кастусь адразу выхапіў з ягоных рук старога й моцна пачаў прытрымваць праваю рукою ягоную левую паху. У вачох агранома засьвяцілася ўдзячнасьць.

— Няхай Бог дапаможа ў тваім жыцьці, навядзе на дарогу збаўленьня ад гэтае напасьці, — прагаварыў стары заліваючыся сьлязьмі, што размывалі раўчукі пылу, які густа пакрываў змарнаваны твар.

Кастусь адчуваў, як гэтыя словы акрылялі яго надзеяй на лепшы канец. Цяпер, у гэтым агульным горы, зварот да Бога быў збаўчым прыцягальнікам і надзеяю ў нешта лепшае. Кастусь прыняў адкрытаю душою гэтыя словы з глыбіні ўдзячнага сэрца пакутніка. Ён прыняў іх на веру, тая ізноў сьветлаю іскрынаю залунала ў абнадзеянай душы, што шукала збавеньня. Кастусь крочыў цяпер больш упэўнена. Нябачная сіла акрыяла ў ім і надавала нейкае ўзьнятасьці. Ён нёс на сваёй правай руцэ палову цяжару чалавека й нібыта не адчуваў ніякае стомы. Калі праз нейкі час аграном хацеў яго замяніць, ён адмовіў яму яшчэ на гадзіну. Да раніцы яму прышлося некалькі раз брацца памагаць чалавеку, і кожны раз ён адчуваў вялікае задавальненьне з сьведамасьці, што ён выратоўвае чалавека ад лютае сьмерці, што крок у крок ішла неадступна па сьлядох і толькі чакала зручнага моманту праглынуць у сваёй ненажэрнай

пашчы чарговую ахвяру.

Перад сьвітаньнем, пасьля няспыннага начнога маршу па пыльным бальшаку, этап дайшоў да шырокае пасекі па абодвых бакох дарогі. Тут канваеры загадалі ўсім сыйсьці з дарогі й разьмясьціцца на адпачынак на макраватым полі паміж кароткіх пнёў, рэштак нядаўна высечанага лесу. Нявольнікі мусілі сядзець на кукішках, або ляжаць, але не ўставаць. Уставаць пад пагрозаю сьмерці забаранялася. Хоць і нязручна было сядзець на сырым імху, але ўсё-ж лепш, чымся ісьці, выбіваючыся з апошніх сілаў. Людзі былі рады выцягнуцца на ўвесь рост ды старацца як мага больш адпачыць. Некаторыя паселі каля пнёў, паклаўшы ногі ўгору, каб ацякалі. А дзе-хто смактаў мох, стараючыся такім чынам перабіць сваю смагу. Нехта знайшоў у зямлі невялічкую ямінку й высмактаў зь яе рэшту затрыманае там вільгаці.

Праз колькі часу далучылі этап прыгнаных зь Літвы жанчынаў. Іх таксама, як небясьпечных, гналі тымі-ж дарогамі на ўсход, далей ад фронту. Бальшыня гэтых жанчынаў мела пры сабе курыва. Яны расьселіся сярод нашых і пачалі гаворку й роспыты. Але як адным, гэтак і другім у думках карцела толькі аб вадзе.

— Піць! Піць! Піць! — неслася з усіх бакоў бадай ад кожнага зьняволенага. Усе прышвартаваныя да зямлі, дарма што дзень ня елі, цяпер толькі й прасілі, каб напіцца вады. Канваеры бездапаможна й ніякавата разводзілі рукамі. Больш сумленыя зь іх выяўлялі сваімі тварамі спачуваньне. Яны больш маўчалі на бясконцыя лямАнты аб вадзе. Іншыя адбрэхваліся мацяршчынай. Некаторыя крычалі немым голасам на кожнае вымаганьне вады. Нарэшце ўсе змоўклі, пабачыўшы, што няўмольных не ўламаць і вады ад іх не дапрасіцца. Але тут, якраз побач Кастуся, раптам спыняецца адзін канваер у скураной куртцы, малады, рухавы й абвяшчае:

— Хто хоча напіцца, няхай падыходзіць да мяне.

Усе, хто пачуў гэты заклік, кінуліся да канваера. Каля яго ўраз утварыўся натоўп. Ён-жа адабраў дзесяць чалавек і загадаў імісьці за ім.

Сярод шчасьліваe дзесяткі быў і Кастусь. Яму пашчасьціла падбегчы першым і трапіць у лік абраных. Ён ішоў усьлед за правадніком па дарозе ў адваротным кірунку да руху й думаў толькі аб тым, як ён зараз нап'ецца тае жыватворнае вільгаці, што цяпер кожнаму становіць найпершы ідэал і мяжу першапачатных жаданьняў. Канваер ішоў ўперадзе й нават, здавалася, зусім не аглядаўся на людзей. Аднак ніхто не адважыўся загубіцца ў натоўпе падарожных людзей. Думка аб вадзе не дапускала мрояў аб уцёках. Сама думка аб волі ў гэты момант магла здацца нязбытнай.

Калі дайшлі да невялікага каменнага мосьціка праз зьвілістую й балоцістую рачулку ўнізе, пачалі спускацца з насыпу да вады. У Кастусёвага суседа знайшлася конаўка. Ён напіўся сам і даў яе Кастусю. Кастусь зачарпнуў ёю вады й прыпаў да яе губамі. Вада аж булькала, льлючыся ў горла. Кастусь азірнуўся на іншых. Усе бяз

вынятку яшчэ пілі. Бальшыня проста ляжала на беразе тварам да рэчышча й нагбом сёрбала з паверхні плыні. Канваер адвярнуўся тварам да кустоў і задумна ўглядаўся ў даль па той бок ракі, дзе разьцягнуліся, як вокам сягнуць, шырокія прасторы зялёных, роўных паплавоў. На даляглядзе чарнеліся паміж зяленіва саламяныя стрэхі сялянскіх сялібаў. Кастусь павярнуўся тварам да дарогі. Там паранейшаму рухаўся ўсё той-жа бясконцы людзкі натоўп. Людзі запаўнялі дарогу на ўсход на зьмену тым, якія мінулі гэтыя мясьціны раней. Рух ані ня зьменшыўся ўначы. Падобна было, што якраз тады ён набыў найбольшага размаху. Відаць, начны перапынак у бамбардаваньні быў скарыстаны мянчанамі для масавага выхаду зь небясьпечнага места. Кожны стараўся быць далей ад ізноў чаканай калатні, каб не апынуцца пад бомбамі ўдзень. Усё новыя й новыя грамады людзей тварылі суцэльны людзкі затор на дарогах. Кожны пакідаў за сабою жудасны абраз дымнага слупа, што стаяў над вогнішчам Менску. З гэтым дымам у агні зьнікалі ня толькі скарбы й набытак шматгадовай працы, але й падзеі пражытага. Як жывы напамін аб толькі-што ўчыненым непапраўным няшчасьці, гэты слуп дыму гнаў людзей у сьвет з родных хатаў на нязнаныя выпрабаваньні. Ён стаяў страшным відовішчам у зьбянтэжаных вачох кожнага выгнанца зь беларускае сталіцы.

Усё гэта раптоўна пранеслася ў галаве Кастуся й на момант прыцягнула й ягоную ўвагу да гэтага злашчаснага слупа дыму над родным местам. Але таксама ліхаманкава хутка думка адразу-ж падказала, што цяпер, як ніколі, ёсьць добрая нагода зьнікнуць з вачэй аховы ў натоўпе падарожных. Кастусь яшчэ раз зірнуў на канваера. Той паранейшаму стаяў адвярнуўшыся, нібы сьведама даваў нагоду зьняволеным шукаць ратунку. Усе яшчэ ўсё пілі, або стараліся перадыхнуць, каб ізноў прыпасьці да гэтае, гэтак жыцьцядайнае цяпер, вады.

І хоць Кастусь марудзіў з пастановай уцякаць ці не, нейкая невядомая, інстыктыўная сіла штурхнула яго хутка ўзьняцца на насып. Тут ён заўважыў на сабе сьвідруючы, зьдзіўлены пагляд аднае маладое жанчыны з падарожных. Каб неяк разважыць ейную спасьцярогу, Кастусь запыніўся й ціха запытаўся ў яе, куды вядзе гэтая дарога. Гэта было неасьцярожнае запытаньне, бо яно толькі больш спужала яе. Ейныя вочы бліснулі спалохана, і яна ад перапуду анямела й не ўстане была што-колечы сказаць. Кастусь ня стаў чакаць адказу. Пачуцьцё самааховы падказала яму хуценька загубіцца сярод падарожных. Ён зрабіў колькі крокаў падбегам і хутка выбраўся наперад сярод выгнанцаў. Далей ён ішоў ужо вольным чалавекам у тым-жа кірунку, куды ішлі іншыя. Дарма, што калацілася, ледзь ня выскакваючы з грудзей, сэрца, аднак твар ня выдаваў адзнакі гэтага ўзрушаньня.

Праз колькі часу пачуў стрэлы. Абярнуўшыся, ён пабачыў, як далёка ўжо ад яго канваер штосьці крычыць і час ад часу страляе ўверх з нагана ды размахвае ім над галовамі людзей. “Відаць, не

далічваецца чалавека, — ураз прабегла думка ў Кастусёвай сьведамасьці. — Ліха тваёй галаве. Лічы, ня лічы, нічога цяпер табе не дапаможа. Стрэлам зьбеглага ня вернеш, пішы — прапала".

І ён яшчэ шпарчэй падаўся ўперад, што-раз апераджаючы сваіх падарожных суседзяў. Сьпярша Кастусь быў поўны пачуцьця няпэўнасьці адносна раптоўна здабытай волі. Неяк было нязвычна пачуваць сябе вольным, так адразу, раптоўна. Кастусь ішоў і ўсё неяк боязна аглядаўся па баках. Яго сьведамасьць муляла тое, што ў кішэні ляжала копія дакуманту аб зробленым вобыску. Такая копія давалася звычайна зьняволеным, і яна цяпер была ў яго бадай-што адзіным сьведчаньнем нядаўняга арышту. Адылі, гэта быў адзіны й сваеасаблівы дакумант — пасьведчаньне асобы. Ніякага-ж пашпарту пры ім ня было — пашпарт недзе ляжаў там, на турэмным панадворку, у сьмецьці. Таму можа цяпер хоць гэты шматок паперы будзе доказам асобы. У такі благі час, калі кожнага бездакумантнага могуць палічыць за нямецкага шпіёна, магчыма лепш мець хоць гэтую фількаву грамату: усё-ж даводзіць, што носьбіт яе — ніякі ні чужынец, а свой небарака, савецкі чалавек.

"А раптам здарыцца які-небудзь кантроль, праверка дакумантаў, а ў мяне акрамя гэтае цыдулькі ніякіх іншых папераў, — спасьцеражліва кальнула думка Кастуся. — Адразу падумаюць, што ўцёк. Буду цьвердзіць, што адпусьцілі. Але хто дасьць веры ў гэтай завірусе? Пасьля трэба будзе яшчэ даводзіць, за што быў зьняволены. Ну, пэўна-ж, трасцу ім у бакі, ня прызнаўся-б, што палітычны. Казаў-бы, што за спазьненьне на працу на паўгадзіны па дэкрэту ЦК партыі й ураду. Але ці паверылі-б, віламі пісана. Не, лепш адразу пазбыцца гэтага клопату. Трэба зьнішчыць гэты дакумант, каб аб арышце ўсе канцы ў ваду схаваліся".

За гэтым роздумам Кастусь ня даў асаблівае ўвагі, як проста насустрач перад вачыма ўсё вышэй і вышэй над сінімі грэбнямі лясоў падымалася сонца, і вакол усё ажывала. Кастусь зьвярнуў у прыдарожны лясок, выцягнуў зь кішэні тую небясьпечную паперку, падраў на дробныя шматкі й раскідаў пад кусты. Пасьля з аблягчэньнем, нібы скінуўшы вялікі цяжар з плячэй, адыйшоўся ў малады сасоньнік і прысеў адпачываць на ўзгаркаватым, сухім курганчыку. Вакол сядзелі й ляжалі падарожныя. Кастусь незаўважна паддаўся перамажнай дрымоце. Усяму целу сталася гэтак лёгка, што Кастусю здалося, быццам ён узьняўся й паляцеў у нябесную высь. Там перад ім лунала ў вышыні празрыстая постаць ягонае маці. Яна выцягвала да яго рукі, ён памыкаўся дайсьці да іх, але яны ізноў адлучаліся ад яго. Маці вабіла яго за сабою й вачыма маўкліва клікала далей, туды, дзе нібыта быў ягоны бацька. Твар старога то паказваўся, то зьнікаў. На ім рысаваўся вялікі жаль і гэткі нясьцерпны боль, што Кастусю рабілася балюча журботна. Колькі разоў ён ні памыкаўся наблізіцца да постаці маці, яна кожны раз расплывалася ў прасторы, а бацькавы вочы з далячыні даносілі тужлівы дакор за адзіноту, на якую асуджаў іх злы лёс.

Калі Кастусь прачнуўся, ён заўважыў, што цень пад ялінкаю значна пакарацеў, а ягоныя ногі купаліся ў зыркім сонечным сьвятле. Ён хуценька прахапіўся, атросься й выйшаў на дарогу. Неўзабаве ён заўважыў высокі зруб, ля якога запыняліся падарожныя. Падаўшыся туды, ён зьнянацку натрапіў на знаёмую дзяўчыну, студэнтку-мэдычку. Кастусь не памятаў нават ейнага імя. Спачатку не прыгадваў, дзе ён зь ёю пазнаўся. Яна-ж вясёлымі вачыма глядзела на яго й яшчэ здалёк прывабна ўсьміхалася. Ён адказаў тым-жа, і яна першая зрабіла крок у ягоны бок, нібы жадаючы зь ім пагутарыць. У ягонай самоце гэта было неспадзяваным дарункам лёсу. Кастусь прыглядзеўся да рысаў ейнага твару й успомніў, што некалі танцаваў зь ёю на вечары ў доме Мэдычных Працаўнікоў у Менску. Ён тады не прыдаваў гэтаму асаблівае вагі. Але ёй ён чамусьці запамятаўся, і цяпер яна не хавала свае радасьці ад спатканьня.

— Кастусь? — ціха, але станоўка назвала яна ягонае імя.

— Дзякуй за памяць, —адказаў спакойна Кастусь. — А мне даруйце, не памятаю, як вас завуць.

— А я вам тады называла маё імя. Мабыць ня цікава было памятаць.

— Відаць, ня буду ведаць.

— Гэта вам кара за кароткую памяць.

— Сапраўды, ня вінаваты, памяць на імёны благая. Помню чалавека з твару праз усё жыцьцё, а вось прозьвішча ня ўспомню.

— А гэта таму, што забагата маеце іх на памяці, дзявочых асабліва.

— Няхай будзе й гэтак. Куды-ж вы кіруецеся?

— А туды, мусіць, куды й вы.

— Адна ў дарозе?

— Не, з бацькам і малым брацікам. Тата, Юрык, хадзеце сюды — гукнула яна.

Бацька Апанас і малы брат звычайна пазнаёміліся з Кастусём. Доўга не марудзячы бацька ўзяўся за чамаданчыкі й прапанаваў ісьці.

— Гэля, запрашай маладога чалавека ісьці разам. Пойдзем у кірунку Сьмілавіч, на Чэрвень.

— Так, так, пойдзем разам, — і яна кранула Кастусёву руку, каб скіраваць яго ў іхны бок.

— Ну вось я й даведаўся пра ваша імя, Гэля. А некалі, здаецца вы называлі іншае імя . . . Няпраўда?

— Дык хіба першаму сустрэчнаму кажуць сапраўднае імя?

— А я-ж, вам, як бачыце, сказаў сваё . . .

Пакрочылі далей. Кастусь азірнуўся на захад. Пабачыў тое самае. Слуп дыму не разплываўся. Кастусь коратка выказаў Гэлі адчуваньне вялікага суму па родным месьце. Далей яны ішлі моўчкі. Сонца сьвяціла проста ў вочы, ад яго жмурыліся, але патроху й весялелі. Гэля дала Кастусю ладны кавалак хлеба з маслам. Пасьля кароткага адпачынку ў лесе, Кастусь пачуў сябе больш бадзёрым. Ісьці было

лягчэй. Гаворкі з Гэляй пра ўнівэрсытэт, аб нядаўных спадзяваньнях дзяўчыны на заканчэньне асьветы, скрашвала падарожжа й адрывала Кастуся ад трывожных думак пра невядомасьць. Употай ён быў вельмі рады гэтаю сустрэчаю.

Раптам над бальшаком пачулася моцнае гудзеньне матору. Аднекуль зьнячэўку вынырнуў самалёт і пранёсься ўздоўж дарогі. Ён хутка зьнік на даляглядзе. Людзі прынялі яго за свайго. Але неўзабаве паказаліся вялікія летакі з даўгімі, як літара П, хвастамі. Яны ляцелі на ўсход. Праз колькі часінаў удалі загрымела выбухамі. Зямля пад нагамі падарожных лёгка хістанулася. Недзе недалёка былі скінутыя чарговыя грузы бомбаў. Незадоўга тая самая чарада самалётаў вярталася назад. На гэты раз яны ляцелі ня так высака й нарабілі вялікага перапалоху. Усе стрымгалоў пачалі разьбягацца з дарогі. Людзі беглі ў поле, пакідаючы на дарозе свае манаткі. Нечакана з чарады самалётаў адарваўся адзін лятак з выразнымі крыжамі на крылах і пачаў страчыць па дарозе кулямётнаю чаргою. Недалёка ад Кастуся павалілася жанчына. Кулямётная строчка ўздымала на дарозе роўны шнурок прыўзьнятага пылу. Кастусь з Гэляю, а за імі бацька з малым Юркам кінуліся подбегам у лясок, што вытыркаўся купкаю ялінак і стракатых сасонак на зялёным абапал полі. Малы калаціўся ад пярэпалоху. Гэля ўхапілася за Кастусёву руку, нібы шукаючы ў ёй паратунку. Яны прытуліліся да смалістага дрэва й гэтак прастоялі нейкі час. Ужо ня чутна было прарэзьлівых гукаў летака, а людзі ўсё яшчэ не вярталіся на дарогу. Калі Кастусь з сваімі знаёмымі выйшаў з прылесься, перад ім было нязвычнае відовішча. На дарозе далей валяліся чамаданы й клумкі. А людзі ўсё яшчэ туляліся полем. На дарозе-ж колькі асобаў стагнала й нема прасіла дапамогі. Прабітая куляю жанчына ўжо аддавала Богу душу. Густая кроў сачылася зь ейнае шыі й цурком зьбягала з грудзей зьнікаючы ў дарожным пыле. Незаплюшчаныя вочы страшнымі зрэнкамі бяздумна ўзіраліся ў даль, а над усім гэтым трызвоніла няспынная капэля птушак і ціха траскучых палявых конікаў.

Невясёлым ішоў Кастусь далей на ўсход. Ён бачыў, як ненажэрны молах вайны нідзе не пакідае бедных людзей. Нават тут, далёка ад якога небудзь вайсковага аб'екту, ён нагнаў гэтых нявінных уцекачоў. Забітая жанчына ўсё яшчэ стаяла ў ваччу. Хто яна такая, чаму яна адна ішла ў невядомасьць? Магчыма яна вось таксама, як Кастусь, была выгнаная з роднага Менску якімі-небудзь асаблівымі абставінамі і ў дарозе толькі й думала пра сваіх, аб хуткай сустрэчы. Бязьлітасны-ж лёс раптоўна адабраў у яе жыцьцё, і цяпер ніхто з родных ніколі гэтак і не даведаецца, што зь ёю сталася. Пасьцягваюць вакольныя сяляне зь яе вопратку й закапаюць недзе ў невядомай агульнай магіле.

І што чакае кожнага выгнанца ў гэтай дарозе? Сёньня быў толькі першы налёт самалётаў, а хто ведае, колькі іх яшчэ будзе заўтра, пасьлязаўтра? Якім марным выдаваўся цяпер людзкі лёс у гэтым ходаньні вялікім народаў і кантынэнтаў. Эгаістычныя інтарэсы кі-

руюць правадырамі, а бедныя людзі мусяць цярпець. Было яно гэтак заўсёды й гэтак будзе далей. На гэтым уся гісторыя чалавецтва пабудаваная.

Гэля заўважыўшы задуманасьць Кастуся, далікатна кранула яго сваёю рукую й чульліва сказала:

— Жывы аб жывым думае. Годзе смуткаваць. Выберамся зь бяды, іншае пабачым.

Кастусь зірнуў у ейныя поўныя ласкі й страху сьветлыя вочы. Прыўзьнятай да сонца галавою ён улавіў на сабе подых цяплыні. Словы дзяўчыны запалі ў душу, як мудрая парада. Ён павесялеў. Тады Гэля нячутна для іншых запытала:

— Я не хацела адразу пытацца, але мне карціць ведаць, чаму вы пастрыжаныя. Вы-ж мелі такую чупрыну, што за яе адну можна было ў вас закахацца.

— Цяпер-жа лета, гарачыня, для ўмацаваньня валасоў згаліў іх, — адказаў унікліва Кастусь і хуценька зьвёў гутарку на іншую тэму. А сам у гэты момант падумаў, што гэта няйначай бацька ейны навёў яе на гэтую думку.

"Трэба лепш маўчаць, мала што можа быць. Яшчэ, барані Бог, як небудзь неасьцярожна выкажа каму адно слова, а там, глядзі, і бяда мне ўчыніцца, — спасьцярожліва падумаў Кастусь і пастанавіў быць скупым на прызнаньні. — Тым больш мне зусім нязнаны яе бацька. Як кажуць, беражонага й Бог беражэ. Хто ведае, што ў яго галаве. У гэты час нат брату роднаму нельга поўнасьцю давяраць. А чужым людзям і тым больш. Яны-ж мяне амаль ня ведаюць. Таму трэба быць вельмі асьцярожным".

Каб неяк разьвеяць ніякаватасьць, Кастусь сьведама пачаў гутарыць з Ягоркам, а той цікавіўся ўсім і быў рады, што дзядзька стаў ўважлівым да яго . . .

(працяг будзе)

---

В. СЕНЬКЕВІЧ (Гішпанія)

## ДА 105-годзьдзя НАРАДЖЭНЬНЯ ФРАНЬЦІШКА АЛЯХНОВІЧА

Імя Франьцішка Аляхновіча ў сучаснай БССР да нядаўняга часу было наогул невядомае. Яно не фігуравала ні ў хрэстаматыях, ні ў школьных падручніках, ні ў дапаможніках для студэнтаў вышэйшых навучальных установаў. Гэтак, напрыклад, вы дарэмна будзеце шукаць яго ў «Нарысах па гісторыі беларускай літаратуры», працы выдадзенай у 1956 годзе пад рэдакцыяй Барысенкі, Броўкі й Лынькова, як ня знойдзеце і ў «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» выдадзенай у 1969 годзе; хоць у разьдзеле «Драматургія» можна даведацца пра малавядомых літаратараў, што выступалі ў драматургіі, як Касьян Вясёлы (Аўдзей Вікенцій) і Кандрат Лейка.

Ня знойдзеце яго нават і ў 12-томнай унівэрсальнай «Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі», ні ў 5--ым томе Кароткай Энцыкляпэдыі «Беларуская ССР», які прэтэндуе на біяграфічны даведнік пра людзей, жыцьцё і дзейнасьць якіх зьвязаная зь Беларусяй. Не згадвае імя Франьцішка Аляхновіча і Уладзімер Няфёд у сваім нарысе гісторыі «Беларускага Тэатру», выдадзеным у 1959 годзе, кніга, якая паводле аўтара «зьяўляецца першай спробай у савецкім тэатразнаўстве абагуліць шматвяковую гісторыю беларускага драматычнага тэатра».

Адсутнічае ягонае імя і ў 1-ым томе «Энцыкляпэдыі Літаратуры і Мастацтва Беларусі», нягледзячы на тое, што ў прадмове «Ад рэдакцыйнай калегіі», адзначаецца, што «Стваральнікі энцыкляпэдыі **імкнуліся не абмінуць ніводнай значнай фігуры** ў гісторыі беларускай літаратуры і мастацтва». Не ўспамінаецца Франьцішак Аляхновіч і ў артыкуле пра беларускі **савецкі** літаратурна-мастацкі часапіс «Вольны Сьцяг», зьмешчаны ў тым-жа самым 1-ым томе ЭЛІМБЕЛУ, як яго супрацоўнік.

Затое знаходзім яго ў 2-ім томе «Гісторыі Беларускага Тэатру» у трох тамах, падрыхтаваным Сэктарам Тэатра АН БССР з удзелам тэатразнаўцаў навуковых і навучальных установаў Беларусі, які выйшаў у 1985 годзе. Том гэты прысьвечаны тэатру савецкай эпохі 1917-1945 гадоў. Праўда, фігура Франьцішка Аляхновіча паказаная тут у тэндэнцыйным і адмоўным сьвятле, як буржуазны нацыяналіст а ягоны «Беларускі Народны Тэатр», як установа, што **нібыта** дагаджала акупантам. Але гэта, пакольні нам вядома, быў першы раз, калі імя гэтага выдатнага драматурга й тэатральнага дзеяча бліснула на старонках рэспубліканскага друку пасьляваеннага пэрыяду.

Зьявілася яно ізноў зусім нядаўна. А менавіта ў артыкуле Адама Мальдзіса «Давайце будзем пасьлядоўнымі!» надрукаваным у сёлетнім 7-ым нумары тыднёвіка «Літаратура і Мастацтва» з 12-га лютага. У ім, і ўпяршыню, аўтар ставіць пытаньне аб'ектыўнай ацэнкі ў дачыненьні да Франьцішка Аляхновіча. Ён піша: «На пачатку свайго творчага шляху ён выступіў як адзін з пачынальнікаў беларускай драматургіі і беларускага тэатра, сядзеў за свае антыцарскія творы ў турме. Потым, будучы непасьлядоўным і няўстойлівым па сваёй натуры, напісаў антысавецкую кнігу, перакінуўся ў паланафілы. Урэшце, — адзначае Адам Мальдзіс, — стаў актыўна супрацоўнічаць з фашыстамі, за што быў пакараны народнымі (?! — рэд.) мсьціўцамі. Сёньня, — працягвае аўтар, — у энцыкляпэдычных выданьнях пра яго няма ні слова (здраднікі Астроўскі і Абрамчык існавалі, а здрадніка Аляхновіча не існавала . . .). Між тым усё трэба называць сваімі імёнамі: вось тут Аляхновіч — паплечнік Буйніцкага і Галубка, а вось тут — здраднік . . .».

Сказана мала й не зусім выразна. Чытач так і не даведаецца нічога пра сапраўднага Аляхновіча. Ён ня будзе ведаць, што гэта за «антысавецкую кнігу» напісаў Ф. Аляхновіч, калі і ў якіх акалічнасьцях? (Забягаючы наперад скажам, што Мальдзіс мае на ўвазе ўспаміны Франьцішка Аляхновіча « У кіпцюрох ГПУ», што выйшлі ў 1937 годзе ў Вільні. Кніга гэтая — адна зь першых пра савецкі Архіпэлаг-Гулаг і, бадай, адзіная ў беларускай літаратуры таго часу, што зьявілася ў друку ў перакладзе на ўсе галоўныя мовы Эўропы. Кнігу «У кіпцюрох ГПУ» Аляхновіч напісаў пасьля таго, як адпакутаваўшы сем год на катарзе ў Салавецкіх канцлягерах, яму пашчасьціла вырвацца зь няволі й вярнуцца ў родную Вільню. Яна, гэтая кніга, а не нейкае там «актыўнае супрацоўніцтва з фашыстамі» й была галоўнай прычынай яго мярзотнага забойства так званымі «на-

роднымі мсьціўцамі», ці бо прафэсіяльнымі забойцамі Бэрыі ў 1944 годзе).

Што-ж тычыцца ярлыка «здраднік», які паважаны аўтар прышпільвае Франьцішку Аляхновічу, то, на наш пагляд, тэрмін гэты вельмі-ж ужо адносны, бо ўжываньне яго залежыць ад таго, зь якога пункту гледжаньня гэта робіцца: зь беларускага нацыянальнага ці партыйнага савецкага, а дакладней, маскоўскага. Нельга забываць, што яшчэ некалькі дзесяцігодзьдзяў таму, пасьля так званых «нацыянальных» чыстак у БССР у канцы 20-х — ды далей 30-х гадоў, імя Франьцішка Скарыны, як і імя Кастуся Каліноўскага, было выкрасьленае зь гісторыі. Франьцішак Скарына быў залічаны да «рэакцыянераў», «сярэднявяковых манахаў» і нават «езуітаў», а Кастусь Каліноўскі да «шляхецкіх правадыроў», «рэакцыйных сваімі ідэямі» й пад такімі ярлыкамі выкінутыя зь гісторыі. А сёньня?

Галоўнае аднак у артыкуле Адама Мальдзіса «Давайце будзем пасьлядоўнымі!» гэта тое, што ў ім зробленая першая спроба глянуць на Франьцішка Аляхновіча ды ня толькі на яго, а й на іншыя асобы й падзеі больш аб'ектыўна, бо, паўтараючы за Мальдзісам словы Граніна: «гісторыя ня дзеліцца, зь яе нельга выкалупваць толькі салодкія ласункі».

Кім-жа тады быў у сапраўднасьці Франьцішак Аляхновіч? Максім Гарэцкі гаварыў пра яго, што ён «аднолькава здольны і ў драме і ў лёгкай камэдыі», а ў «Хрэстаматыі новай беларускай літаратуры», выдадзенай у 1927 годзе адзначыў: «Дзякуючы таму, што лік твораў, напісаных Аляхновічам, даволі значны, — ён у гісторыях літаратуры ахрышчаны бацькам беларускай драматургіі».

Італьянскі-ж аўтар Джусэпэ Мэссіна, у сваёй працы «Ля леттаратура белёрусса» («Беларуская літаратура»), выдадзенай у 1952 годзе ў Флярэнцыі піша, што Франьцішак Аляхновіч «сапраўдны заснавальнік беларускага тэатру», ды што ён — аўтар шматлікіх цудоўных п'есаў, такіх як «На Антокалі», «Страхі жыцьця», «Бутрым Няміра», «На вёсцы», «Каліcь», «Манька», «Базылішк», «Дзядзька Якуб», «Заручыны Паўлінкі», «Птушка шчасьця», «Няскончаная драма», «Дрыгва», камэдыі «Чорт і баба» й шмат, шмат іншых твораў, матэрыял для якіх Франьцішак Аляхновіч чэрпаў з далёкае мінуўшчыны беларускага народу, з народных паданьняў, п'есы, якія пісаў калісьці Артур Вольскі: «атрымліваюць найбольш доўгае сцэнічнае жыцьцё», бо ў іх «адлюстроўваюцца падзеі, зьвязаныя зь гістарычным мінулым рэспублікі».

Дарэчы, пра выдатную ролю Франьцішка Аляхновіча ў станаўленьні беларускага нацыянальнага тэатру гаворыць у сваёй працы «Гісторыя беларускай літаратуры» й ангельскі прафэсар Арнольд МакМільлін. Праца гэтая была выдадзеная ў Заходняй Нямеччыне ў 1977 годзе.

Будучы драматург нарадзіўся 9-га сакавіка 1883 году ў Вільні, у мяшчанскай сям'і беларусаў каталікаў. Ягоны бацька быў музыкай-скрыпачом у тэатральных аркестрах Вільні. Малым хлопчыкам Франьцішак палюбіў тэатральнае жыцьцё, і гэта абумовіла выбар жыцьцёвай дарогі. Вучыўся ў Вільні, спачатку ў гімназіі, потым у хімічна-тэхнічнай школе, затым у драматычнай школе ў Кракаве і ў школе Музычнага Таварыства ў Варшаве.

Вярнуўшыся ў родную Вільню, Франьцішак Аляхновіч працаваў над арганізацыяй беларускага тэатру. У 1910 годзе, разам зь Ігнатам Буйніцкім і Алесем Бурбісам, пры ўдзеле Радзевіча, Мурашкі, Арлоўскага й Корсака, ён наладзіў першы ў час нашага нацыянальнага адраджэньня публічны беларускі спэктакль. Гэта была п'еса Крапіўніцкага «Па рэвізіі». Пасьля п'есы хор пад кіраўніцтвам

Людаміра Рагоўскага й гурток народных танцаў пад кіраўніцтвам Ігната Буйніцкага дапоўнілі праграму прыгожымі беларускімі сьпевамі й народнымі танцамі. Гэтак пры ўдзеле Францішка Аляхновіча пачаў сваю працу новы беларускі нацыянальны тэатр Ігната Буйніцкага.

Каб зарабіць на жыцьцё, Францішак Аляхновіч працуе рэпартэрам у гумарыстычным тыднёку «Пэркунас». За сатырычныя антыцарскія артыкулы ў гэтым часапісе Аляхновіч быў адданы пад суд. Аднак ён уцякае ў Галіччыну й тры гады езьдзіць з польскай тэатральнай групай у Кракаў, Львоў і іншыя гарады, ужываючы псэўданім Монвід. У 1913 годзе, спаслаўшыся на маніфэст аб амністыі з нагоды трохсотгодзьдзя дынастыі Раманавых ён вярнуўся ў Вільню, каб апынуцца ў турме, дзе прасядзеў адзін год.

Тут, на шчасьце беларускай драматургіі, і пачалася творчая дзейнасьць Францішка Аляхновіча. У астрозе ў 1914 годзе ён пачаў пісаць вядомую п'есу «На Антокалі», якую скончыў ужо на волі ў 1915 годзе. П'еса гэтая была надрукаваная ў «Гомане», а ў 1918 годзе выйшла асобнай кніжкай. «На Антокалі» — бытавая камэдыя з дробнамяшчанскага жыцьця віленскага прадмесьця Антокаль. У гумарыстычных фарбах аўтар стварыў цэлую галярэю калярытных тыпаў зь беларускага мяшчанскага асяродзьдзя зь ягонымі адмоўнымі й станоўчымі бакамі.

Аднак інтэнсыўная, сапраўдная праца Аляхновіча ў галіне беларускай драматургіі й тэатру прыпадае на час нямецкае акупацыі Беларусі ў Першай сусьветнай вайне.

Як адзначае Максім Гарэцкі ў сваёй «Гісторыі беларускай літаратуры» 24-га году выданьня, у гэты час Францішак Аляхновіч ладзіць у Вільні беларускія спэктаклі, арганізуе тэатральную групу, піша для беларускае сцэны. У 1916-17 гадох з-пад ягонага пяра выходзіць шмат цікавых сцэнічных твораў, такія як «На вёсцы» (ідылічны абразок у двух актах), «Бутрым Няміра» (п'еса ў двух актах, напісаная паводле легенды Вацлава Ластоўскага «Каменная труна»), «Манька» (п'еса ў чатырох актах), «Калісь» (рэвалюцыйна сцэнічны абразок у двух актах з жыцьця беларускіх гарадзкіх рабочых), «Базылішк» (казка ў трох актах) і іншыя. У Менску, Францішак Аляхновіч перабіраецца туды праз лінію старога фронту, ставіць на менскай сцэне свайго незабыўнага «Бутрыма Няміру». Гэта было ў 1918 годзе. Выступаючы ў галоўнай ролі самога Няміры, ён меў вялікі посьпех як актор і здабыў з боку гледачоў прызнаньне свайго вялікага таленту.

«Менскі беларускі тэатр ажыў» — піша Максім Гарэцкі ў сваёй «Гісторыі беларускай літаратуры». Пасьля гэтага Аляхновіч шырока разгортвае сваю тэатральную дзейнасьць у так званай «Беларускай хатцы» на Камароўцы, дзе й былі пастаўленыя Аляхновічавы: камэдыя «Чорт і баба», у аснову якое быў пакладзены вядомы верш Францішка Багушэвіча «Дзе чорт ня можа, там бабу пашле», п'есы «Страх жыцьця» (драма ў трох актах, у якой аўтар у панурых трагічных хварбах паказаў сацыяльнае зло й ваеннае гора жыхароў беларускага места), «Дзядзька Якуб» (драматычны абраз у дух актах з сьпевамі й танцамі), «Лес шуміць», «Заручыны Паўлінкі».

Увесну 1919 году Аляхновіч ізноў вярнуўся ў Вільню й адразу-ж уліўся ў беларускае нацыянальнае жыцьцё. Тут ён рэдагаваў ілюстраваны беларускі тыднёвік «Беларускае жыцьцё», пазьней газэту «Беларускі звон», ды інтэнсыўна працягваў тэатральную й драматургічную дзейнасьць. (Дарэчы, пра гэтыя два выданьні ў беларускіх савецкіх энцыкляпэдычных даведніках няма ні слова).

Драматургія, тэатральная дзейнасьць, былі прыродным прызначэньнем Аляхновіча. У сваіх сцэнічных вобразах ён адлюстроўваў ня толькі беларускае жыцьцё. Разам з тым ён уздымаў агульналюдзкія праблемы, а таксама закранаў і філязафічныя пытаньні. Ад легендарна-гістарычнага мінулага, праз народную казачнасьць ён прыходзіць да сцэнічнага адлюстраваньня перажываньняў беларускага інтэлігента-адраджэнца. Будучы віленчуком з паходжаньня, ня дзіва тады, што творчасьць Францішка Аляхновіча цесна зьвязаная з гэтым местам. Францішак Аляхновіч зусім слушна ўважаецца за бацьку навейшае беларускае драматургіі й тэатру.

У пачатку верасьня 1920 году выйшаў першы нумар беларускага літаратурна-мастацкага й навуковага ілюстраванага часапісу «Вольны Сьцяг». Выдаваў яго Літаратурна-Выдавецкі Аддзел Камісарыяту Народнае Асьветы БССР. У рэдагаваньні часапісу «Вольны Сьцяг» бралі ўдзел, між іншых, Янка Купала, Зьмітрок Бядуля й Цішка Гартны (Зьмітро Жылуновіч). У часапісе ўпяршыню быў апублікаваны шэраг твораў, якія сталі здабыткам беларускае культуры, у тым ліку творы Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Гарэцкага, Міхася Чарота, Леапольда Радзевіча, Зьмітрака Бядулі, Міхася Грамыкі, Янкі Журбы, Цішкі Гартнага й інш. Зь літаратурнай спадчыны ў «Вольным Сьцягу» зьмешчаныя творы Каруся Каганца й Алеся Гаруна.

У абвестцы «Ад Выдавецтва» «Вольнага Сьцягу» запрашаліся ўсе асобы, якія мелі рукапісы й жадалі прыняць удзел у супрацоўніцтве, прысылаць свае творы й матэрыялы ў Наркамасьветы БССР. Вось-жа Францішак Аляхновіч быў адным зь першых, хто зарэагаваў на заклік рэдакцыйнае калегіі «Вольнага Сьцягу» ды супрацоўніцтва ў ім. Ягоны артыкул «Тэатр на вёсцы» быў зьмешчаны ў 1-ым нумары часапісу ад 1-га верасьня 1920 году. Заканчэньне-ж у наступным другім нумары.

Гаворачы пра супрацоўніцтва Аляхновіча з савецкім часапісам «Вольны Сьцяг» неабходна сказаць некалькі слоў пра падзеі першай паловы дваццатых гадоў у Беларусі, падзеленай ганебным Рыскім дагаворам паміж Польшчай і Савецкай Расеяй 1921 году. Дык вось ува ўмовах польскае акупацыі й нацыянальнага прыгнёту ў Заходняй Беларусі, калі беларускія школы й культурнае жыцьцё прасьледвалася а беларускія кнігі канфіскаваліся пад шыльдай абвінавачаньняў у бальшавізьме, тагачасны культурны ўздым у БССР будзіў у заходнябеларускім насельніцтве ўсьведамленьне свайго прыгнечанага становішча ў польскай дзяржаве.

У выніку, яно міжвольна паварочвала зрок на ўсход у надзеі знайсьці там ажыцьцяўленьне сваіх імкненьняў да незалежнага жыцьця. Выяўленьнем гэтых настрояў былі масавыя пераходы граніцы на ўсход беларускай моладзьдзю. Звабленыя працэсам беларусізацыі сталіся нават і некаторыя дзеячы культуры, такія як драматург і пісьменьнік Францішак Аляхновіч. У пошуках магчымасьцяў сапраўднае тэатральна-рэжысэрскае дзейнасьці, з мэтаю, каб улучыцца ў працу над адраджэньнем роднае культуры, Францішак Аляхновіч прыяжджае ў 1926 годзе ў БССР і накіроўваецца на працу ў Другі Беларускі Дзяржаўны Драматычны Тэатр у Віцебску (цяперашні Беларускі Тэатр імя Якуба Коласа).

Поўны энтузіязму й творчае энэргіі, Францішак Аляхновіч адразу распачаў рэжысэраваць сваю п'есу «Чорт і баба», рыхтуючы таксама паставіць яшчэ некалькі сваіх лепшых твораў. Адначасова ён зьбіраўся напісаць новую драму.



Рада Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі. У цэнтры сядзіць
А. Каханоўскі-Калубовіч — Прэм'ер Міністар і Міністар Замежных Спраў.
Нямеччына, люты 1950 год.



Беларускае Культурнае Згуртаваньне. А. Калубовіч — старшыня БКЗ.
Менск, 1944 год.

Аднак праз некалькі месяцаў ён быў арыштаваны, беспадстаўна абвінавачаны органамі ГПУ ў шпіянажы на карысьць Польшчы й высланы на дзесяць гадоў у Салавецкія канцлягеры.

Сем год Францішак Аляхновіч пакутваў на катаржнай працы. У 1933 годзе, аднак, яму пашчасьціла вырвацца з гэтае жудаснае нявол й вярнуцца ў родную Вільню. Як пісала польская аўтарка Аляксандра Бэргман у сваёй працы «Рэч пра Браніслава Тарашкевіча», што была выдадзеная ў 1977 годзе ў Польшчы, ноччу з 6-га на 7-га верасьня 1933 году на моцы адмысловай умовы паміж Польшчай і Савецкім Саюзам, Францішак Аляхновіч быў выменены на аўтара «Беларускай Граматыкі» выдатнага беларускага вучонага-філялёга, прафэсара Браніслава Тарашкевіча, засуджанага польскімі ўладамі на дзесяць год турмы.

Вярнуўшыся пасьля гэтай вымены ў Вільню, Францішак Аляхновіч піша новыя драмтычныя творы: «Птушка шчасьця», «Няскончаная драма», «Дрыгва», «Пан міністар», і іншыя, а таксама кнігу-ўспаміны «У капцюрох ГПУ».

Кніга гэтая — адна зь першых пра савецкую канцлягерную сыстэму і, бадай, адзіная ў беларускай літаратуры таго часу, што зьявілася ў друку ў перакладзе на важнейшыя мовы Эўропы. Пры чым у некаторых перакладах яна мае загаловак «Праўда аб Саветах» (Уражаньні з 7-гадовага пабыту ў савецкіх турмах у 1927-1933 гадох» і шмат арыгінальных здымкаў, якія сьведчаць аб жудасным становішчы насельніцтва тагачаснага СССР.

Кніга — «У капцюрах ГПУ» і здымкі ў ёй, а не нейкае там «актыўнае супрацоўніцтва з фашыстамі», як гэта цьвердзіць Адам Мальдзіс у сваім артыкуле, была галоўнай прычынай забойства Аляхновіча агентамі Бэрыі ў 1944 годзе ў Вільні.

Францішак Аляхновіч вярнуўся з СССР у сваю родную Вільню ў 1933 годзе. Але і ў Вільні ГПУ не давала пісьменьніку супакою. Былі пушчаныя ў ход розныя правакацыі, каб перашкодзіць зьяўленьню ў друку ўспамінаў былога савецкага вязьня, які расказваў пра бальшавіцкія зьдзекі, пакутніцкі шлях бяз віны абвінавачаных людзей, ператвораных у бяспраўныя пад нумарамі істоты. Спачатку Аляхновіча абвесьцілі савецкім агентам, які нібыта прыкрываецца ўспамінамі. А калі гэта не дапамагло, дык пачалі ізноў цьвердзіць, што яго ў Менск заслала польская дэфэнзыва. Было неабходна, — як пісаў сам аўтар успамінаў, — яго «апаганіць, запэцкаць, каб страціў у грамадзтве ўсялякі давер». Аднак і гэтым разам пісьменьнік перамог.

Зьвінавачваньнем у беларускім нацыяналізьме, а побач з гэтым і ў польскім шпіянажы савецкія ўлады заўсёды карысталіся, як прыхваткай, для вынішчэньня беларускіх дзеячоў і нават звычайных нацыянальна сьвядомых сялян і работнікаў. З гэткімі ахвярамі сустрэўся ў маскоўскіх Бутырках і Францішак Аляхновіч.

У ягоных успамінах «У капцюрох ГПУ», выдадзеных у 1937 годзе ў Вільні чытаем: «Сустрэў двух землякоў, родам зь Вільні, работнікаў шкляное гуты, былых грамадаўцаў. Зачараваныя міражом «сацыялістычнага будаўніцтва», яны перайшлі мяжу, перакананыя, што знойдуць тут сваю другую «работніцкую бацькаўшчыну», а знайшлі вастрог... Цяпер вочы іх расчыніліся, яны шкадавалі свайго кроку, праклінаў агітатараў, тужліва ўспаміналі родную Вільню».

У 1941-44 гадох драматургія Францішка Аляхновіча ізноў вяртаецца ў Беларускі Тэатр у Менску. У гэтым самым часе драматург працаваў над новай п'есай «Круці ня круці — трэба памярці». Адначасова ён рэдагаваў газэту «Беларускі

Голас» у Вільні. Але 3-га сакавіка 1944 году жыцьцёвы шлях Аляхновіча абарваўся. Увечары таго дня, драматург, як звычайна, сядзеў пры сваім пісьмовым стале, канчаючы свае ўспаміны з часоў савецкае акупацыі Вільні ў 1939-41 гадох: «Страшны год» (успаміны недалёкіх дзён), якія друкаваліся пад псэўданімам Монвіда, у двухтыднёвіку «Новы Шлях» за 1944 год. Пачуўся стук у дзьверы. Незнаёмы голас папрасіў адчыніць, назваўшыся беларусам з правінцыі. Даверлівы Аляхновіч сказаў жонцы ўпусьціць гасьця. Ён правёў незнаёмага ў свай працоўны кабінэт, папрасіў сесьці. Жонка засталася ў першым пакоі. Раптам пачуўся глухі стрэл. Зь дзьвярэй кабінэту выбег чалавек з рэвальвэрам напагатове ў руцэ, скіраваў яго на жанчыну й загадаў: «Маўчы! А не, дык і табе будзе гэта самае!»

З гэтымі словамі ён кінуўся да дзьвярэй і ў імгненьне зьнік у начной цемры. Убегшы ў мужавы пакой, Аляхновічыха засьпела яго ў крэсьле з прабітай куляй галавой, з тварам у крыві. Неўзабаве асунуўся й праз колькі хвілінаў Франьцішка Аляхновіча ня стала на гэтым сьвеце.

Памсьлівыя бэрыяўскія агенты не ўтаймаваліся ў сваёй зацятасьці да Франьцішка Аляхновіча. Гэтак, у акупаванай немцамі Вільні, адабралі жыцьцё чалавека, які жыў справаю свайго народу, аддаў талент на дабро нацыянальнай культуры. А беларускі тэатр і драматургія страцілі ў асобе Аляхновіча аднаго са старэйшых дзеячоў, энтузіяста ўсіх беларускіх тэатральных пачынаньняў нашаніўскае пары, буйнейшага драматурга й першага гісторыка беларускага тэатру, аўтара працы «Беларускі Тэатр», якая выйшла ў 1924 годзе ў Вільні, 35 год перад тым, як зьявілася першая спроба у савецкім тэатразнаўстве абагульніць шматвяковую гісторыю беларускага драматычнага тэатру — кніга Уладзімера Няфёда «Беларускі Тэатр», што выйшла ў 1959 годзе.

Сьпіс-жа ахвяраў бэрыяўска-сталінскага тэрору павялічыўся яшчэ на адно імя — імя непераходнага значэньня для беларускае культуры.

Да гэтага часу мы пераважна гаварылі пра Франьцішка Аляхновіча, як пра драматурга, як аўтара шматлікіх цудоўных п'есаў і камэдыяў. Але апрача драматычных твораў Аляхновіч пісаў і вершам, а таксама невялічкія апавяданьні. Сярод іх згадаем хоць-бы «Пісьмы да яе» й «Дзіцячыя сьлёзы», якія Аляхновіч напісаў у 1918 годзе. Зь вершаў, больш вядомыя — «Ты, Вільня, мяне ўзгадавала», «Як я памру — прабійце сэрца мне калом» і «Мой родны край». У гэтым апошнім Аляхновіч пісаў:

Мой родны Край! Старонка сумная! —
За што цябе любіць? — калі-б спытаўся хто, —
Што адказаць, ня ведаў-бы я,
Скуль гэтая любоў? Дзеля чаго? За што?
Каменьне вострае крывава раніць ногі,
Дрыжыць ў паветры плач старых бяроз...
Хаця мне жудасна, я ня зыйду з дарогі,
Ня кіну край, дзе я радзіўся, рос...
Старонка родная! На што цябе любіці
І на ахвяру ўсё жыцьцё табе даваць?
Ці-ж не ляпей пад іншым небам жыці,
Забыць цябе, пакінуць, родна маць?
Там дзесь сады цьвітуць бязмала праз год цэлы,

Там неба сіняе, нямашака там хмар,
Людзкія тамака здароўем дышуць целы,
І абыймае дух мастацтва дзіўны чар...
Там Вінчы, Рафаэль, Анжэльлё, Тацыян,
Глядзяць монумэнты там горда ў неба выш; —
У нас — забыты ў полі дзесь курган
Ды ля дарогі дрэмле стары падгніўшы крыж...
Твой, Беларусь, пачаўся рэнэсанс цяпер!
Хто ведае, што створыць твой народ?!..
Хоць красак тут няшмат, хоць край, як доля, шэр,
Зварухнуўшыся раз, дух пойдзе ўсё ўпярод...
І хоць з-за аблакоў пахмурна сьвеціць сонца,
І шчасьця-радасьці ня знойдзеш тут нідзе, —
Загляне доля і ў нашае ваконца,
І кветка-папараць яшчэ нам зацьвіце!

Раней мы зазначылі, што ў савецкім тэатразнаўстве першую спробу нарысаваць пасьлядоўную карціну ўзьнікненьня, фармаваньня й разьвіцьця беларускага тэатру ад яго першапачатковых народных формаў зрабіў Уладзімер Няфёд у сваёй кнізе «Беларускі Тэатр», што выйшла ў 1959 годзе. Але толькі ў савецкім тэатразнаўстве. У беларускім-жа нацыянальным яе зрабіў яшчэ ў 1924 годзе Франьцішак Аляхновіч, 105-годзьдзе з дня нараджэньня якога мы адзначаем. Праца Аляхновіча, як і кніга Няфёда мае той самы загаловак: «Беларускі Тэатр». Яна выйшла ў Вільні. У прадмове да яе аўтар, між іншага, пісаў:

«Зьбіраючы матэрыялы для гэтай кніжачкі, аўтару не прыйшлося карыстацца першымі крыніцамі, рукапіснымі матэрыяламі, якія былі для яго недаступныя. Большая частка матэрыялу, зьмешчанага ў першых трох разьдзелах кніжкі, узята з працаў расейскіх вучоных — Бяссонава, Марозава, Карскага ды іншых. Заданьнем ніжэйпадпісанага, — працягвае Аляхновіч, — было галоўным чынам зрабіць некаторыя выпіскі ды гэты матэрыял адпаведна ўгрупаваць. Гэта, — кажа аўтар, — была работа, якую трэба было рабіць вельмі асьцярожна, старанна вылаўліваючы са зьмешанага ня раз у адно цэлае культурнага здабытку «ўсіх рускіх» тое, што ўзапраўды ёсьць уласнасьцю толькі беларускага творчага генія. Дзеля гэтага ў лябірынце культурных здабычаў Беларусі, Украіны і Масковіі прыходзілася ня раз кіравацца здагадкамі, каб выдзяліць з гэтага матэрыялу, які быў у руках аўтара тое, што было патрэбнае».

І Франьцішак Аляхновіч, нягледзячы на шматлікія цяжкасьці, такія як недаступнасьць першакрыніцаў, няпоўнасьць матэрыялаў, неапрацаванасьць тэмы й шэрагу момантаў пастаўленай праблемы й іншыя, зрабіў першапраходную піянерскую працу, абагульняючы ўпяршыню ў беларускім тэатразнаўстве ўсю шматвяковую гісторыю беларускага драматычнага тэатру, пачынаючы ад найбольш старажытнага пэрыяду — ад першых адзнакаў зьяўленьня драматычнага элемэнту ў культавым абрадзе й неад'емных ад яго песьнях і гульнях да стварэньня першых прафэсіянальных тэатраў у Беларусі й заснаваньня Беларускага Дзяржаўнага Тэатру ў Менску ў 1920 годзе, калі 14-га верасьня быў пастаўлены спэктакль «Рысь» паводле аповесьці Элізы Арэшкі ці Ажэшкі «У зімовы вечар». Заслуга Аляхновіча тут вялізарная. У беларускім тэатразнаўстве ён стаўся тым, чым у

беларускай гістарычнай навуцы быў Вацлаў Ластоўскі — пачынальнікам і заснавальнікам.

Праца Аляхновіча «Беларускі Тэатр», выдадзеная ў 1924 годзе складаецца з шасьцёх разьдзелаў. На 114-х старонках свае кнігі аўтар разглядае пачаткі тэатру ў Беларусі, пачынаючы ад народных абрадаў, тэатру скамарохаў, валачобнікаў і калядоўшчыкаў, праз школьную драму, езуіцкія тэатры на Беларусі, інтэрмэдыі, батлейкі й іхны ўплыў на заснаваньне расейскага тэатру, «Сялянку» Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, творы Арцёма Вярыгі-Дарэўскага й Сыракомлі й канчаючы на першай вечарынцы ў Вільні ў 1910 годзе, тэатры Ігната Буйніцкага й тэатральнай дзейнасьці ў пачатку дваццатых гадоў. Пры чым апошнія два разьдзелы маюць дакумэнтальны характар, бо ў падзеях, якія ён апісвае Францішак Аляхновіч браў самы актыўны ўдзел.

Сваю кнігу «Беларускі Тэатр» Францішак Аляхновіч закончвае гэтымі вось радкамі: «Заснаваньне Беларускага Дзяржаўнага Тэатру пачынае новую фазу ў гісторыі нашага тэатру, які, трэба сказаць, згуляў ўжо вялізную ролю ў беларускім адраджэньні. Пакуль што, — пісаў 64 гады таму Аляхновіч, — рэпэртуар наш яшчэ небагаты ў параўнаньні з тым, што маюць народы са старэйшай культурай... Але ведама адно, што беларускі народ, які на працягу апошніх стагодзьдзяў узбагачваў сваімі геніямі суседзяў, якія намагаліся яго асымілявáць, цяпер, калі прабудзіўся, усе сілы свайго духа аддасьць службе для роднай культуры, можа скора заняць пачэсны пасад між народамі».

Закончым-жа гэты наш артыкул пра Францішка Аляхновіча цытатай з артыкулу Барыса Сачанкі «Назавём перш за ўсё Алеся Гаруна», зьмешчанага ў тыднёвіку «Літаратура і Мастацтва» з 19-га лютага сёлета. «Беларускі нацыянальна-вызваленчы рух, — піша аўтар, — адна з найскладнейшых старонак нашай гісторыі. Але, замест таго, каб па-належнаму, вывучыць, разабрацца ў тым, што было, яго па розных прычынах на працягу доўгіх гадоў проста абыходзілі маўчаньнем, наклаўшы табу на многія факты і імёны, забараніўшы іх нават упамінаць. У ліку такіх імёнаў, — кажа Барыс Сачанка, — было і імя слаўнага сына беларускага народу Алеся Гаруна».

Вось-жа сказанае Сачанкам пра Гаруна, у роўнай меры тычыцца й Францішка Аляхновіча, выдатнага драматурга, тэатральнага дзеяча, паэта, аўтара першай гісторыі беларускага тэатру й кнігі ўспамінаў, у якой ужо 50 год таму апісаў сталінскую канцлягерную сыстэму, калі, гаворачы словамі Сяргея Грахоўскага: «На ўсіх адразу не хапала аховы, камер і замкоў, ні перасылак, ні каналаў, ні лагераў, ні руднікоў».

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына;
Сярод сваіх і чужакоў
Яна мне ласкай матчынай.

Янка КУПАЛА

Марыян Пецюкевіч (Польшча)

# У ПОШУКАХ ЗАЧАРАВАНЫХ СКАРБАЎ

## УСПАМІНЫ



### УСТУП

Для вясковай беднаты й гарадзкога пралетарыяту веда й навука ў часох царскай рэакцыі, а пасьля ў міжваенных, у пэрыядзе пад уладай панскай Польшчы была недаступная з прычыны клясавай прыналежнасьці, эканамічных цяжкасьцяў, а Беларусам і дзеля нацыянальных меркаваньняў.

Але былі сярод цёмнага няпісьменнага й беднага беларускага сялянства адзінкі, бацькі й дзеці, якія мроілі аб асьвеце, аб навуцы, мроілі аб выхадзе ў «шырокі сьвет веды». І ня толькі мроілі, але пускаліся на адвагу — зьдзяйсьняць свае мроі. Да такіх нешматлікіх адзінак сярод сялянаў належалі й мае бацькі ды іхная сям'я. Але ў маіх бацькоў, як і ў мяне, ня было вялікіх асьпірацыяў. Хацелася падвучыцца столькі граматы, каб дастацца хоць-бы на памочніка пісара ў воласьць ці ў іншую ўстанову. Аб вышэйшай, а нават сярэдняй установе ня мелі адвагі й рэальных падстаў мроіць ды сьніць і бацькі мае й я.

Сям'я наша была вялікая: шасьцёра дзяцей, я найстарэйшы, дзьве старыя й хваравітыя цёткі ды здольныя да паўнавартаснай працы бацькі — усіх разам 10 душ, якія мусілі пражыць з трох гэктараў надзельнай і шасьцёх арэндаванай у князя Сьвятаполка-Мірскага зямлі. Прытым трэба абавязкава падкрэсьліць, што

сялянская гаспадарка ў прыфрантавой паласе, у якой апынуўся наш павет, была цалкам зруйнаваная. Палі былі зрытыя акопамі й скрыпаныя калючымі дратамі. Угодзьдзі за час вайны парасьлі лазьняком, алешнікам і бярэзьнікам. Падымаць аблогі (дзірваны) ня было цяглавай сілы. Усё прыдатнае пагалоўе коней было войскам змабілізавана разам з транспартам. Рагатая жывёла, авечкі, сьвіньні, нават дамашнія птушкі былі зьведзены нанішто.

На ўсю нашу вялікую вёску Цяцеркі (каля 70 гаспадароў) было пару дзесяткаў коней, дый тыя «інваліды» й старыя. Наш конь Мішка таксама быў «інвалід» — зусім сьляпы. Дабылі мы яго ад расейскіх салдатаў-абозьнікаў, якія некалькі дзён адпачывалі ў нашай вёсцы. Вось гэты Мішка доўга быў нашым карміцелем, бо ажно да 1925 году. З прычыны свайго калецтва сам ён, бедалага, мучыўся й мы разам зь ім — напрыклад, пры ворцы сам ён ня мог хадзіць, трэба было, узяўшы за аброць,ісьці зь ім каля баразны. Я ішоў за плугам, а малодшы брат Ганэрык вадзіў Мішку.

Бяручы пад увагу ці, інакш кажучы, улічваючы ўсе наяўныя цяжкасьці й перашкоды, мроя аб асьвеце й навуцы была нічым іншым як фантазіяй, але гэтая фантазія ўкаранілася ў сэрцы майго бацькі й маім ды ня выходзіла з думкі. Трэба было яшчэ доўга чакаць адпаведнага мамэнту, адпаведнага часу да рэалізаваньня гэтае «фантазіі».

## ПЕРШЫЯ КРОКІ

Першыя крокі на шляху да асьветы ставіў я ў дамашняй «школе» пад дырэктарствам цёткі Паўліны, сястры майго бацькі. Пачынаючы ад позьняй восені й праз усю зіму цётка Паўліна, зрабіўшы штадзённую сваю работу пры гаспадарцы, садзілася за прасьніцу й прала кудзелю або воўну, часам на верацяно, а найбольш на вурклівым калаўроце. Напрыклад, кужаль заўсёды прадзецца на калаўроце, якому трэба даваць пэдалем шпаркі разгон. Ён тады манатонна вурчыць, як машына. Цётка прала, а я сядзеў побач з раскрытым польскім лемантаром і пад воркат калаўротка хіба сотні разоў паўтараў сылябы (склады) ба-а-ба — баба ды іншыя.

Калі я ўжо прайшоў лемантар, нічога не разумеючы ў ім (хіба-ж ня больш за мяне й цётка разумела ягоны зьмест), цётка «пераводзіла» мяне на вышэйшую ступень «асьветы». Яна давала мне дзядулеву кніжку (малітоўнік) з буйным друкам, як для старых, слабазрочных, і па гэтай кніжцы вучыла маліцца Богу: малітвы ранішнія, пацеры (якія я ўжо перад тым ведаў напамяць, але значаньня слоў зусім не разумеў), імшальныя, нешпарныя, гадзінкі й розныя сэзонныя рэлігійныя песьні. Посьпехі мае ня былі выдатныя, бо ўся гэтая «літараура» не зацікаўляла мяне сваім зьместам. Была амаль зусім незразумелая, або наганяла страх перад чэрцямі, якія будуць грэшных варыць у смале, у вялікіх катлох, што стаяць у пекле.

Цётцы так і не ўдалося навучыць мяне чытаць кожную кніжку ў польскай мове. Мог я тое-сёе прачытаць у лемантары ды з тэй кніжкі-малітоўніка, па якіх цётка мяне вучыла, бо, праўду кажучы, мне лягчэй было вызубрыць напамяць зададзеныя лекцыі, як сушыць галаву над зусім незразумелым зьместам розных малітваў і песень.

Відаць, было суджана мне здабыць грамату. Лёс мяне не пакінуў пры цётчынай асьвеце.

## ПРЫЗЫЎ У ШАЎЛЯНСКУЮ НАРОДНУЮ ШКОЛУ

У нашай вёсцы школы ня было, а найбліжэйшая была ў Шаўлянах за чатыры вярсты ад Цяцерак. Навакольныя вёскі належалі да «шаўлянскай школьнай акругі».

Сяляне не ахвотна пасылалі сваіх дзяцей, а фактычна ўжо перарослых падлеткаў, дзеля многіх прычынаў, перш-наперш дзеля матэрыяльных цяжкасьцяў. Таму валасныя ўлады змушаныя былі прымусова рэкрутаваць школьнікаў.

Аднойчы позьняй восеньню я быў сьветкам «школьнай мабілізацыі». У пачатку лістапада надвор'е было золкае, і я з малодшымі братамі сядзеў на печы. У хаце больш нікога ня было. Забрахаў Шэрка і ў нашу хату ўвайшоў вусаты чалавек, апрануты ў кажух зь ярмяком (сярмягу).

Прывітаўшы «пахвалёнкай», гэты незнаёмы нам дзядзька, з выгляду даволі суровы, запытаў: «Дзе вашы бацькі?» Мы адказалі, што бацька, маці й цётка Паўліна малоцяць гарох у гумне. Кіўнуўшы галавой на мяне, гэты дзядзька сказаў: «Ідзі пакліч тату й маму».

Бацька, прыйшоўшы з гумна, павітаўся з гэтым чалавекам, як са сваім добра знаёмым суседам. Быў гэта стараста «Варапанскага вобшчаства», які жыў у вёсцы Спаруны за тры вярсты ад Цяцерак, і ягонае прозьвішча было як і наша — Юзік Пецюкевіч, далёкі-далёкі наш сваяк. Няведама мне дасюль, зь якога гнязда гэтыя Пецюкевічы разыйшліся ў чатыры асноўныя мясцовасьці. За маёй памяці жылі аседла ў такіх вёсках: Шаўляны, Спаруны, Глыбаўшчына й Цяцеркі.

Мы, седзячы на печы, уважліва прыглядаліся да гэтага старасты й прыслухваліся да размоў. У часе гутаркі стараста дастаў з-за пазухі нейкую кнігу й пачаў чытаць імёны й прозьвішчы маіх равесьнікаў ды колькіх старэйшых хлапцоў і дзяўчат. У гэтым ліку ён назваў і маё ймя. «Вот усе гэтыя мальцы й дзеўкі павінны ад панядзелку йсьці вучыцца ў Шаўляны», сказаў вусаты дзядзька. Я такога праекту спалохаўся, маці спахмурнела й задумалася, а бацька, уздыхнуўшы, адказаў: «Ну што-ж, як нада хадзіць у вучылішча, то пойдзе».

У гэтым мамэньце ўвайшла ў нашу хату суседка Казя Кавалёва (Пецюкевіч), вельмі ўсхваляваная й быццам страшэнным горам і няшчасьцем прыгнечаная. Яна падалася да старасты, які сядзеў за сталом з маім бацькам і курылі моцную махорку фабрыкі Шарашэўскага ў Горадні. Яна злавіла руку старасты й пачала ўмаляючы, амаль са сьлязамі прасіць: «Дзядзічка, родненькі, счыркні са сваёй кнігі маіх мальцаў. Яны-ж голыя й босыя, ды й з чым я іх пашлю ў вучылішча!?»

Стараста не згадзіўся «счыркваць» і з усёй павагай начальніка адказаў: «Я не магу зьменьваць законаў, а закон прыказвае ім ісьці ў вучылішча, нацца павінны йсьці бяз ніякага разгавору. Ці яны голыя ці босыя й ці маеш, ці ня маеш сьпячы ім што-небудзь у торбу — гэта не маё дзела. Дзяла па дзялам, нацца, а суд па форме, а мальцаў Ёсіфа й Канстанціна мусіш пасылаць у Шаўляны, а калі не пашлеш, то штраф наложым, вот і ўсё. Ідзі баба дамоў».

Казя хвілінку моўчкі пастаяла, а пасьля, сказаўшы «жывеце здаровенькія», павярнулася й выйшла з хаты, прыгнечаная вялікім горам.

Амаль у кожнай хаце, дзе былі «навабранцы» ў школу, адбываліся падобныя сцэны просьбаў і мольбаў, каб «вычыркнуў» з кнігі.

З нашай вёскі ў Шаўлянскую школу было «змабілізавана» каля дзесяцёх вучняў, але рэгулярна наведвалі заняткі 6-7 чалавек. З гэтай групы «пільных» вучняў я быў наймалодшы й ростам найменшы, дый фізычна кволы. Пачалася нашая навука ў год выбуху сусьветнай вайны (1914) і трывала яна толькі да вясны 1915

году, значыць да часу выгану жывёлы ў поле й пачатку палявых работаў.

Першы дзень у школу мяне завёз бацька й «здаў» пад апеку настаўніцы. А каб яна мела на мяне добрае вока й апекавалася ў школе, бацька завёз ёй гаршчэчак мёду, кіляграмаў 3-4. Яна ахвотна ў сваім пакоі (пры школе) прыняла мёд, пакаштавала і, аблізваючы тоўстыя чырвоныя губы, пахваліла словамі: «Спасіба, мёд очэнь сладкі», а мне сказала: «Ідзі ў клас і садзіся на першую скамейку». Калі я расставаўся з бацькам, то ледзь не заплакаў — мне так сумна й страшна было заставацца з чужымі.

Ад'яжджаючы першы раз у школу, калі багаслаўляла мяне маці й пацалавала, я бачыў, як бацькі мае з расчуленьня заплакалі. І тут, расстаючыся з бацькам, я ледзь утрымаўся ад сьлёз.

Першы дзень у клясе быў для мяне доўгім, як сто гадоў. Гэта быў дзень маральных і фізычных пакут. Усё кружылася ў галаве. Усё, што адбывалася ў маёй прысутнасьці, было нейкім дантаўскім пеклам. Асабліва ў перапынках між лекцыямі. Такія слабавітыя «малышы» як я проста губляліся ў гурбе перарослых хлапцоў і дзяўчат. Сярод перарослых хлапцоў многа было прызыўнікоў, якія ў палове 1915 году былі пакліканыя на ваенную службу, а дзяўчаты-вучаніцы дасьпелыя, сфармаваныя, што некаторыя зь іх пакінулі навуку з прычыны выхаду замуж.

Бацька мой, улічваючы мой век 10-11 гадоў і слабавітасьць (хірлявасьць) фізычную ды адлегласьць Цяцерак ад Шаўлянаў, пастараўся стварыць для мяне апеку й дапамогу зь ліку старэйшых вучняў зь Цяцерак. Меў я ажно трох ахоўнікаў-апякуноў, якія сачылі за тым, каб ніхто мяне не пакрыўдзіў ані ў школе, ані ў дарозе ў школу й са школы. Былі гэта дарослыя, моцныя тры юнакі (прызыўнікі): Дзяніс Мядзьведзеў — старавер, Андрэй Пецюкевіч і Адольф Савуць. Чым бацька плаціў ім за апеку нада мною, ня ведаю. Я быў зусім спакойны, што пад гэтай апекай мне й волас з галавы не спадзе. Няраз, калі мы прабіраліся нацянькі праз засьнежаныя балоты й зарасьнікі, яны па чарзе пераносілі мяне, дзе я сам ледзь мог выграбсьціся. Навука, як я сказаў, трывала толькі да вясны. За паўгода навукі ў «Шаўлянскай акадэміі» я навучыўся крыху чытаць, пісаць і пачаткаў арытмэтыкі. У расейскай школе мне лягчэй было вучыцца, чым у «польскай» цёткі Паўліны.

На гэтым з прычыны вайны спыняецца мая навука аж да 1919 году (вясна 1915-восень 1919). У гэтым часе я працую на бацькавай гаспадарцы, а ў вольных хвілінах, асабліва зімою чытаю прыпадкова здабытую літаратуру ў расейскай, польскай і беларускай мовах. Пішу, задачы разьвязваю на грыфельнай дошцы (з паперай было клапатліва, ня было яе нават на ліст).

## ПРЫВАТНАЯ ШКОЛА У БАРАДЗЕНІЧАХ

Была гэта, здаецца, восень 1917-га й зіма зь вясной 1917/18 школьнага году. У гэтым часе вялікіх гістарычных падзеяў на абшары ведамых мне паветаў ня было нармальных, дзяржаўных школаў. Навучаньне граматы спантанічна арганізоўвалася самым насельніцтвам, а ініцыятарамі гэтай акцыі была мясцовая, вясковая інтэлігенцыя ды розныя адукаваныя асобы, якіх лёс закінуў сюды на часовае жыхарства.

Барадзеніцкую прыватную школу зарганізаваў у парафіяльным доме малады ксёндз-беларус Віктар Шутовіч, родам зь вёскі Шутовічы, былога Ашмянскага павету. Сам ён вучыў толькі закон Божы каталікоў і праваслаўных, якія заставаліся на яго лекцыях. Заняткі адбываліся ў беларускай мове, што не падабалася

шляхтунам і адурманеным польскасьцяй беларусам-каталікам. Прыяжджаў ў гэтую школу (праўда, даволі рэдка) на закон Божы й праваслаўны сьвятар зь мястэчка Ёды а. Рафаловіч, Беларус, здаецца таксама ашмянчук. Іншыя прадметы, у тым ліку й мовы, г. зн. беларускую й польскую, вучылі пляменьніца ксяндза Шутовіча, Вэроніка Шутавічанка, і дзьве паненкі з маёнтку Мілекі, якія часова жылі тут у сваякоў. Усе тры настаўніцы былі кваліфікаванымі пэдагогамі й таму дасягаліся не благія вынікі, хоць і ў ненармальнай школе, дзе ня было ані адпаведных падручнікаў, ані пэдагагічных дапаможнікаў.

Навука ў гэтай прыватнай школе была платная, але таму, што гэтымі ненармальнымі гадамі стабілізацыі на грошы ня было, яны практычна ня мелі ніякага значэньня. Грошы замяняліся прадуктамі харчаваньня. У практыцы гандлёвай, гэта быў так званы тавараабмен, або, як яго жартаўліва называлі, тавараабман. Рамесьнікам за працу таксама плацілася харчавымі прадуктамі. Значыцца, і нашыя бацькі плацілі настаўнікам харчамі, хто чым мог і колькі мог, а хто ня мог плаціць, таго дзеці бясплатна вучыліся.

Вэрця — так яе ўсе называлі — Шутавічанка вучыла беларускай мовы, а калі выкладала іншыя прадметы, дык таксама пабеларуску. Паненкі Гэлена й Ядвіга Еднашэўскія ўсе прадметы, якія да іх належылі, вялі папольску, але вельмі прыхільна ставіліся да беларускай дзетвары й да нашай мовы. Нават самі прабавалі ўжываць краёвыя слоўцы. Інж. Рашкэ вучыў нас і размаўляў з намі парасейску, а ягоная жонка гутарыла з намі толькі папольску. Яны засталіся ў маёй памяці назаўсёды, як вельмі мілыя, сымпатычныя й горам прыгнечаныя людзі. Цяжка ім было перадусім з харчамі.

Памятаю, аднойчы інж. Рашкэ прынёс на лекцыю невялікую чорную скрыначку, нешта там пакруціў, націснуў, памайстраваў і гэтая скрыначка выцягнулася й зрабілася падобнай на расьцягнуты гармонік. Мы глядзелі як на дзіва й самі ня ведалі, што гэта за штука — гармонік ці нешта іншае. Бачачы наша зьдзіўленьне й зацікаўленасьць, інж. Рашкэ скупа ухмыльнуўся й сказаў: «Это фотографический аппарат, при помощи которого делают снимки, карточки. Если кто из вас хочет быть фотографом, то этот аппарат я могу променять на сало или на масло». Пасьля гэтай размовы я ня мог дачакацца канца заняткаў. Пёрся я дамоў, як няпрытомны. У галаве мітусілася, што я ўжо маю апарат, хаджу на фэсты й там фатаграфую шмат моладзі ды зарабляю процьму грошай, за якія купім абутак і сьвяточнае адзеньне для ўсёй сям'і, а пасьля, як уціхамірыцца вайна й рэвалюцыя ды пачнецца нармальнае жыцьцё, то з маіх заработкаў купім з паўвалокі зямлі й ня будзем плаціць арэнду й адбываць падводы князю Сьвятаполк-Мірскаму.

Прыбегшы дамоў, я не пасьпеў распрануцца й паабедаць, як пачаў распавядаць маме пра чарадзейны апарат. А вечарам, калі бацька вярнуўся з рыбалкі, я ўсё паўтарыў яму. Бацька выслухаў уважліва маё апавяданьне і ў заключэньне сказаў: «Заўтра прынясі яго паказаць мне. Самі неяк пражывём і бяз сала, але калі ён нешта варты, то выменяем».

На другі дзень я прытарабаніў апарат. Бацька аглядаў яго й урэшце недзе націснуў, і зь яго зрабіўся гармонік. Выцягнуў касэту на клішэ й агледзеў яго на ўсе бакі ды ў заключэньне сказаў: «Тут, баценька, нейкі абман. Які-ж гэта апарат, калі ў сярэдзіне пуста, бяз ніякіх нутранасьцяў. Пустая скрыначка са шклістым акенцам, як конскае вока ды пара нейкіх бляшачак і гаечак, вот і ўся тут мудрасьць. Такім апаратам і Саламон нікога ня зьнімець. Нясі ты яго заўтра й аддай Рашку, няхай

ён не абдурваець дурных мужыкоў».

Пасьля, калі я праз нейкіх 15-20 гадоў пазнаў фотаапараты ды навучыўся фатаграфаваць, то пераканаўся, што той апарат, які я мог мець за два кіляграмы сала, быў вельмі каштоўны, вырабу нейкай нямецкай фірмы.

Наступнай зімы я ўжо не хадзіў у групу навучэнцаў інж. Рашкэ. Ці ён яе зьліквідаваў, ці можа выехаў з Зайнова.

З выгляду быў гэта статны чалавек гадоў каля 40, моцна збудаваны, вышэй сярэдняга росту, лоб шырокі, вочы разумныя, але сумныя. Ніколі я ня бачыў усьмешкі на ягоным твары. Спакойны, зраўнаважаны, гаварыў плаўна, раўнамерна, ніколі не выяўляў здэнэрвванасьці. Страшэнна часта курыў самасейку (іншай табакі й папярос ня было). Скручваў тры вялікія цыгаркі й ўтыкаў іх у мундштук — адну канчаў, другую пачынаў.

## ПРЫВАТНАЯ ШКОЛА У ІНАВЕ

У палове кастрычніка 1919 году, бацькі скіравалі мяне ў прыватную школу ў Інава, якую ў вясковай хаце зарганізаваў пан палкоўнік Ігнат Рудоміна. У гэтую школу сабралася вельмі многа вучняў з самога Інава ды з навакольных вёсак і хутароў (засьценкаў). Ад нашых Цяцерак да Інава было каля трох з палавінай кілямэтраў. Настаўніцай гэтай польскай школы была выхаванка пана І. Рудоміна, прыгожая, маладая, румяная й сьвежая, як пунсовая ружа, панна Ядзя, прозьвішча якой ніхто ня ведаў, а называлі яе проста — Ядзя, Рудомінава выхаванка.

Інаўская школа мясьцілася ў вясковай старой хаце з малымі вокнамі й нізкай стольлю. Была яна біткам набітая вучнямі рознага веку. Добра памятаю, як і вучні, і настаўніца, Ядзя, скардзіліся на боль галоваў пасьля пэўнага часу ў гэтым школьным памешканьні. Аднак ніхто, ні вучні ні настаўніца, ня ведалі прычыны гэтага болю.

У гэтай школе, як і ў тых, дзе я раней вучыўся, за выняткам шаўлянскай народнай школы, ня было ні падручнікаў, ні пісьменных прыладаў. Была толькі вялікая чорнай фарбай (охрай) памаляваная дошка, якую нехта зь Іноўцаў зрабіў, ды ў сяго-таго грыфельныя дошкі. Аб паперы ці сшытках або алоўках і мовы не магло быць. Ганарыліся тыя, хто меў у сваіх хатах паперу на сьценах. Абрывалі яе й па ёй пісалі агрызкамі столерскіх карандашоў. Справа школьных падручнікаў і пісьменных прыладаў ды пэддапаможнікаў прадстаўлялася надзвычай роспачна. Кожны з вучняў прыносіў у школу свой «падручнік», які знайшоўся дома. Найчасьцей гэтым падручнікам былі малітоўнікі й прыпадковыя кніжкі на польскай мове. Трэба заўважыць, што ў інаўскай школе ані расейскай, ані беларускай мовы ня вучылі. Была гэта школа польская хіба таму, што арганізаваў яе паляк Рудоміна, і ягоная выхаванка Ядзя, якая ведала толькі польскую мову. Мела Ядзя хатнюю адукацыю, якую атрымала ад таго-ж пана. Між іншага, яна, як акалічныя людзі казалі, «дужа добрая паня, шкадавала бедных, хворых і ім памагала. Лячыла людзей задарма й зёлкамі, і living рознымі кроплямі, і парашкамі».

Ядзя й другая дзяўчына былі сіротамі. Пані ўзяла іх на выхаваньне й навучыла граматы дамашнім спосабам.

Школьнікаў Ядзя падзяліла на тры групы: 1) анальфабэты, 2) тыя, што крыху чыталі малітоўнік і 3) тыя, што ўмелі чытаць і крыху пісаць папольску, парасейску й некаторыя пабеларуску. Я належаў да трэйцяй групы й быў у ёй выдатнікам. Справа выглядала так, што Ядзя ня больш была граматная за мяне, была яна

толькі старэйшай за мяне на некалькі гадоў. А можа толькі дзякуючы свайму поўнаму фізычнаму сфармаваньню так выглядала.

Хоць усе тры групы вучыліся ў аднэй хаце, але кожная група разьмяшчалася асобна. Ядзя кожнаму вучню задавала асобную лекцыю па ягонай кнізе й кожны асобна быў апытваны. У школе панаваў шум, гармідар, гул, як у вульлі. Кожны бубніў сабе пад нос,вывучаючы зададуню лекцыю. Арытмэтыку кожная група вывучала супольна. Адзін разьвязваў задачу на дошцы, а рэшта — на сваіх грыфельных дашчэчках.

Калі Ядзя сама адна не магла ўходацца з такой «арміяй» у гэтай школе, дык час ад часу паклікала мяне на дапамогу. Так паступова, памаленьку яна ўцягвала мяне ў ролю свайго памочніка. Я стаўся памагатым у першай і другой групе, а ў трэйцяй я звычайна дэманстраваў перад вучнямі, як трэба ведаць і адказваць на лекцыі. Заданьні й прыклады на ўсе чатыры дзеяньні я разьвязваў, як рэпу грыз. Захапляліся мною й Ядзя, і вучні, а я гэтым ганарыўся, ганарыўся яшчэ й тым, што Ядзя зрабіла мяне сваім памагатым. У другім паўгодзьдзі я проста «авансаваў» на другую сілу ў іпаўскай школе. Ганарыліся маімі посьпехамі й мае бацькі.

Хоць я й раней скрыта кахаўся, то цяпер, калі я стаўся «настаўнікам», Ядзя мне ня выходзіла з галавы. Мне яна здавалася найпрыгажэйшай істотай на сьвеце. Пра яе я думаў і ўдзень і ўночы; я чуў ейны мілагучны голас, бачыў ейныя сочныя пунсовыя вусны, вочы сінія, як ліпеньскае неба, што адбівалася ў люстры Іпаўскага возера. Калі набліжаўся час ісьці дамоў са школы, мне рабілася сумна, тужліва, і здавалася я на крылах ляцеў — так мне лёгка й весела было — калі йшоў у школу. Я хутчэй хацеў яе пабачыць, хутчэй пачуць звонкі, вясёлы голас. Гэта было каханьне нейкае абстракцыйнае, духовае, сарамлівае, якое ня мела нічога супольнага з пажаданьнямі фізычнымі, рэальнымі. Гэта, дасюль няведамы мне скрыты ў сэрцы агеньчык гарэў, з кожным днём падвышанаю тэмпэратураю.

Каб падабацца Ядзі, на якую я паглядаў сарамлівымі вачыма й пунсавеючы на шчоках, мне заставалася адно — імпанаваць сваёй ведай, посьпехамі ў навуцы ды ў навучаньні граматы даручаных мне сяброў і сяброўак іпаўскай школы. Гэта было вялікім імпульсам для мяне ў пашырэньні маёй веды. Я стараўся здабываць кнігі й «глытаў» іх многа, таксама пісаў.

І так у вялікай згодзе закончылі мы зь Ядзяй вясковы школьны год з часам, калі растаў сьнег і зьявілася траўка ў полі. Гэта быў пачатак земляробскага сэзону. Пастушкі пакінулі кніжкі й грыфелі з дошкамі, а ўзялі пугу, абулі лапці ды пагналі жывёлу ў поле, а падлеткі пайшлі за плугам дома і ў наймах.

Пасьля навукі ў іпаўскай школе настаў доўгі перапынак у здабываньні асьветы. Белапольская вайна з бальшавікамі запазьніла працу нават у прымітыўных вясковых школах. Ізноў настаў неспакойны, трывожны час, асабліва для вясковага насельніцтва. Тых сялянаў, якія праявілі актыўнасьць у рэвалюцыйнай дзейнасьці на вёсцы, паны, вярнуўшыся ў свае маёнткі, нацкоўвалі, пачалі перасьледаваць пры дапамозе вайсковых польскіх уладаў. Легіянеры Пілсудзкага вельмі часта на месцы распраўляліся зь «вінаватымі» — катавалі іх да паўсьмерці, або расстрэльвалі.

Калі фронт пасунуўся далей на Усход, цяцеркаўцы загаварылі пра школу. Аднак яшчэ ня была на гэта адпаведная пара. Усюды пачалі паступова арганізавацца польскія дзяржаўныя школы, але сталася гэта толькі па заканчэньні вайны й па падпісаньні Рыскага міру.

Дзеля недахопу школьных або й сялянскіх хат на школы, а таксама настаўнікаў і падручнікаў, першымі гадамі па вайне школаў было замала, каб ахапіць усю дзетвару школьнага веку. Арганізаваліся школы толькі ў мястэчках і ў тых вёсках, дзе былі школы пры царскай уладзе. Пры настойлівасьці й дапамозе польскага духавенства арганізаваліся школы ў вёсках пры касьцёлах. Тут яны былі патрэбныя і ксяндзам і польскім уладам, як яшчэ адна важная пляцоўка палянізацыі беларускага насельніцтва. Пра беларускія школы й мовы не магло быць. Супраціўлялася гэтаму польскае духавенства, паны, польская вясковая й мястэчковая інтэлігенцыя, а перадусім польскія ўлады. Ня цяжка было варожым элемэнтам весьці змаганьне супраць беларускіх школаў таму, што беларускае сялянства ходам гістарычных падзеяў, а найбольш каталіцкім і праваслаўным духавенствам, было падзеленае на два варожыя лягеры: «рускіх» і «польскіх». Нацыянальная сьведамасьць на вёсцы ў гэты час толькі што пачынала праростаць на настылай вякамі глебе. Каталікі ахвотна пагаджаліся на польскую школу, праваслаўныя ахвотна пасылалі-б сваю дзятвару ў расейскія школы, якіх аднак ня было дый быць не магло таму, што расейская й беларуская школы разглядаліся роўназначна пляцоўкам «бальшавізму». Што тут казаць пра беларускія ці расейскія школы, калі ксяндзоў, якія карысталіся беларускай мовай у касьцёлах, у гутарках з парахвіянамі, духоўныя й сьвецкія ўлады падазравалі ў «бальшавізьме» й прасьледавалі. Вось прозьвішчы колькіх прасьледваных беларускіх ксяндзоў: Адам Станкевіч, Віктар Шутовіч, Вінцук Гадлеўскі, Язэп Рэшаць ды іншыя.

Сялянства нашае на пачатку 1920-х гадоў яшчэ ня мела нацыянальнай сілы да змаганьня за сваю родную школу.

## Я ВУЧУСЯ НА КАВАЛЯ

Гады ляцелі. Моладзь, што жадала нармальна вучыцца, не магла, бо ня было нармальных школаў, ані пачатковых, ані сярэдніх. Тыя, што маглі-б пакінуць вёску й свае бедныя гаспадаркі ды пайсьці ў пошуках працы й спэцыяльнасьці ў места, зрабіць гэта яшчэ не маглі таму, што ў местах быў застой у ваўсіх галінах жыцьця. Моладзь вясковая, што была крыху пісьменная магла знайсьці часовую працу ў створаных мясцовых адміністацыйных і культурных установах. Бальшыня аднак змушаная была заставацца на гаспадарцы бацькоў або вучыцца вясковага рамяства.

На сямейнай нарадзе, на якой быў і мой дзед Марцін Доргель — вясковы каваль зь Петкуноў, было ўхвалена, што я буду вучыцца кавальскаму рамяству. Гэтая спэцыяльнасьць, як дзед пераконваў маіх бацькоў і мяне, забясьпечыць хлебам на ўсё жыцьцё. Дзядуля ганарыўся сваім фахам і падмацоўваў яго прымаўкай: «Каваль куець — жонка п'ець». А шавецтва, якому таксама меркаваў бацька мяне навучыць, дзядуля ганіў і таксама прыпячатваў прымаўкай: «Шавец шыіць — жонка выіць». З будучага шавецкага фаху я ахвотна зрэзыгнаваў. Ахватней згадзіўся вучыцца на каваля, хоць ня было імпэту й да гэтай спэцыяльнасьці.

Навука мая пачалася ў дзядулі Марціна вясною, здаецца, у травені. Жыў я ў Петкунох і харчаваўся, разам зь дзядулем, у цёткі Казіміры Варніхі (яна мела прымака — Ксавэрага Варну зь вёскі Азіроўцы каля Браслаўя. «Лекцыі» мае ў дзедавай кузьні пачыналіся ад самых простых спраў. Дзень у дзень усю вясну й лета я ціскаў мяхі й біў цяжкім молатам. Да ніякіх іншых кавальскіх мудрасьцяў дзядуля мяне не дапускаў. Калі я хацеў нешта скаваць па сваёй задуме, дык мой

настаўнік-дзед казаў: «Не хватайся без пары не за сваю работу. Тваё дзела яшчэ толькі мяхі ціскаць і молатам біць па гарачым жалезе, паложаным на кавадла». Гэтая манатонная й цяжкая праца так надакучыла, што мне ў галаву пачала закрадацца думка, ці не пакінуць гэту дзедаву школу. Але практычна рэалізаваць гэтую думку тымчасам ня было магчымасьці. Тым ня менш, з кожным днём павялічвалася маё жаданьне пакінуць дзедаву кузьню. Думалася: можа лепш ужо йсьці да шаўца ў навуку, бо там праца лягчэйшая й можа хутчэй навучуся шавецтва, як кавальства. Але як пакінуць дзеда? На гэта ня згодзяцца ані бацькі, ані дзядуля, які, між іншага, любіў мяне ад немаўляці, ну, і жадаў мне дабра. А што мне загадвае толькі мяхі ціскаць і молатам стукаць, то гэта ўжо такая «праграма», прынятая ў кавалёў ды стасаваная да навучэнцаў. Гэта ўжо такі закон, што год трэба мяхі ціскаць, молатам біць, пры каваньні каня капыт трымаць, а наступнымі двума гадамі каваль знаёміць свайго вучня з усімі мудрасьцямі кавальскага рамяства.

Каб пакінуць кузьню, трэба было пайсьці на хітрыкі. Трэба захоўвацца так у кузьні, каб дзед ня вытрываў і прагнаў мяне. Я пачаў праяўляць абыякавасьць да ўсяго, што дзеецца ў кузьні. Сумысьля не прыглядаўся да дзедавай работы й не задаваў яму ніякіх пытаньняў адносна кавальскага рамяства. Кожную хвіліну, кожны перапынак, калі ня трэба было выконваць беспасярэдніх абавязкаў, я браў кнігу ў рукі й тут-жа навідавоку ў дзеда садзіўся на парозе кузьні й чытаў. Дзед нейкі час пазіраў на мяне моўчкі, але бачыў мае дэманстрацыйныя паводзіны, што зьневажалі яго й ягоную кузьню. Урэшце аднойчы ня вытрымаў і сказаў: «Калі хочаш быць кавалём, дык прыглядайся, што ў кузьні робіцца, а не заглядай як Жыд у біблію, бо з чытаньня твайго хлеба ня будзець». Пасьля дзедавай заўвагі я ўсё-ж такі ня спыняў чытаньня ў кузьні. Трэба было рэалізаваць сваю задуму.

Гэтак мая навука ў дзеда працягвалася да позьняй восені. І мяхі ціснуў, і молатам біў, і нагу конскую (капыт) трымаў, і ў перапынках кніжкі чытаў.

У дзеда майго практыкавалася г. зв. англійская сыбота (пра якую ён, між іншага, ніколі ня чуў). У сыботу ён працаваў толькі да паўдня. Пра гэта ведалі ўсе ягоныя кліенты з навакольных вёсак. У сыботу каля паўдня ён выходзіў з кузьні і, зірнуўшы на сонца, казаў: «Ну, канец работы, сьвята заходзіць». Ставіў у горна саган з вадой і нагрэўшы мыўся. Пасьля ішлі да цёткі Казімеры на абед. Пераадзеўшыся ў чыстую, сьвяточную вопратку, крыху счасаваўшы, на адвячорак падаваліся ў якую-колечы зь вёсак у дзедавай «парафіі», куды былі запрошаныя ў лазьню. Праўда, лазьня была й свая, але дзядуля ахвотна наведваў чужыя, куды быў запрошаны. Справа ў тым, што дзядуля ў вольныя ад працы гадзіны любіў праводзіць час у бяседзе й пры чарцы. Любіў ён і мог выпіць «для вясёласьці», але п'яным ніхто яго ня бачыў. Падхмелены дзядуля сьпяваў беларускія народныя песьні, апавядаў гумарыстычныя казкі, прымаўкі сыпаў як з рукава, і дзе лічыў патрэбным — даваў настаўленьне, як трэба жыць і быць чэсным чалавекам у грамадзтве. Даваў павучэньні й бязьлітасна граміў гультаёў, баб-пляткарак і касьцельных мышэй — дэвотак, якія «ў касьцеле моляцца аж плачуць, а як прыйдуць дамоў, то сям'я ад іх плачыць». Аднойчы я быў сьветкам такой маленькай сцэнкі. Ксёндз В. Шутовіч, паводле сваіх касьцельных рытуалаў, па заканчэньні набажэнства сьвяньціў грамаду дэвотак. Бачыў гэтую цырымонію дзед Марцін Даргель. Калі ксёндз скончыў гэты абрад, дзядуля падыйшоў да яго й сказаў: «Ты-б іх гэтых ведзьмаў нагайкай высьвяньціў-бы, а не крапідлай. Можа-б яны тады палепшалі».

Аднойчы пасьля лазьні й добрай вячэры з гарэлкай у белабоцкага маскаля (старавера), які меў мянушку Каршун, мы падаліся да нас у Цяцеркі з напоўненымі кошычкамі буйных, сьпелых вішань, якія на адыходзе ўручыла нам Каршуніха. Зь Белабокаў у Цяцеркі было каля трох кілямэтраў. Ішлі мы не сьпяшаючыся, елі вішні і, выплёўваючы костачкі, дзядуля расказваў нешта вясёлае й час ад часу хваліў кавальскі фах. І папракаў мяне: «А ўсё-ж-такі, унучок ты мой, каваль зь цябе ня выйдзець. А шкода! Відзіш, як у каваля: малатком стукнеш і капейка выскачыць. Ды што там казаць, каваль як ксёндз ці дохтар — ніколі галодны ня бываець. Глядзі, якая пашана ад людзей. Кожны ў госьці просіць і лазьню нагрэюць і папарац венічкам. А як прыйдзець у кузьню, то кланяецца, просіць: зроб, падкуй Марцінка!» Я не перашкаджаў дзеду расказваць пра кавальскі фах ды ганарыцца ім, еў сакавітыя й ад сьпеласьці аж чорныя вішні ды думаў, куды я падамся ў «навуку», як звольніць мяне дзядуля з кузьні.

У нашай хаце дзядулю вельмі радасна павіталі, як заўсёды, мае малодшыя браты й сястра, бо без гасьцінцаў ён ніколі да нас не прыходзіў. Гэтым разам перадаў жэўжыкам цэлы кошык вішань. Мае вішні мама забрала на канфітуры.

У нядзелю раніцай было супольнае сьнеданьне нашай сям'і. Дзядулю заўсёды садзілі, як дарагога госьця, на покуце. На стале зьявілася рэшата ячных прыварказых бліноў са спэцыфічным пахам цеста й памазка. Была таксама мачанка двух гатункаў: малочная й са скваранага сала. Усе елі з апэтытам, а ў дзяцей аж вушы трасьліся.

Дзядуля пры працы звычайна маўчаў, часамі, як работа была прыемная і ўсё йшло гладка, дык нешта сабе пад нос напяваў. Пры ядзе любіў расказваць нешта вясёлае, гумарыстычнае, або вёў размову паважную. Умешвацца ў размову дазвалялася толькі сталым асобам, дзеці мусілі маўчаць.

І вось падчас гэтага сьнеданьня адбылася няпрыемная сцэнка для дзяцей. Уладзік схапіў большую скварку, на якую мелі вока Баляслаў, Яніна й Алёйзы. За гэтую скварку паўстаў гармідар і спрэчка пры стале. Дзядуля ня шукаў вінаватага, але ўсе ўдзельнікі спрэчкі за скварку дасталі ад яго драўлянай лыжкай па ілбе й супакоіліся. Усё гэта закончылася дзедаўскімі словамі: «Я-ж вас, каб ваша шэрсьць сыпалася! Пры стале сядзі, еш, сапі й маўчы».

Пры канцы сьнеданьня дзядуля загаварыў і пра мяне. Зрабіўшы кароткі ўступ аб важнасьці кавальскага фаху й аб тым, што хацеў-бы перад сьмерцю перадаць сваю кузьню ў добрыя рукі, але камусьці, хто-б ня зганьбіў кавальскага фаху, дзядуля коратка сказаў: «А ўсё-такі з вашага Марыяна каваль ня выйдзець. Яго цягнець да кніг; як сарвецца, то ўсё глядзіць у кнігу, як Жыд у талмуд. Вы яго яшчэ падвучэце вышэй чытаць і пісаць і няхай ідзець у воласьць на пісара, або аддайце да Скукоўскага, няхай вучыцца на арганістага. Да восені няхай сабе яшчэ дабудзець у кузьні, але на зіму яго забірайце».

Гэтая пастанова дзеда была няпрыемная для бацькоў, але для мяне й цёткі Паўліны надзвычайнаю. Цётка хацела, каб я быў ксяндзом, а калі не, то хоць арганістым. І так навука мая на каваля закончылася пры канцы верасьня. На маё месца прыйшоў да дзядулі Марціна новы вучань — кандыдат на каваля — Міхалка з Барадзеніч. Ягоная навука, як і мая, пачалася ад ціcканьня мяхоў і часаньня цяжкім молатам па нагрэтым да чырвонага жалезе.

Да канца кастрычніка прыходзілася мне выконваць розныя гаспадарскія работы: капаць бульбу, малаціць цэпам боб, гарох, віку, езьдзіць па дровы ды інш.

Вольныя гадзіны ад працы ўдзень і ўвечары я стараўся чытаць кніжкі, якія траплялiся пад руку бяз розьніцы на зьмест і мову. Справа далейшай маёй навукі нават на арганістага пакуль што ня мела ніякіх рэальных пэрспэктываў.

## Я — «ДЫРЭКТАР» ЦЯЦЕРСКАЙ ШКОЛЫ

Чакаць у гэных, яшчэ ненармальных часох на школу ў Цяцерках ці ў бліжэйшых вёсках, арганізаваную якімі-колечы ўладамі, не магло быць і мовы. А цяга да асьветы усё-ж зараджалася ў галовах сьвятлейшых сялян нашае вёскі.

Найбольш актыўным арганізатарам школы ў Цяцерках аказаўся вясковы выбарны Станіслаў Крывашонак, які ў вёсцы называўся Стась Хвешчанкоў.

Аднойчы раніцай у нядзелю пасьля Усіх Сьвятых склікаў ён вяскоўцаў на сход да Касьцюка Савянёнка (праўдзівае прозьвішча — Кастусь Сапун). Калі большасьць гаспадароў сабралася, Стасюк крыкнуў да сабраных: «Замаўчэце! Перастаньце галёкаць! Ціха, ша!» Тады Стасюк пачаў сваю прамову: «Суседзі, вы ня ведаеце, на што я вас паклікаў на сход. Дзела такое. Была вайна, рывалюцыя, былі чырвоныя, белыя, зялёныя й чорт знаіць, якія уласьці, а дзеці нашыя растуць на лес гледзючы, цёмныя й няграматныя, як нашыя дзяды, бацькі й мы. Заміж сабак ганяць паза вугольлямі, дык ніхай падвучыліся-б хоць Богу памаліцца ды пісьмо прачытаць ці нагрэмзаць. Як прыйдзець якая павестка ці іншая бумажка з воласьці, або пісьмо, то німа каму й прачытаць. Ідзі ў Інова да папа, ці да арганістага, нясі яму тузін яек. Сколькі ў нашай вёсцы грамацеяў, а вёска вунь якая вялікая, а цямната тут беспрасьветная. Як сабе хочаце суседзі, а рабят нада падвучыць граматы. Хто яго ведаіць, калі тут на пастаянна ўстановіцца яна, уласьць і школу адкрыіць, а мальцы вунь якія, павыросталі й што яны ўмеюць, толькі качулку ганяць, у «сучку» гуляць ды вокны выбіваць сваёю гульнёй. Пакуль будзіць якая казённая, то мы павінны сваю школу самі зрабіць».

Сход загудзеў, як устрывожаны вулей. Адны падтрымлівалі ініцыятыву выбарнага — арганізаваць школу сваімі сродкамі, іншыя, якіх было таксама ня мала, закрычалі, загалёкалі супраць арганізацыі школы. Былі й нездэцыдаваныя ў гэтай справе, якія настройвалі два супрацьлеглыя лягеры адзін на аднаго, каб тыя спрачаліся й гарачыліся ад злосьці. А самі толькі пакеплівалі й сьмяяліся з адных і другіх. Кожны зь лягероў стараўся даказаць сваю рацыю. Праціўнікі арганізацыі школы ў асноўным давалі аргумэнты характару матэрыяльнага: «Няма хаты пад школу, няма лавак школьных, няма вучыцеля, а калі-б і знайшоўся, то чым яму плаціць, калі самі голыя, босыя й галодныя. Няхай усё супакоіцца на сьвеце, то тады будзе відна. Пражылі нашы дзяды, бацькі й мы бяз школы, няхай пакуль што жывуць бяз яе й нашыя дзеці» — так разважалі супраціўнікі школы.

Стасюк Хвашчонак і ягоныя прыхільнікі ўсё-ж не скапітулявалі. У групе тых, хто жадаў школы, быў і мой бацька. У гэтай групе быў адзін селянін вельмі гарачы й нэрвовы. Ён з кожным апанэнтам у розных пытаньнях распраўляўся даволі ардынарна, лічачы іх «дурнямі». Гэта быў Янка Акштоль (мянушка Кулапін), а сэкундаваў яму разумны зраўнаважаны чалавек, бывалы майстар на ўсе рукі Юзюк Пецюкевіч (мянушка Марцінёнак). Каб уціхамірыць гэты страшэнны гармідар, у якім кожны стараўся перакрычаць іншых і даказаць сваю праўду, Кулапін праціснуўся ад парогу на сярэдзіну хаты й пісклівым фальцэтам падаваў свой голас: «Маўчаць, вы дуракі, маць вашу такую! Нічарта вы не панімаеце, дык маўчыце ідзіёты!» З куткоў адазваліся неадважныя галасы: «Глядзі,

які разумны знайшоўся. Добра табе быць разумным на паўвалочкі ды-й са сталяркі зарабляць. Пажыў-бы ты на васьміне, як мы, то таксама адурнеў-бы». І тут Кулапін катэгарычна заявіў: «Ці хто хочыць ці ня хочыць, а школа ў Цяцерках будзець, маць вашу такую! Знойдзем і хату й лавак наробім, а вучыцеля няхай пашукаіць і найміць выбарны, ён-жа ў нас уласьць».

У арганізацыю школы ўключыліся найболь сьветлыя сяляне Цяцерак, і гэты актыў за кароткі час пад камандай Стасюка ўсё падрыхтаваў да адкрыцьця школы. Хату пад школу, за апал наянялі ў Памося Карсюкевіча, а настаўнікам выбралі мяне. Пра гэту «намінацыю» са мною ніхто не дамаўляўся, а толькі з маім бацькам. Калі я пачаў сумлявацца, ці мае вучні — мае равесьнікі й суўдзельнікі «качулкі» й «сучкі» ды іншых гульняў — будуць мяне слухаць, выбарны супакоіў мяне словамі: «Ты не бядуй, тут маё дзела, я зраблю зь імі лад і парадак».

Вёска наша лічылася ў павеце адной зь вякікшых і была яна забудаваная па абодвух бакох вуліцы ды цягнулася, як казалі вяскоўцы, на цэлую вярсту. Наша хата стаяла ў пачатку вёскі, а хата Памасёва, ў якой мела быць школа, была на другім канцы вёскі. Колькі мела быць вучняў у будучай школе ніхто яшчэ ня ведаў, ніхто не рабіў сьпісу школьнікаў. Адно было ведама, што амаль у кожнай хаце было па трое-чацьвёра дзяцей у школьным веку, а да гэтых даходзілі й перарослыя, якія таксама маглі прыйсьці ў школу. Яшчэ ня ясна было, якія гаспадары пашлюць дзяцей, а якія не пашлюць.

Пачатак заняткаў у школе прыпаў прыблізна на палавіну лістапада, калі ня было пільнай працы падлеткам пры малацьбе, а меншай дзетвары ня трэба было пасьвіць жывёлу.

На першы дзень заняткаў у школе сабралася шмат вячняў ды іхных мацярок, а нават крыху мужчынаў. Я прыйшоў у школу вучыць сваіх сяброў разам з выбарным. Ён, як улада нашай вёскі, уважаў за абавязак «прадставіць» мяне, як «дырэктара» школы і бацьком і школьнікам. Хоць я ўжо й працаваў з паўзімы прыватным памагатым настаўніцы Ядзі ў інаўскай школе, то ўсё-ж перад пачаткам працы я хваляваўся. Я найбольш непакоіўся, ці змагу ўтрымаць патрэбную дысцыпліну ў школе. Тут-жа сярод вучняў было шмат маіх равесьнікаў, маіх сяброў. Яны часамі маглі-б мяне набіць і скампрамітаваць перад школьнікамі, ды перад грамадзтвам вёскі. Я змабілізаваў усе свае сілы, каб перамагчы хваляваньне й духовы неспакой. Але трывогі маёй нельга было схаваць, бо выбарны, падыходзячы да Памасёвай хаты сказаў: «Ты, брат, не трусі, я тут навяду такі парадак, што будуць цябе баяцца й вучыцца, як міленькія».

Калі мы ўвашлі ў хату, дык там гуло як у вульлі. Усе нас сустрэлі позіркамі павагі й дзелавітасьці. Усе замоўклі й глядзелі на нас. У гэты час, нечакана нават для мяне, Стасюк Хвашчонак пачынае паказваць сваю ўладу. Гучным голасам падае каманду: «Устаць! Што вытарашчылі вочы, як авечкі! Ня відзіце, што ў клас увайшоў вучыцель з выбарным!»

Усе спахапіліся, і вучні і бацькі, і стаялі нярухома, як тычкі, глядзелі на нас і як быццам чакалі далейшай каманды. Стасюк моўчкі ўсіх абвёў сур'ёзным позіркам і скамандаваў: «Садзецеся!»

Бацькі яшчэ не пакідалі клясы, як-бы чакалі на нейкія спэцыяльныя інструкцыі ад настаўніка й выбарнага, а можа хацелі закрануць некаторыя пытаньні, зьвязаныя са школай. У клясе запанавала мёртвая цішыня. Тады Стасюк выняў з-за пазухі нагайку на казьлінай ножцы, патрос ёю перад аўдыторыяй і сурова пра-

мовіў паказваючы на мяне: «Вот вам Марыян Юзюка Дамінічонка (наша вясковая клічка была Дамінічонкі). Ад сёньня назначаецца ён вашым вучыцелям. Вы павінны яго слухацца яшчэ больш, як сваіх бацькоў. Ён будзіць вучыць вас чытаць, пісаць, лічыць і маліцца Богу па ксёнжцы. Калі каторага за дурную навуку ці за тое, што будзіць дурэць і другім мяшаць вучыцца, паставіць у кут на калені, то павінен слухацца й сваю кару адбываць. Кожны павінен яго паважаць і слухаць. А калі каторы будзіць непаслухмяны, ды яшчэ й дрэнна вучыцца, то я, прыйшоўшы, вот гэтай нагайкай скуру зьніму, задніцу сьпішу так, што нядзелю ня прысядзеш. Ну, дык што, будзеце слухаць свайго вучыцеля?» Усе хорам, адказалі: «Будзем!»

З гэтай урачыстай хвіліны стаўся я паўнапраўным «дырэктарам» школы ў Цяцерках, дзе ніколі ня было ні польскай, ні расейскай школы, апрача такой, у якой вучыла мяне цётка Паўліна.

Выкладовай мовай у гэтай школе-самародку была мова беларуская, бо расейскую й польскую мову ведаў я слаба. Усе паясьненьні на лекцыях адбываліся ў беларускай мове.

Праграмы школьных заняткаў ня было, ня было й падручнікаў ні польскіх, ні расейскіх, ні беларускіх. Падручнікам была кожная прынесеная кніжка ці часапіс. Найбольш было «падручнікаў» у польскай мове, у асноўным малітоўнікі. Хатнія заданьні я даваў кожнаму па тым падручніку, які хто прынёс. Практычна выходзіла так: колькі было вучняў у школе, гэтулькі й клясаў, бо кожны меў свой узровень, сваё заавансаваньне й сваю літаратуру. Гэта што да навукі чытаньня. Пісаньне й арытмэтыку можна было навучаць групай. А фактычна ўсе належалі да адной групы пачынаючых.

Праца ў Цяцерскай школе аж да вясны адбывалася нармальна. Ніякіх большых канфліктаў між мною й вучнямі ня было. Як-ніяк завадыякі баяліся абяцанай нагайкі на казьлінай ножцы, якую не пасаромеўся-б пусьціць у рух наш «школьны інспэктар» Стасюк Крывашонак, якога ад часу заснаваньня школы ў Цяцерках вяскоўцы празвалі «шпэктар».

Вяскоўцы былі вельмі задаволеныя са школы й з настаўніка, а таму «апазыцыя» скапітулявала й таксама паслала сваіх дзяцей у школу. Слава пра Цяцерскую школу пачала разыходзіцца ў навакольлі, ад чаго мае бацькі ганарыліся, і мяне пачалі больш паважаць дома.

На працягу ўсёй зімы школа папаўнялася новымі вучнямі, асабліва пераросльмі. Заахвочваў іх той факт, што настаўніку ня трэба было плаціць, хіба толькі раз зьезьдзіць па дровы для школы. Уборшчыца таксама была бясплатная. Прыбірала школу Панасёва нявестка. Для мяне й маіх бацькоў заплатай быў гонар і пашана настаўніка.

Працаваў я ў гэтай школе аж да вясны. Пачалі таяць і пацямнелі ад бруду сьнежныя гурбы. Пачала на прыслоне на лугох ды йржэўніку паяўляцца зялёная травіца, пачалі зьнікаць са школы й мае вучні. Спачатку пагналі пасьвіць авечак, пасьля карміцеляк-каровак, а большыя мае вучні ўзяліся за сохі й плугі ды пайшлі рыхтаваць родную зямельку пад пасевы прышлых ураджаяў. Школа закрылася, а я таксама пайшоў за плугам, у які быў запрэжаны наш бедны сьляпы Мішка.

(далей будзе)

Ант. АДАМОВІЧ (ЗША)

# МАСТАК НЯТУСКНАЕ КРАСЫ

## працяг

Зусім інося ў вершы «Я не паэта». Тут Купала прадстаўляў сябе самога, аўтара адчынянае гэтым вершам ягонае першае кнігі, публіцы ўжо чытацкай, а часткава можа й «пісацкай», што заглядалася на паэтаў, ато й сама рвалася ў паэты, уяўляючы сабе гэтых апошніх як гэрояў «славы», прытым славы, «разношанае па сьвеце», сусьветнае славы, носьбітаў вянкоў і звону пахвалы. І была гэта публіка небеларуская, у кажным разе небеларускамоўная, барждэжэй за ўсё расейскамоўная, бо беларускага чытацтва яшчэ-ж ня было, быў адно адзінкавы чытач пабеларуску, што найчасьцей супадаў у вадней асобе зь беларускім аўтарам-пісьменьнікам. Дык перад гэткаю публікаю найбольш выпадала прыймаць паставу сьціпласьці, калі так сказаць, прысьціпленьня, яшчэ дакладней — самапрысьціпленьня — «я не паэта», «ня рвуся», «завуся я толькі Янка Купала».

Ды адразу давалася вычуць, што сьціпласьць гэтая, самапрысьціпленасьць, як сказана, «падшытая іроніяй» — адразу магло выдацца, ськіваванай на сьціплую асобу самога аўтара, а чым далей, тым больш праясьнялася — кіраванай на тую-ж публіку, на ейныя ўяўленьні пра паэта — «ат! ведама зь вёскі» (адвечнае «што можа быць добрае з Назарэту»), «от, ведама, просты», «от, ведама, здумаў», на ейныя ўяўленьні пра Беларусаў наагул, як пра народ беспаэтавы, бязьлітаратурны, што «нікога-ж ня мае», пра беларускую мову як пра «убогую», пагарджаную — толькі тут, асабліва ў удакладняльных словах «горка, нядбала» іронія прабівалася балючым дакорам свайму «люду», ды далей усё пакрывалася ўжо бяз усякай іроніі лятуценьнем пра бачаньне «долі ў родным народзе», як пра ўмову свае собскае «шчасьлівасьці». Фактычна гэта была тая самая публіка, перад якою стаў Купала яшчэ з сваім першым друкаваным вершам «Мужык» у газэце «Северо-западный край», адно што ў тым вершы аўтар рэкамэндаваў сябе ў роўніцы сацыяльнай, а не літаратурнай, ды рабіў-жа гэта з тым самым іранічным самапрысьціпленьнем і нат у тэй самай форме эстрадных куплетаў (дарэчы, і першы друкаваны ў «Нашай Ніве» Купалаў верш «Касцу» быў у тэй-жа форме), і нарэшце толькі — ізноў напрыканцы — прабіваў іронію ўжо ня горкім дакорам да сваіх, свайго «люду», а гордым выклікам - «крыкам» сьцьверджаньня чалавечае годнасьці й сацыяльнае жыцьцястойкасьці «мужыка», кінутым да «кажнага, хто спытае». І толькі дзіву й жалю годна, што бадай да нікога ў нас не даходзіць гэтая Купалава іронія самапрысьціпленьня, сьціпласьць бярэцца, як кажуць, за чыстую манэту, а апошнім часам нат спрабавалася бачыць за ёй аж нейкую мэгаляманію — бач, Купалава «я не паэта» мела за сабою ў думках «а нацыянальны прарок», «правадыр»!..

Пэўна-ж, іронія самапрысьціпленьня ў Салаўёвым вершы “Паэт” была куды слабейшая, як у Купалавым “Я не паэта”, выражалася ў вадным усяго радку, ды з уступальным злучнікам “хай”, бо-ж і публіка мелася на ўвеце тут іншая, і антаганізм

зь ёю ляжаў ня ў роўніцы нацыянальна-сацыяльнай і моўнай, а толькі ў літаратурнай, дый у тэй паслабляўся пэўным суступаньнем гэнай публіцы, ейнаму становішчу пісаньня вершаў "адным махам", значыцца, "пад натхненьнем", а не ў "сядзеньні падоўгу над кажным вершам" — мамэнт "натхненьня" ўжо прызнаваўся перадумоваю паэтычнае творчасьці, вершапісаньня, нат для "не паэта", які таксама піша, калі "ахоплены натхненьнем", пра "сядзеньне" ўжо нат і ня згадвалася. Крыху пазьней Масей Сяднёў, прызнаваны Салаўём за "калегу", у вершы пад зусім купалаўскім загалоўкам "Я не паэт", упяршыню выдрукаваным у № 1 часапісу "Сакавік" за 1947 г. (б. 46), ужо нат больш як пакупалаўску завайстраў іронію самапрысьціпленьня, даводзячы яе мала не да сарказму, хоць і яшчэ глыбей прыхоўванага ды адрысаванага яшчэ іншай публіцы — тэй, якой вельмі імпанавала становішча "сацрэалізму" ў дачыненьні да паэты дый наагул да паэзіі й літаратуры, хіба з заменаю толькі ў ім "сац" на "нац" — публіцы, якая засядала часта не на "галёрцы", што ёй больш прыстоіла-б, а ў партэры паваеннай беларускай эміграцыі на Захадзе, часам нат у самых першых радох. І як выявілася ў пасьлейшых вершах Сяднёва, асабліва ў саркастычным вершы "Патрыёты" (дзе, дарэчы, слова гэтае нат ня ўзятае ў двукосьсі), тое "нац" гэнае публікі найбольш і антаганізавала паэту. Тымчасам-жа ў Салаўя выклікалі іронію, а нат і сарказм, адно "трыбуны масаў" тымсамым "сац(ці нац) рэалістычным" вымаганьнем ад паэты мажору, "мэлёдыі вясны", катурханьня "масаў" — "каб маса не праспала сьвітаньня прыйсьцьннага" (верш "Мала"). Сама-ж тая "маса", пад якою разумелася звычайна ня маса ў сьціслым, фізычным сэньсе, у сэньсе і палітычна найбольш цікавай ды вартаснай, імпазантнай колькаснасьці, а тая ляерна-дыпіўская, а пасьля эміграцыйная публіка, якую назваць масаю можна было ў сэньсе толькі чыста псыхалягічным, публіка, пазначаная безасабовасьцяй і бяздуховасьцяй, часта й бяздушнасьцяй, а таксама — і для Салаўя гэта было на першым месцы, тымчасам як у Сяднёва, прыкладам, у вершы "Маса" на гэткую тэму (дзе слова гэтае ўжо ў двукосьсі) нат ня згадвалася — натаўраваная нацыянальнай абыякавасьцяй аж да безнацыянальнасьці, сама тая публіка-маса бачылася Салаўю як "бязродны (значыцца, у пераносе на людзей — безнацыянальны) гурт скапычаных кароў" з правадыром-быком, ведзены ім "на скон" па "коўзкай лёднай строні", іронію да сарказму выклікалі бясплодныя, за "сілу духу" падаваныя натугі сухіх, "зусім нішчымных", у якіх "мякіна — мозаг", няйначай актывістых з тае-ж "масы", дамагчыся выпладу нейкіх "куранятаў", сеўшы "за квактуху" на дэфэктным, "баўтуновым" ейным матар'яле (верш "Нішчым"). Адражалі паэту й "пустыя выгукі" таксама-ж "нішчымнае", сухое нацыянальнае рыторыкі "бяз душы, бяз сэрца" (верш "Лісты на ветры"). Але **змагары**

**народу** ў Алеся Салаўя не траплялі ў іранічныя двукосьсі, былі ў высокай пашане, як мы ўжо бачылі вышэй, закрануўшы мімабегам прысьвечаны ім санэт.

Яшчэ застаецца тут прыгадаць пра той выпадак апошняга, у самым канцы падсавецкага пэрыяду паэтавага жыцьця, няпрызнаньня, які зваліўся на паэта з узвышша "рэдактурнага" эшалёну савецкае літаратурнае публікі ды пра які згадвалася ў нашых нататках выпадак больш агульнага няпрызнаньня тых "даўных формаў" вершу, упаасобку формы санэту, што найбольш прыцягвала яго тады. У беларускай савецкай літаратуры гэтае агульнае няпрызнаньне-асуджэньне ўпяршыню пала ў 1931 г., калі наш Алесь яшчэ толькі другі год хадзіў у пачаткавую школу — ведамыя грамілы Бэндэ й Кучар у сваіх, у вабставінах часу ўспрыйманых проста як дырэктыўныя, "Матар'ялах да нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры" (у часапісе "Маладняк", № 6-7 за 1931 г.) выпісвалі, у сувязі з Максімам Багдановічам, аж гэткае нясусьветнае (на б. 124):

«Культываваньне розных дасканалых форм вершаў — санэтаў, трыялетаў, актаў, тэрцынаў, рандо й г. д., форм, якія ў большасьці панавалі ў нісходзячых кляс у гістарычным разьвіцьці пры агульнай ідэёвай убогасьці творчасьці Багдановіча ператварала гэтыя дасканалыя формы ў звонкія «побрякушки» з выхалашчаным пустым зьместам...»

А ўкраінскі паэта й вершазнавец Ігар Качуроўскі, зь якім пазьней запрыязьніўся Алесь Салавей, у згадванай ужо намі сваёй грунтоўнай працы "Строфіка" зрабіў (на бб. 114-115) у дачыненьні да іншых савецкіх літаратураў адпаведную спасьцярогу пра:

выключэньне з ужытку кананізаваных строфаў у расейскай літаратуры. У ўкраінскай — як вынятак — санэт быў пакінуты жыць разам з Максімам Рыльскім, але варта згадаць, што пры цкаваньні Рыльскага яму закідалі й тое, што ён піша трыялеты й вянкі санэтаў (якіх ён, дарэчы, і ня пісаў).

— Чаму гэта рондо? — з націскам на першым о папыталіся некалі ў аўтара гэтае кнігі ў ваднэй рэдакцыі, куды ён прынёс быў свае школьніцкія вершавыя спробы. У пытаньні вычувалася абава — а ну-ж гэта нейкая контррэвалюцыя?

Як бачым, няпрызнаваньне "даўных", "клясычных" паэтычных формаў, што гэтак было ўразіла нашага паэту, мела за сабою ўжо трывалую дый доўгатрывалую традыцыю ў цэлай, нятолькі беларускай, савецкай літаратуры.

## Вытокі кантактаў з паэзіяй Максіма Багдановіча.

Пра кантакт Алеся Салаўя з паэзіяй Максіма Багдановіча нам ужо даводзілася згадваць, і не аднойчы, цяпер пара прасачыць самыя вытокі гэтага кантакту.

Пэўна-ж, ужо ў гадох свае школьнае навукі паэта наш быў, сказаць-бы, адчынены для гэткага кантакту, хоць мо й ня гэтак шырака, як для кантакту з паэзіяй Паўлюка Труса, што, як мы бачылі, выразна адбіўся на першым друкаваным вершы паэты. Хоць Максім Багдановіч таксама памёр, дый яшчэ куды раней за Труса — аж перад Кастрычніцкай рэвалюцыяй — і затым таксама ня было небясьпекі, што яго пасадзяць ды тым самым высадзяць ягоную творчасьць з школьных праграмаў, але затое ў пары пагрому "беларускіх нацдэмаў" і ў парадку яго паэзія Багдановіча была трапіўшы пад нож, і хоць і ня зусім зарэзаная, але адчувальна падрэзаная. Кагадзе нам даводзілася цытаваць, што пісалі грамілы Бэндэ й Кучар пра гэтую паэзію ў сувязі з культываваньнем у ёй санэтаў ды іншых, як казалі яны, "дасканалых формаў вершу". Але ў гэным Бэндэ-Кучаравым опусе ў "Маладняку", № 6-7 за 1931 г., зь якога мы цытавалі, Багдановіч наагул разглядаўся пад рубрыкаю "буржуазных пісьменьнікаў эпохі буржуазна-дэмакратычнае рэвалюцыі", адразу-ж бэзапэляцыйна цьвердзілася, што "Максім Багдановіч зьяўляецца найбольш яскравым прадстаўніком беларускай буржуазіі пэрыяду пасьля 1905 г. да Кастрычніцкай рэвалюцыі" (б. 122), што "творчасьць Багдановіча была рэакцыйнай па самай сваёй сутнасьці", і нарэшце, што "нацыяналізм Багдановіча даходзіць да крайнасьці, ён напаўняе ўсю творчасьць паэта" (б. 123).

Як мы ўжо згадвалі, да Бэнда-Кучарскіх выраканьняў у тым часе (як і да ўсялякіх "антынацдэмаўскіх", зрэшты) ставіліся проста як да дырэктыўных. І пэўна-ж, ня спушчаліся яны з вока пры выпрацоўваньні, а асабліва пры выкананьні школьных праграмаў беларускае літаратуры, дый ня мог ня мець іх на воку й кажны выкладчык гэтае літаратуры, мусіў-жа і ён падыходзіць да твораў "найбольш яскравага прадстаўніка беларускае буржуазіі", "рэакцыянера", а галоўнае — "скрайняга нацыяналістага" — із скрайняю таксама асьцярогаю ды гэтак моднаю тады "пільнасьцяй". Але-ж Багдановіч як-ні-як належыў усё-ж да клясыкаў беларускае літаратуры, зусім безь яго абыцца было нельга, як лёгка можна было пазбыцца "пралетарскіх клясыкаў" Чарота й Александровіча. Дык у школьную праграму, натуральна, адбіраліся з Багдановічавых вершаў рэчы, у нацыянальным сэньсе як мага больш нэўтральныя, гэткія, як верш "Над возерам", або як ягоныя "зімовыя вершы" — "Зімовая дарога", "Зімой" ( а тут якраз была й гэтак высока цэненая з узгадавальнага гледзішча, дый наагул, бадзёрасьць настрою), або нехарактэрныя для гэтага пачты, але затое як-бы ня грэшныя тэй "буржуазнасьцяй" вершы "мужыцкія" — "Зь песьняў беларускага мужыка", "Пан і мужык", што зусім прылягалі да гэткіх-жа вершаў Купалы й Коласа. Калі й даваўся — ня мог-жа проста не давацца! — гэткі Багдановічаў шэдэўр, як "Слуцкія ткачыхі", дык у інтэрпрэтацыі яго ўвыдатнялася ніяк не нацыя-

нальная ідэя, праводжаная наскрозь, ад першага радка ("Ад родных ніў, ад роднай хаты") і да апошняга ("Цьвяток радзімы васілька"), а другарадны тут мамэнт "панска-мужыцкіх" дачыненьняў ("у панскі двор . . . яны, бяздольныя, узяты"). Даваўся й верш "Мяжы", пэўна-ж, дзеля ягонае "антыкапіталістычнае" сьціраванасьці, ён быў і сярод рэкамэндаваных да звучваньня напамяць. Давалася й "Ня кувай ты", як ілюстрацыя да біяграфіі паэты . . . Але-ж пра "Пагоню" зь ейнай гэткай высокай нацыянальнай тэмпэратурай і падумаць нельга было — яна была ўжо за сямю замкамі ў спэцфондах, што паглынулі акадэмічнае выданьне Багдановічавых "Твораў" 1927-1928 г.г. на вельмі доўга (калі адразу-ж па вайне давялося ў Нямеччыне спаткацца з адным сябрам студэнцкіх гадоў, ён, як пра нейкую выдатную адзнаку "лібэралізацыі рэжыму", радасна паведаміў, што "дазволілі "Пагоню" . . .).

Тым-жа часам першы ўжо не ў савецкіх абставінах у № 1 "Менскае газэты" за 1942 г. друкаваны яшчэ пад псэўданімам "Максім Блакітны" верш нашага паэты "З Новым Годам" адразу здраджаў знаёмства ягонага аўтара з Багдановічавай "Пагоняй", найперш і найбольш — з тэю страфой, якою яна была напісаная. Ды гэта можна выясьніць вельмі проста, але ўжо на аснове ўспамінаў зь першых часоў бытаваньня тае "Менскае Газэты", ейнае рэдакцыі, куды прыйшоў на працу наш паэта. Рэч у тым, што ў рэдакцыі гэнай тады паўстала была ідэя паспрабаваць на аснове Багдановічавае "Пагоні" — вершу пра нашую нацыянальную эмблему-гэрб — стварыць другую нацыянальную эмблему — нацыянальны гімн. Тэкст вершу быў размножаны машынапісна ды пашыраны ня толькі ў рэдакцыі, але й сярод нацыянальнага актыву, зьвязанага зь ёю, а можа нат і выдрукаваны ў "Менскай Газэце" яшчэ ў 1941 г. — ня маючы тымчасам пад рукамі ейных нумароў з 1941 г., нельга цьвердзіць пра гэта з пэўнасьцяй. *)

*) У 1942 г. тэкст гэты зьмяшчаўся ў «Беларускай газэце» два разы — у № 35 за 24 траўня ды ў № 55 за 1-га жніўня, і ў «Голасе вёскі» ў № 16 за 28 траўня. Кампазытар Мікола Равенскі ўзяўся стварыць музыку, але неўзабаве мусіў перабрацца зь Менску ў Чэрвень (якому было зьвернутае ягонае гістарычнае ймя Ігумань), быўшы ня ў стане існаваць на мізэрным заработку скрыпача ў аркестры Менскага гарадзкога тэатру, затое кампазытар Мікола Шчаглоў напісаў аж два варыянты, адзін зь іх шырака ведамы й цяпер на эміграцыі (ноты былі ўпяршыню паданыя ў № 55 «Беларускае газэты» за 1942 г.; Равенскі сваю музыку напісаў пазьней). Аднак нацыянальны беларускі актыў ня прыняў гэтае ідэі, у ролі нацыянальнага гімну замацаваўся «Ваяцкі гімн» — «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» музыкі Уладзімера Тэраўскага на словы Макара Краўцова (словы былі паданыя ў № 19-20 «Беларускае газэты» за 29 сакавіка і з нотамі — ў № 47 за 4-га ліпеня 1942 г.)

Як супрацоўнік рэдакцыі, наш паэта ня мог ня мецьадбітку гэтага тэксту, і адсюль, выглядае, першы кантакт у яго з Багдановічавай "Пагоняй" ды, хіба, пачатак блізкога, цеснага кантакту з Багдановічавай паэзіяй наагул. І кантакт з "Пагоняю" найперш, як ужо згадвалася, завязаўся тут на базе строфікі, зусім падобна, як на гэткай-жа базе грунтаваўся кантакт з паэзіяй Паўлюка Труса ў першым друкаваным вершы нашага паэты "На сенажаці", пра што намі казалася ўжо вышэй. І зусім як тады, магло тут спрычыніцца й школьнае звучваньне вершаў напамяць: рэч бо ў тым, што тэю самаю страфою, што й "Пагоня", у Багдановіча напісаны й адзін зь "зімовых вершаў" ягоных — верш "Зімовая дарога", зь якім мог знаёміцца ды нат звучваць напамяць у школе наш паэта. Дык, як і ў выпадку зь першым друкаваным вершам нашага паэты, магчыма звучваны ім у школе напамяць гэты Багдановічаў верш "Зімовая дарога" сваёй страфой, ейным, як казалі мы ў тым выпадку, рытмічным касьцяком мог залегчы трывалка ў слыхавой памяці, так што той касьцяк мог, таксама проста аўтаматычна, усплысьці-ўстрыбнуць у памяці пры нагодзе спатканьня з гэткаю ж страфою "Пагоні" з тым-жа рытмічным касьцяком. *) ды неўзабаве пачаць, сказаць-бы, ацелаўляцца і ў собскіх творах нашага паэты, найперш у ягоным вершы "З Новым Годам", а па ім і ў пераважнай бальшыні вершаў 1942 г., стаўшыся ў тым часе як-бы найбольш улюбёнай страфой паэты ды застаўшыся сярод таксама, здаецца, вельмі ўлюбёных ягоных строфаў і ў пасьлейшых гадох. **)

---

*) Дарэчы, і вобразам першага ўжо радка — «Шпарка коні імчацца у полі» — верш «Зімовая дарога» пераклікаецца з «Пагоняю», зь ейнымі радкамі «У белай пене праносяцца коні», «Усё лятуць і лятуць тыя коні», што, сваім парадкам, як і радок «У бязьмежную даль вы ляціце» пераклікаюцца з апошнімі радкамі таго-ж вершу: «І лятуць мае лёгкія сані, унашуся я ў сінюю даль», ды навет з такім радком другога Багдановічавага «зімовага вершу» — «Зімой» — як «Вакол лятуць бары і гоні». Гэткімі пярэклікамі, сказаць-бы, шматкамі й слоўнага «мяса» на тым-жа рытмічным касьцяку, як казалася ў нас, яшчэ больш магла ўзмацняцца асацыяцыя магчыма звучваных напамяць у школе Багдановічавых «зімовых вершаў» зь ягонаю, празь «Менскую газэту пазнанаю «Пагоняй».

**) Зь вершаў 1942 г. у нашага паэты страфою гэтаю напісаныя, апрача вершу «З Новым Годам», яшчэ гэткія: «Радасьць жыцьця», «Сьпі, мой родны», «Беларусі», «Кінь сваволіць пад вокнамі, вецер», «Не пакіну», «Маладэчна»; зь вершаў пасьлейшых гадоў, у храналягічным парадку — «Толькі выгляне . . .» 1943 г. «Песьні», 1943 г., «І заплакалі . . .», 1943 г., «Добры дзень . . .», 1944 г., «Мне твая . . .», 1945 г., «Да жыцьця», 1945 г., «Так і сталася» і «Маме», 1967 г. Наагул страфою «Пагоні» напісана 15 вершаў, а 16-ты, датаваны 1937 г. верш «Ці-ж ня новае . . .», напісаны яшчэ да кантакту з «Пагоняй».

Але, як няцяжка выявіць з надзвычай вартаснага (хоць і не беззаганнага) "Мэтрычнага даведніка да вершаў Максіма Багдановіча" менскага вершазнаўца Івана Ралько (у ягонай кнізе "Вершаскладаньне. Дасьледваньні й матар'ялы" Менск, 1977 г., табліца "Паказчык строф" на бб. 101-107), страфу "Пагоні" можна ўважаць за страфу найбольш улюбёнага страфічнага тыпу і ў гэтага паэты. *)

Як нам ужо даводзілася адзначыць вышэй, кантакт з Багдановічавай "Пагоняй" у нашага паэты зусім відавочна засьветчаны ў ягоным вершы "Ты", а таксама ў іншай рэдакцыі гэтага-ж вершу "Мая Беларусь" простым цытаваньнем у вапошнім радку апошняга радка Багдановічавага вершу ды зрэалізаваны там на найвышэйшым узроўні — на ўзроўні-ўзвышшы нацыя-

*) Ралькоў даведнік статыстычна пацьвярджае ўражаньне надзвычайнага багацьця строфікі ў Максіма Багдановіча, што заўсёды складалася ў кажнага, хто толькі зварачаў увагу на Багдановічаву паэзію з гэтага боку: у 309 вершатворах Багдановіча усе ягоныя беларускамоўныя вершатворы за выняткам г. зв. «чарнавых накідаў», ня ўлічваных Ральком) «Даведнік» налічнае агулам 268 (91+93+21+63) тыпаў строфаў (ёсьць, праўда, з пару выпадкаў, якія можна ўважаць за выпадкі г. зв. «падвойнага рахунку», прычым, як можна лёгка падлічыць ужо самому, зь іх 241 тып не паўтараецца аніразу а з тых 27-х тыпаў, што паўтараюцца па колькі разоў (ад 2-х да 10-х) той тып, якім напісаная «Пагоня» — здараецца 10 разоў ( у вершах, у храналягічным парадку: «Зь песьняў беларускага мужыка» 1, «Падымі ўгару», «Ноч. Газьніца», «Зімовая дарога», «Скрылась кветамі», «Агата», «Сьцюжа, мрок», «Ужо пара», «Усё праходзе», «Пагоня»). Калі-ж улічыць г. зв. «чарнавыя накіды», сюды давядзецца далічыць яшчэ адзін, зусім закончаны гэткі накід — «Усё ў жыцьці», і атрымаем 11 вершатвораў — найбольшы лік паўторанага страфічнага тыпу, што дазваляе нам, як сказана, уважаць гэты тып за найбольш улюбёны Багдановічам. Аднак, ці найбольш улюбёны гэты тып у нашага паэты, Алеся Салаўя, наагул сказаць з пэўнасьцяй тымчасам немагчыма, паколькі ня складзены яшчэ падобны мэтрычны даведнік да ягонае паэзіі. Тут можна адно прыкінуць агульна. У нашым выданьні сбору Салаўёвых твораў «Нятускная краса» пададзена 320 вершатвораў ягоных — колькасьць гэтая бадай роўная колькасьці вершатвораў Максіма Багдановіча, бо да апрацаваных у Ральковым «Даведніку» 309 ягоных вершатвораў можна сьмела дакінуць яшчэ ня менш за 11 зусім закончаных «чарнавых накідаў», ня ўлічаных Ральком. І калі на гэтую колькасьць у Багдановіча мы маем 11 вершаў, напісаных страфою «Пагоні», дык у Салаўя, як мы ўжо адзначылі, гэткіх твораў на тую-ж колькасьць ужо 16 — блізу ў паўтара разы больш. Аднак, магчыма, што даведнік да паэзіі Алеся Салаўя мог-бы выкрыць у яго й яшчэ часьцей ужываны тып страфы — значыцца, яшчэ больш — і аж найбольш улюбёны ім тып (для тых нашых чытачоў, што абазнаныя з тэорыяй і тэрміналёгіяй вершазнаўства, можна падаць, што страфа «Пагоні» — гэта крыжавана жаноцка-мужчынска рыфмаваная чатырохрадоўка трохстопнага анапэсту).

нальна-патрыятычнага эрасу, які мы прызналі за эмацыянальную й ідэйную дамінанту Салаўёвае паэзіі. Але і ў гэтым вершы можна цяпер адзначыць, хоць і няпоўны, ды таксама зусім відавочны кантакт з Багдановічавай "Пагоняй" і на тым узроўні строфікі, пра які ў нас толькі што быў ход: страфа бо вершу "Ты", як і іншай ягонай рэдакцыі "Мая Беларусь", мае той-жа лік радкоў — гэта таксама чатырохрадоўка, такі-ж ход рыфмаваньня — яно таксама крыжавае жаноцка-мужчынскае, дый гэткі-ж памер — таксама анапэст, адно што радкі тут даўжэйшыя на адну траціну — на адну стапу анапэсту, значыцца, на тры складкі (дазволена нат меркаваць, ці не абумоўленае гэтае падаўжэньне папярэднімі перад задвукосьсенаю цытатай з "Пагоні" "словамі аўтара", кажучы тэрмінам школьнае граматыкі) *)

## У пошуках паэтычнага псэўданіму.

У вершах "Ты" й "Мая Беларусь" напэўна ўвагу ці аднаго чытача спыніць і выдасца нейкім нязвычайным — ці-то сьвежым, арыгінальным, ці мо неадпаведным, няўдалым — як каму! — эпітэт "блакітны" ў прыкладаньні да "нівы", "гоні". Але-ж, як памятаем, дык і дэбютавы верш нашага паэты ў 1942 годзе "З Новм Годам" падпісаны (дакладней — надпісаны) псэўданімам "Максім Б л а к і т н ы", які ня толькі імём "Максім" **), але й ініцыялам Б свае прозьвішчнае часткі паказвае ў бок Максіма Багдановіча, дый цэлай той прозьвішчнай часткай кіруе думку ў той бок зусім выразна. Рэч бо, перш-наперш, у тым, што ў рэдакцыі "Беларускае газэты", дзе наш паэта, як кагадзе казалася, упяршыню спаткаўся з тэкстам Багдановічавай "Пагоні", ён пазнаёміўся й яшчэ з адным Багдановічавым вершам — "Калі паласу агнявую", дзе ўжываецца — прытым адзіны толькі ўсяго раз у цэлай Багдановічавай паэзіі! — гэты эпітэт "блакітны": "І ўрэшце з краіны блакітнай ўлятае маленькая птушка" ***)

---

*) У вершы «Ты» чатырохстопны анапэст расьсякаецца пасярэдзіне, па двух стопах, цэзураю, што праводзіцца праз усе радкі вершу, у вершы-ж «Мая Беларусь» цэзураваньне парушаецца, пачынаючы ад другое страфы (у радкох 2-м і 4), праз трэйцюю (у радку 4), чацьвертую (таксама ў радку 4) па апошнюю пятую (у 3-м радку, дзе цэзуры ня прыймае пашыраная супраць вершу «Ты» цытата з Багдановіча). Ізноў-жа, дазволена меркаваць, ці ня гэтым, у ліку магчымых іншых і мо паважнейшых матываў, абумоўлены выбар рэдакцыі вершу «Ты», а не «Мая Беларусь, для зборніка «Сіла гневу*.

**) Багдановічава, як сказаў быў Жылка, «імя задумнае Максім», узяў у псэўданім ці адзін наш паэта — Алесь Каратай стаўся Максімам Лужанінам, Аўген Скурка — Максімам Танкам ...

***) А ў вершы «Падымі угару сваё вока» — у «Вянку» — (зь якім мо

Але першы паэтычны псэўданім нашага паэты "Максім Блакітны" быў ужыты ў друку ўсяго адзін раз. Каб выясьніць, чаму гэтак сталася, трэба, перш-наперш, апісаць тую сваясаблівую атмасфэру, што панавала адпачатку ў рэдакцыі "Менскае (Беларускае) газэты" й "Голасу вёскі", калі туды прыйшоў на працу паэта, адрэкамэндаваны бяз гэтага тытулу, а проста як Альфрэд Радзюк. Адразу-ж можна сказаць, што ў тэй атмасфэры, у васяродзьдзі супрацоўнікаў рэдакцыі наш Альфрэд мог пачуваць сябе вельмі блізка да таго, як чуўся ён некалі на месячнай канфэрэнцыі-курсах Саюзу пісьменьнікаў, пра што намі даволі гаварылася вышэй паводля ягонага "Кароткага жыцьцяпісу". Перш-наперш, цяпер і тут, як і тады й там быў Альфрэд Радзюк наймалодшы векам з усіх, тымчасам як сярод супрацоўнікаў рэдакцыі былі асобы з паважным жыцьцёвым і журналістычным стажам. Былі ў ліку іх і прафэсіянальныя гумарыстыя-фельетаністыя, і часткава мо дзеля гэтага, а найбольш, пэўна, у моц вельмі актуальнае для таго часу ведамае прыказкі "калі не пацешыцца, дык павесіцца", панавала ў рэдакцыі запраўды "пацешная", жартаўлівая атмасфэра — некаторыя надта, а мо й занадта паважныя, "сур'ёзныя" людзі, пабываўшы ў гэтай атмасфэры, пасьля жаліліся іншым: "Прыйдзеш да іх, а ў іх усё сьмешкі ды сьмешкі". А сьмяяліся-пацяшаліся чыста над усім, што трапляла пад руку, на вока й адтуль — на язык. Ад заражэньня гэтай жартаўлівай, гумарыстычнай атмасфэрай не ўсьцярогся й наш Альфрэд Радзюк ды сам пачаў пісаць, для "Голасу вёскі", гумарыстычныя вершаваныя фэльетоны "на тэмы дня" ў духу таго-ж Паўлюка Труса ці Крапівы (з часам, у сваім "Кароткім жыцьцяпісе" ён прасіў іншых забыцца аб ягоным аўтарсьцьве гэткіх рэчаў, пра што ўжо згадвалася на сваім месцы, гэттака адно дададзём, што гэта й былі хіба першыя ў несавецкім часе вершаваныя творы ягоныя). І гэтыя ягоныя спробы напэўна ўжо маглі таксама трапляць на языкі іншых жартаўнікоў-гумарыстых рэдакцыі. Ды куды больш датклівым для яго магло быць тое, што на языкі часьцяком, калі толькі не найчасьцей, траплялі й вершы ды вершапісцы-паэты наагул, ня мінаючы й самога "першага й галоўнага паэты" "Беларускае Газэты" Натальлі Арсеньневае. Ейныя новыя, дый старыя вершы з гумарам крытыкаваліся ды абярняся гумарыстычна парадыяваліся, некаторыя спарадыяваныя радкі траплялі і ў друк, у фэльетоннага стылю творах — сама паэтка рэагавала на адзін гэткі выпадак пазьней, не здраджаючы аднак адзнакаў якое-

---

таксама пазнаёміўся паэта) — таксама адзін толькі ўсяго раз у цэлай сваёй паэзіі ўжыў Багдановіч і назоўнік «блакіт»: «Ціха хмару б л а к і т закалыша», звыклымі для яго былі іншыя блізкія колерныя абазначэньні — «сіні», «сіняваты», «сінеючы», тымчасам як у Салаўя вельмі часта трапляюцца якраз «блакітны», «блакіт»...

небудзь зачэпленасьці ці данятасьці, уцьвеленасьці гэтым — у вершы “Абсьпяванае” (“Непісаў, хоць на жарты, адзін” — ёсьць у ейным зборніку “Між берагамі”, выданым нашым Інстытутам у 1979 г., на б. 134) *)

Але тут ужо ў нашага Альфрэда Радзюка магло зьявіцца й падозраньне, што калі “пісацкая” публіка калішняе канфэрэнцыі-курсаў Саюзу пісьменьнікаў ня прызнавала яго за паэту ды кпіла зь ягонага падыходу да паэзіі, дык публіка цяперашняя, рэдакцыйная, такое-ж мо катэгорыі, хоць і іншага калібру, публіка, сярод якое ён апынуўся, ня прызнае мо і ўсякае паэзіі, а лірычнае паэзіі асабліва наагул. І магчыма затым, яшчэ й пры сваёй згадванай ужо “сацыяльнай нясьмеласьці”, доўга не паважваўся ён выступіць пры ейным ведаме із сваймі не гумарыстычнымі, а лірычнымі вершамі. Калі-ж урэшце выступіў зь вершам “З Новым Годам”, дык пачалі разыгравацца й вакол яго прыкрыя яму справы . . .

---

*) На груньце тае жартаўлівасьці ў рэдакцыі вынікнуў і адзін пракудны дый дасюль да канца ня выпраўлены інцыдэнт нат і з Багдановічаваю «Пагоняй». Калі кампазытар М. Шчаглоў прынёс у рэдакцыю ноты свае музыкі да «Пагоні» ды дэманстраваў мэлёдыю, насьпеўваючы яе сваім зужытым ужо галаском, рэдакцыйныя жартаўнікі падлавілі, што апошняе слова песьні — «стрымаць» — кампазытар вымаўляў неяк ці то «стармаць», ці й зусім «старамаць». Адтады насьпеўваньне на шчаглоўскі матыў «старамаць» набыло сярод рэдакцыйнае публікі хаджэньне ў якасьці зусім прыстойнае, цэнзурнае замены блізка сугучных брыдаслоўных формулаў із словам «маць» (пачынаючы ад яшчэ й зусім цэнзурнае, з польскага, «пся маць») — у словазлучэньнях паводля «ах ты, старамаць тваю!», або «старамаць тваю так!» У рэдакцыі часта бываў пры патрэбе рабленьня клішаў для газэты, ато й проста так сабе, адзін мастак, які ахвоча падтрымваў жартаўлівую рэдакцыйную атмасфэру, але пры гэтым не адзначаўся ані войстрым вычуцьцём запраўднага гумару, ані дасканальным веданьнем беларускае літаратурнае мовы. Яму й давялося перарысоўваць ноты да «Пагоні» для клішы ў газэту. З клішы тае яны й былі адбітыя, як падавалася ўжо, у № 55 «Беларускае Газэты» за 1942 год. Якія-ж былі жах і абурэньне адных, сьмех і кпіны другіх ды, пэўна, і злацешша трэйціх, калі па выхадзе нумару газэты з друку пачалі заўважаць пад нотамі ў самым канцы тое «старамаць» . . . Мастак пасьля прававаўся, што думаў, што гэтак і трэба, бо так ён і чуў заўсёды. Падазравалі нейкі сабатаж, ці ягоны, ці каго іншага . . . Але «што гэтак і трэба» — думаў хіба й сам кампазытар, таксама ня вельмі каб цьвярды ў беларускай мове, бо й дасюль яшчэ ў сьпеўніках М. Куліковіча людзкуецца, як кажуць у нас, як бык — усё тая-ж «старамаць» — на месцы аўтэнтычнага, паўтаранага толькі другі раз паводля мэлёдыі ў самым канцы яе — «ня стрымаць» . . .

## У псэўданімнай гульні.

Аднэю з улюбёных гульняў рэдакцыйных жартаўнікоў было парадыяваньне псэўданімаў ды нат запраўдных прозьвішчаў газэтных аўтараў. Гэтак, псэўданім аднаго зь іх, у прыметнікавай форме, і праўда, ня вельмі каб сьціплы, даволі прэтэнцыйна, парадыяваўся як "Геніяльны", а пры вымаўленьні запраўднага прозьвішча ягонага носьбіта яно разьдзялялася на два словы, што выражалі ўжо поўную супрацьлежнасьць геніяльнасьці . . . У прозьвішчы журналістага й нат крыху паэты (паводля віленскіх стандартаў), прыбылога на становішча галоўнага рэдактара "Беларускае Газэты" зь Вільні, — адразу-ж назоў аднае рагатае жывёліны, што быў у карані таго прозьвішча, замяняўся на назоў жывёліны бязрогае й аблавухае, што адвеку была сымбалем тае-ж, сказаць-бы, антыгеніяльнасьці . . . І ад прозьвішча нашага Альфрэда Радзюка, як і ад сугучнага яму прозьвішча аднаго з супрацоўнікаў, што наяжджаў зь Вільні, адразалася пярэдняя частка, пакідаўся толькі "Дзюк", а каб разрозьніць носьбітаў гэтага тытульнага прозьвішча, віленчуку далучаўся таксама як-бы тытулярны прыдатак "Заходні", а нашаму Альфрэду — "Усходні". А пры патрэбе на месца зрэзанае наперадзе часткі падстаўляліся туды іншыя літары, каб выходзіла зусім няцэнзурна . . . Ды Альфрэд ані не пратэставаў, ня крыўдаваў і не абураўся на гэта, а й сам, здаецца, сьціха пачынаў браць удзел у тэй гульні. А тут неяк у друкарні, дзе адбіваліся нашыя газэты, Альфрэд, памагаючы пры гэтак званым "ламаньні" — афармоўваньні набраных матар'ялаў у нумар газэты, апароў незбрашураваныя чамусь — ці то рэшткі, ці лішкі, ато й забракаваныя, выкінутыя наагул рэдактурай ці й цэнзурай у вапошнім мамэньце, аркушы некаторых передваенных савецкіх выданьняў — ды прынёс у рэдакцыю. Былі тут і паасобныя аркушы — цэласьці скласьці зь іх нельга было — выданых нарэшце, па больш як дзесяцігадовым перапынку, перад самай вайной "Выбраных твораў" Максіма Багдановіча (у цэласьць, але ў вадным толькі экзэмпляры, удалося, памятаецца, скласьці адно "Гісторыю беларускае літаратуры" брыгады аўтараў начале як-бы з Кучарам, што не пасьпела выйсьці з друку перад вайною ды гэтак, здаецца, і не пабачыла сьвету ніколі). На адным з аркушаў Багдановічавых "Выбраных" знайшлася на ўсіхнае дзіва "Пагоня" — і з гэтага можна было высноўваць, што быў гэта забракаваны цэнзураю аркуш, ён хіба быў перабраны, бо ў выпушчанай кніжцы "Выбраных твораў" "Пагоні" ўжо няма *)

*) Цяпер у нашай слаўнай скарынінскай бібліятэцы ў Лёндане знайшлася й тая кніжка — «Максім Багдановіч. Выбраныя творы. Пад рэдакцыяй М. Ларчанкі й М. Клімковіча. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі пры СНК БССР. Рэдакцыя Мастацкай літаратуры. Мінск 1940». Верш «Калі паласу агнявую»

І на гэтым-жа аркушы знайшоўся й той верш "Калі паласу агнявую", пра які згадвалася вышэй, у якім адзіны толькі ўсяго раз у цэлай творчасьці Максім Багдановіч ужыў эпітэт "блакітны". Не без Радзюковага ўдзелу, а мо нат зь ягонае ідэі, верш гэты быў абыграны ў прозьвішчна-парадыйнай гульні. У вершы фігуравала "каралеўна", а прозьвішча аднаго з супрацоўнікаў рэдакцыі гучэла блізка да гэтага слова ды лёгка падстаўлялася ў верш на ягонае месца, прычым постаць самога "караля" рэдакцыйных жартаўнікоў, вэтэрана гумарыстычнага фэльетанізму, а па гэтым і рана пасівелага ў канцлягерах іхнага вэтэрана — "зэка" — добра падыходзіла пад канцоўку вершу: "І хмурыць сувора і гнеўна кароль пасівелыя бровы". Жарт, праўда, хутка забыўся, як забывалася, зрэшты, і бальшыня іх — новыя, мудрэйшыя, трапнейшыя жарты выціскалі старыя, парадыйная "каралеўна" нек не прышчапілася да таго супрацоўніка, на якога накідалася, але тут важнае тое, што наш паэта быў бясспрэчна знаёмы зь яшчэ некаторымі Багдановічавымі вершамі, хоць "скантактавацца", кажучы ўжыванай тут намі тэрміналёгіяй, зь імі хіба не пасьпеў, бо тыя аркушы не затрымаліся ў яго, адразу-ж пайшлі па руках іншых супрацоўнікаў рэдакцыі, апыніліся нарэшце і ў руцэ, што піша гэтыя во радкі, а адтуль пайшлі ў рэдакцыйны архіў, доля якога няведамая.

Магчыма, што калі наш паэта пабачыў ужо Багдановічаў

---

тут на 5-м аркушы, і на гэтым-жа аркушы павінна была-б быць і «Пагоня», якое няма. Уклад вершаў у гэтай кніжцы супадае з укладам іх у першым томе Багдановічавых «Твораў інбелкультаўскага выданьня 1927 г., зь якога можа яна й набіралася. У Інбелкультаўскім выданьні верш «Пагоня» зьмешчаны між вершамі «Усё праходзе» й «Страцім лебедзь», якія й ёсьць, толькі без «Пагоні» між іх, на тым самым 5-м аркушы, што й верш «Калі паласу агнявую», у «Выбраных творах» 1940 г.; адна балонка ў гэтым аркушы — 76 — пакінутая пустой, і ўсё гэта можа пацьвярджаць, што аркуш гэты быў перабраны дзеля патрэбы выэлімінаваць «Пагоню», а адбітак спачатна набранага аркушу з «Пагоняй» на ім захаваўся ў друкарні й трапіў у рукі рэдакцыі «Беларускае газэты». Дарэчы, на 5-м аркушы было й засталося колькі вершаў, напісаных страфою «Пагоні» — «Агата», «Сьцюжа й мрок» (якраз між гэтымі вершамі зьмяшчаецца верш «Калі паласу агнявую»), «Ужо пара», «Усё праходзе» (якраз пасьля гэтага вершу й мусіла быць сама «Пагоня») — чытаньне іх нашым паэтам магло падтрымаць і ўзмацніць у яго кантакт з гэтаю страфою. Зь іншых аркушаў Багдановічавых «Выбраных твораў» 1940 году ў руках рэдакцыі «Беларускае газэты» маглі апыніцца аркушы 6 (у ім павінен быў-бы быць верш «Кніга», якога няма — дзеля таго, што «кніга» тая ў Багдановіча — «Псалтыр» — верш мусіў быць выбракаваны цэнзураю ці рэдактураю як «рэлігійны»), 7 (тут мусілі-б быць вершы «Упалі з грудзей Пана Бога» й «Каганцу» — іх няма хіба таксама з матываў «рэлігійнасьці», ды яшчэ-ж і «нацыяналістычнасьці») і 8 (на ім павінен быў-бы быць верш «Грамада зорак «Карона»).

“Вянок”, ён мог зьвярнуць увагу ў ім на верш “Падымі угару сваё вока”, дзе, як згадвалася, адзіны толькі ўсяго раз у цэлай сваёй паэзіі ўжыў быў Багдановіч слова “блакіт” (дарэчы, верш, напісаны тэю-ж страфою, што й “Пагоня”), верш, які й настроем сваім мог асабліва закрануць нашага паэту, тую ягоную, як казалася ўжо у нас, “паэтычную натуру”, пры якой, як цытавалі мы паэтаву ўдаву, “яго зусім ня цікавіла зямное жыцьцё . . . Ён жыў далёка ў прасторы, у сузор’ях” — скажам мы тут, “угары”, куды “падымаў сваё вока”, “у сіняй вышы” Багдановічавага вершу, “дзе няма ні нуды, ні клапот” — ды адкуль, ізноў-жа словамі ўдавы — “ён так пасапраўднаму ня здолеў апусьціцца на зямлю”. З гэтага вершу Максіма Багдановіча, ці не, але “блакіт”, мабыць, нек “ціха закалыхаў”, як тую хмару ў гэным вершы, паэтычную натуру нашага Альфрэда Радзюка ды захацеў ён стацца, ці хоць-бы падпісацца, таксама Максімам — і яшчэ й Блакітам — псэўданімам “Максім Блакіт” і быў адразу падпісаны ягоны дэбютавы ў “Менскай Газэце” верш “З Новым Годам”. Ды калі пабачылі гэта рэдакцыйныя жартаўнікі на карэктурных адбітках — адразу-ж і абыгралі — быццам-бы не рашчыталі добра — прачыталі заміж “Максім Блакіт” — “Максім Блакнот”. Не сказаўшы нічога, гэты Блакіт-Блакнот пабег праз усё места — ад “Плошчы Свабоды” на Камароўку — у друкарню ды пасьпеў яшчэ надтачыць той свой “блакіт” прыметнікавым канчаткам “ны”, і ў выйшлым у сьвет нумары газэты ўжо стаяла “Максім Блакітны”. Ад жартаўнікоў аднак не схавалася гэткая датклівая рэакцыя носьбіта псэўданіму, і той падпраўлены псэўданім адразу-ж і ўжо зусім зьняважліва быў перайграны ў духу прымаўкі “сіні, як пуп гусіны” . . . Мабыць, відаць было, што паэта нэрвова перажываў гэта, і яго сачылі. За дзесяць дзён па навагодным нумары “Беларускае Газэты” выходзіў гэткі-ж нумар “Голасу Вёскі”, і ў ім перадрукоўваўся верш “З Новым Годам” ды йшоў і яшчэ адзін верш таго самага аўтара — “Радасьць жыцьця”. Зьмяніць псэўданім “Максім Блакітны” над вершам “З Новым Годам” ужо нельга было — надпісаны ім верш быў-жа выдрукаваны ўжо ў “Беларускай Газэце”, але над вершам “Радасьць жыцьця” аўтар паставіў новы псэўданім — “Ал. Салавей”, што пасьля — зь нескарочаным больш імём “Алесь” — і стаўся, сказаць-бы, ягоным каронным псэўданімам, а тут паводля ўсіх дадзеных, што тымчасам ёсьць у нас, зьявіўся ўпяршыню. Можна, дазволена меркаваць, што да зьяўленьня й гэтага псэўданіму спрычыніўся той-жа Багдановічаў верш “Калі паласу агнявую”: то-ж бо там “маленькая птушка”, што “з краіны блакітнай ўлятае” ды “запявае, што ёсьць і вясна, і каханьне, і шчасьце бязь меры, бяз краю, і першая горыч растаньня” — і ёсьць ніякая іншая птушка, як салавей.

(працяг будзе)

Язэп ПУШЧА

## ПЕСЬНЯ ВАЙНЫ

(1914 - 1915)

(працяг)

Кроў білася ўсьпешаным пульсам;
цень смутку ляжаў на брыві.
Маўчалі пунсовыя вусны,
цалуючы ружу крыві.

Хоць цела страшэнна азябла,
усё-ж стройнаю постаць была.
Лісты абрываліся зь яблынь,
лістамі шуршала імгла.

Крыху ачуняю як толькі,
на вуліцу тую пайду;
засьвецяць над горадам зоркі,
тваю разгадаю хаду.

Здалёк падзіўлюся на строі,
у вочы маўкліва зірну.
Душу ўсхвалююць настроі,
бы ветры вясной ярыну.

Ёй песьню, я ведаю добра,
складу не адну давідна.
Мне блізкаю нейкай і роднай
яна ўсяго толькі адна.

Імя дарагое — Марыя —
пачуў, калі везьлі ў шпіталь.
Сады й бульвары сырыя
шумелі ў асеньнюю даль.

9.

Туман над полем пыліць,
вятры разносяць гар.
Над шляхам плойма пылу
бы шэрань сыпкіх хмар.

У тры рады павозкі,
на сотні вёрст абоз:
дубовых сьпіцаў лёскат
і зьвяк старых атос.

Гнядое ржаньне коней,
падкоў адцоклы лязг.
Куды й хто іх гоніць?
Кастроў мігае бляск.

Трарахкі клёкат колаў
счарніў зь зямлёй траву.
Гурты худой жывёлы
ад голаду равуць.

Абапал рэчкі шустрай
прыстанішча-начлег;
глядзяцца зоркі ў люстра
з сваіх блакітных стрэх.

Зьнябытых адпачынак,
а колькі бегатні,
Мая, мая Айчына,
у жалобе ночы, дні.

Палаюць на іх шчоках
агні . . . агні . . . агні . . .
Па цьвердай грудзе цокат
казацкае ганьні.

З пад пунь нясуць салому,
трашчаць сяліб платы.
Усюды трушчаць, ломяць
пад словы калатні.

«З агнём пайшло ўсё наша,
няхай ідзе й другіх.
Мы ўсе ў магілы ляжам,
замкнём жыцьця кругі.

Мы сёньня — людзі гневу.
І шлём цару праклён.
Зьбіраем словы ў жмені
сваіх пакутных дзён.

Скарынку хлеба просім;
як не, то й так бяром.
У душы й сэрцы восень,
журба між хмурых броў.

Дачок казакі гвалцяць,
а жонак сьмерць бярэ.
Лепш пальцы даць пад вальцы,
чым трушчыць у ярме.

Мы сталі жабракамі,
нас гоняць, як сабак;
у торбу дораць камень,
у ім — спагады знак.

Страшныя дні выгнаньня
вядуць у край чужы.

У раскопаным кургане,
жыцьцё дзяцей ляжыць.

Вайна, вайна ліхая,
са сьвету вас зьвядзе.
Краіну хто адхаіць
у гэтакай бядзе?

Наўкол вачыма гляньце:
наш дом датла згарэў;
краіну вораг гвалціць,
а жонак сьмерць бярэ.

## 10.

Лясы, прымеце да сябе мяне:
хачу забыцца, адпачыць душой.
Мо сьціхне раны боль і сум міне?
Ішоў, падковы шчасьця не знайшоў.
Дазвольце сесьці на апаленым карчы.
Што бачу я, што бачыў ідучы?!
Прастор убор зялёны свой знасіў,
зімы й восені марозны стык.
Са сьвістам розгі расьсякаюць сінь,
вятры паабшчыпалі з дрэў лісты.
Каровы бяспрытульныя равуць,
на межах згорбленых быльнёг ірвуць.
А коней капыты капыцяць рунь —
вярнулася дзікунская пара.
Хвасты зьвіняць у сотні струн,
музыка-сівер жаласна зайграў.
Даўно, даўно ня чуў такой ігры;
ўхапіцца я хачу за хвалі грыў.
Ухапіцца і ў бяспамяцьці гукнуць:
Імчы, гарачы, жвавы мой Пэгас,
імчы к разьбітаму акну!
Настаў, прыйшоў да нас жахлівы час.
Жыве на поплаве сям'я, радня,
накрыўшы туманом жалобны стол.
Гарaць грамніцы ноч усю да дня,
капае брат сястры азглелы дол.
У гэты год, закляты й ліхі,
каму ў радасьці сьмяяцца, жыць?
Скапаны на магілы ўсе шляхі,
усюды, скрозь панурыя крыжы.
Пад імі кленчаць зоры й вятры,
пад імі кленчыць выгнаны народ.
Сьпяваюць ранкам рэквіем віхры:
«Бясслаўна гіне чалавечы род...»

Паэтам цяжка быць у час такі:
душа зайходзіцца ад горкіх слоў.
Калі гарматамі грымяць вякі,
ня ўскінуць песьні дымавых заслон.
Яна пад імі ў змрочным забыцьці
праходзіць ночы ціхаю хадой.
Змаўкае кананада у жыцьці,
зьяўляецца й яна страшной, худой.
А мне ў агідны і крывавы дзень
Марыі песьні суджана дарыць.
Людзкі галосіць пры дарозе цень,
старыя сосны плачуць у бары.

11.

Зьмяніўся Менск няшмат,
віюцца вуліцы ўсё тыя-ж.
Глядзіць гандляр з-за грат
і лічыць сотні залатыя.

Зайздроснаю рукой
аблапаў ён зямлі багацьце.
Касьцюма модны крой
адсьвечвае ангельскім глянцам.

Індустрыі пару
ён праслаўляе ў час вячорны;
ён воін і патруль
славутай сьцені — біржы чорнай.

Валютчыкі вайны
у банк нясуць свае рахункі, —
нездармаж яны
зьбівалі цэлы год чыгункі.

Дзе вуліц зьбег, разьбег,
Міліцыянт з дубінай ёмкай.
Па рэечнай разьбе
усё тая-ж мчыцца конка.

Усе шыльды тых-жа фірм
у правінцыянальным стылі рускім:
бяз футурыскіх рыфм,
не ў маякоўскім рытме трускім.

Гіронія жыцьця,
даволі быць такою кплівай!
Нам трэба рытм шаўца,
каб песьні сходзіліся клінам.

Нам трэба шмат чаго,
нас гэтае і тое рупіць.
У заводах згас агонь, —
гарланяць ўсе у гарматны рупар.

Панэляй я іду,
гляджу сабак, як ловяць гіцлі;
у грудзёх займае дух,
а хочацца на ўсё дзівіцца.

І неяк міма ўсё,
у ваччу адзіны сьветлы вобраз.
Няўжо ён мара, сон?
Няўжо ён ласка, страх і грозьба?

Ня ведала зямля
яшчэ такое гераіні.
Дзе ты, дзе ты, мая
краса юнацкая — Марыя?

І дзень і ноч усю
цябе я клічу песьняй.
Тваіх вачэй красу
мне зоры ясныя прынесьлі.

Ты выйдзеш да мяне,
на рысы твару ўнікла глянеш.
Мой ціхі сум міне,
разьвеецца ў вятрох ільняных.

Нэрвовы непакой
ў суставах курчыцца каляных;
дрыжачаю рукой
ірву агідную рэкляму.

Вачмі сьвідрую рух, —
ў ім скарб нязгублены шукаю.
У сузмрочную пару
ліхтарні рот бяззубы скаляць.

Пад імі моўчкі я
ўступаю на квартал цэнтральны.
Вунь постаць нейчая
дрыжыць на пляцы тэатральным.

Юнацкія гады
ў баях на фронце ўсе знасілі...
Хутчэй пайду туды, —
магнітавая цягне сіла.

Пры ўваходзе у тэатр
Яна ходу сваю спыніла.

— Бывае шмат утрат...
І вусны сьціснула жахліва.

— Чужыя песьні тут
мне раны сэрца разьдзіраюць. —
Сыгнал... агонь патух...
Дрыжыць у вопратцы дзіравай.

— * —

Прашу, скажэце мне,
крывавых ружаў дзе нарвалі?
У якой яны імгле
маглі укрыцца ад навалы?

Дзе вырасьці маглі
з такім павевам сьнежным астры?
У якіх садох? Калі
народ пайшоў па сьвеце з кайстрай.

МАРЫЯ

Палёў нізінных шыр
апырскана крывёй гарачай.
Запушчаны пустыр
акроплены сьлязой бядачай.

Вось там Курган-гара,
вось там скрозь сьвежыя магілы;
замоўкла струн ігра,
там астры й ружы вецер хіліць.

ІСКРЫНІЧ

Якога роду вы,
што словы працінаюць сэрца?
Шалёны вецер выў...
Ня мог раней я з вамі стрэцца:

Скажэце, хоць ічуў,
завуць як вас, як вам на імя?
Я ведаць, знаць хачу
у гэты вечар хмельна-сіні.

МАРЫЯ

Бязродная, адна;
ня ведаю сваіх я продкаў.
Няйначай ужо віной вайна,
што я спаткала дзень гаротны.

Ішла жыцьцё пазнаць
і думала, што горад прыйме...

Мяне іначай зваць, —
завуць-жа ўсе — Марыя.

ІСКРЫНІЧ

Прабачце, я іду
спаткаць знаёмых за заслонай.
О, колькі, колькі дум
яна ўзбудзіла чулым словам!

Я раскажу сябрам
аб сёньнешняй сваёй сустрэчы.
Каб толькі ўсё сабраць...
Я раскажу ня раз, а тройчы.

12.

Вось тут, за рогам блізка,
даўнейшых дзён піўная.
Вось там, агонь дзе бліснуў,
прайшоў хтось у панаме.

Хадою жвава-лёгкай
ў суцемень проста смаліць.
У суцемні рот галёкнуў
і зубы сьцялі палец.

Начуе вечна й днюе
на ганку сын сабачы...
Зайду і я ў піўную
знаёмага пабачыць.

Я колісь тут спаткаўся
з расьсеяным музыкам;
сказаў яму: раскайся,
што стаў чужым заікам.

На разьвітаньне шчыра
ён мне руку пацiснуў.
Паўзьлі, паўзьлі са шчылін,
паўзьлі нямыя мысьлі.

Зайду — былое ўспомню,
забудуся пад хмелем;
спачну ад дзікай бойні;
на сьвет зірну праз вэлюм.

Цераз парог ступаю, —
рукою насьцеж дзьверы.
Зялёны дым слупамі
над чалавекам-зьверам.

Ня ўсьпеў вачмі абвесьці
прытулак гэты п'яны,
як нехта раптам з месца
у радасным зіяньні:

— Адкуль? Якім парадкам?
Сядай за гэты столік!
Расказвай-жа, братка!
Ня бачыліся столькі. —

Абняліся раптоўна
у братні пацалунак, —
я толькі тут успомніў,
што руцэрн так цалуе.

РУЦЭРН

Знаём-жа будзь з калегам:
Антокаль, — Ю. Іскрыніч.
Я горад увесь абегаў, —
шукаў твайго прыпынку.

Дачуўся, расказалі,
што ты у грудзі ранен...
Душа сьцякала жалем,
і вечарам, і раньнем.

Ня мог знайсьці шпіталю,
ў якім ляжаў, лячыўся.
Самоты дні насталі,
і сум між слоў сачыўся.

ІСКРЫНІЧ

Ніхто мяне з знаёмых
ніразу не наведаў.
Акно ў сукне зялёным
не прапускала сьвету.

За гэтаю заслонай
міналі дні ў халаце.
Два месяцы з паловай
адлежаў я ў палаце.

Пасьля — агляд камісій,
і месяц мне папраўкі.
Пятлёй пуціны завіліся,
упіліся ў ногі п'яўкай.

Хадзіў я штодзень імі
і ў муках страшных тросься.

Аб гэтым успаміны
ня здолеюць забросьняць.

Я звалакаўся ў поле,
я быў сабакам збродным,
я выць пачаў ад болю
за лёс краіны роднай.

Каму жыцьцё ручыла?
Хто быў зь людзей шчасьліўцам?
У каго ня нылі жылы
ад дзікай навальніцы?

АНТОКАЛЬ

Між нашага народу
такіх няма, ня знойдзеш.
Увесь ён гэтым годам,
у край чужацкі сойдзе.

Сыны-ж яго на фронце
за Русь сьвятую гінуць;
ня знаюць, што пад сонцам
Ёсьць недзе іх краіна.

Дый што з таго, што знаеш,
а йдзеш, ідзеш пакорна.
Што сталася вось з намі?
Уздыхаем толькі горна.

Уздыхаць так доўга будзем
і наракаць бясслаўна,
хапаць рукой за грудзі
і вершам слаць пасланьні.

Мне хочацца парою
гарою стаць вялізннай.
Каб засланіць сабою
ад бур навальных бліжніх.

(далей будзе)



## СЁЕ-ТОЕ... і яшчэ НЕШТА...

Сям'і ён аддаваў усё — апрача зарплаты.

**І верабей можа аказацца варонай.**

Каб знайсьці супольную мову, дастаткова закрыць рот.

**Цішэй едзеш — далей будзеш... ад шпіталя.**

Сустрэўшыся зь літарай права, прыкінуўся непісьменным.

**Гасьцям падавай страву перасоленую. Гарантую — многа не зьядуць.**

Настолькі любіў сябе, што не жаніўся.

**Дурань сьмяецца з разумнага, разумны — з дурня, і толькі мудрэц — сам зь сябе.**

У таго, хто трымае язык за зубамі, усе зубы цэлыя.

**Гора й радасьць яны дзялілі папалам — ёй гора, яму радасьць.**

Калі вельмі захочаш есьці, праглынеш і крыўду.

**Не задавай бязглуздых пытаньняў — можаш пачуць разумны адказ.**

Ня бачыў далей свайго носа. Таму ўсюды яго соваў.

**Хадзіў заўсёды на дыбачках: баяўся разбудзіць уласнае сумленьне.**

Свае даўгі найчасьцей пакрываў абяцанкамі.

**Вельмі дзіўна, што некаторыя мужчыны ходзяць пад руку з жонкамі, якія водзяць іх за нос.**

Будуць і ваўкі сытыя, і авечкі цэлыя, калі ёсьць казёл адпушчэньня.

**Раман у трох частках: заручыны — ён гаворыць, яна слухае; вясельле — яна гаворыць, ён слухае; пасьля вясельля — абое гавораць, суседзі слухаюць.**

Залезь у даўгі й тады зразумееш, як ты патрэбны людзям.

**Шлюб разьвязаў яму вочы, але зьвязаў рукі.**

Гаворыць гладка, а піша заікаючыся.

## ЧАСАМІ ЗДОРАВА — ЎСЬМІХНУЦЦА...

— За каго ты, Марылька, хацела-б выйці замуж: за бляндына ці за брунэта?
— Эх, дзе там разьбірваць. Не адмовілася-б і ад лысага.

— Што даражэйшае: розум ці сумленьне?
— Я думаю, розум танейшы. Каго ні сустрэну, усе мяне розуму вучаць.

— Бачу, што твой мужык справіў сабе новы касьцюм.
— Памыляесься, дарагая. Гэта я сабе справіла новага мужыка.

— Ведаеш, Мікола, не магу дагадацца, што купіць жонцы на дзень народзінаў.
— А ты ў яе спытай.
— О, не! Дзе я вазьму столькі грошай!

— Кажуць, хутка ты будзеш мець мужа!
— Магчыма, бо ўжо дзіця маю.

— Скажыце, спадар лекар, як мае справы?
— На жаль, павінен вам сказаць праўду: вы невылечна здаровы.

### КАЗА Й КАЗЁЛ

Ішоў Казёл дарогаю,
Сустрэў Казу бязрогую.
Рашылі разам жыць.

Казёл патрос бародкаю,
Прамовіў нетаропка ён:
— Скажы, а як нам быць?

Як бачыш, я прыгожанькі,
Магу зьвярнуць з дарожанькі,
Магу і падгуляць.

Мне трэба жонка строгая.
А ты Каза бязрогая.
Чым будзеш ты бадаць?

Каза ледзь ухмыльнулася,
А потым усьміхнулася,
Лагодна ў вочы зірк.

І, не адвёўшы позірку,
Тут паказала Козьліку,
Як рашпіль, свой язык.

**Няшчасьце. Побыт у шпіталі.**
**Выйшаў я бяз шванку,**
**Ды памерла хуткай сьмерцю**
**Маё конта ў банку.**

### ПЕСЕНЬКА ПРА ДАБРАТУ

І я-б хацеў начыстату
Пагаварыць пра дабрату,
Ды лепей прыйдзецца, відаць,
Старую казку нагадаць.

Калісьці дзесьці дабрата
Хадзіла ў выглядзе ката,
І вось чаго той добры кот
Дабіўся меней чым праз год.

Як зразумелі пацукі,
Што ў іх гуманны кот такі —
Сьпярша, адчуўшы дабрату,
Яны аб'елі хвост кату.

Пасьля аднойчы на двары
Ушчэнт абгрызьлі кіпцюры,
І засталася дабрата
Без кіпцюроў і без хваста.

Тады ўсе мышы, пацукі
Пакралі з вышак кумпякі
І загулялі — будзь здароў!
Бо што ім кот без кіпцюроў?

Я прытчу ўспомніў тут знарок,
Бо ў ёй даецца мудры ўрок,
Што ў дабраты, мае сябры,
Павінны быць і кіпцюры!

Г. Н.

# Вясёлы куточак



—А гэты дзядзька таксама з паўзунковай групы?




— *Падзелім па справядлівасці. Мне чатыры колы і табе чатыры...*




* * *



**Налівай!**




**Напаўняй!**



**Закапай!**



— *Жонка ў мяне добрая, толькі біцца любіць.*



**— Долар усё роўна падае, дык ці варта з-за яго кідацца ўніз, містэр!**

